абмылак, блуканьняў і праступкаў — ад нарушэньняў норм, гісторыю разьвіцьця людзкасьці, каторае, як ужо сказана вышэй, ішло іменна дарогай гэтых нарушэньняў.

Ясна, што гэты ўзгадаваўчы мэтад прысваеньня норм шмат больш эканомны за біблейную схэму ўкараненьня апошніх.

У нармальным грамадзянстве пашана да нормаў узгадовываецца з дзіцячых гадоў верай у ўзгадавальніка, павагай Божага Слова, ростам душы і радасьцяй ад свабоднага падчыненьня нормам, „дазнаньнем у духу“, а не „дазнаньнем на карку“, — іх дадатнай праверкай на дзеле, як кажуць, „дадатнай санкцыяй“, — благаслаўленьнем і благадацьцю, якія даруюцца імі нашай духовай істоце.

Гэтыя нормы і прадстаўляюць тое, што можна назваць наагул ФОРМАЮ духовага жыцьця і духовае актыўнасьці чалавека. Не здарма (—і нам цяпер ясна, чаму!) найвялікшы грэцкі філёзаф, Арыстотэль, называў Бога „Найвышэйшай Формай“.

Гэта правільна знойдзеная, як-быццам прадказаная самым Боствам, форма, быццам ідэальная судзіна, і зьберагае нашу духовую энэргію ад марнатрацтва, кіруючы яе на праведныя, правільныя, супольныя для ўсіх людзей дарогі (—„мэтад“ і значыць па грэцку „агульная дарога“).

У гэтым-то і зьмяшчаецца той прынцып эканоміі, аб якім у нас ідзе гутарка.

---

Цяпер, калі мы з гэтага новага агульнага пункту гледжаньня Нормы глянем на нашы тры мэтады барацьбы з злом і на праблему запраўднага оптымізму, дык убачым, што толькі наш мэтад „эканамічна абаснаванае духовае актыўнасьці“ зьяўляецца нармальным.

Толькі гэты мэтад мы можам радзіць, як агульную і неабходную норму паступаньня, толькі ён адзін павінен быць пакладзены ў аснову народнага ўзгадаваньня.

Ясна, што толькі гэты мэтад робіць як адзінокага чалавека, так і цэлы народ пэўным сябе і заўсягдышнім пераможцам у жыцьцёвай барацьбе, толькі ён дае ім бязьмежнае ўзвышэньне іх жыцьцёвага тыпу і, як вынік усяго гэтага, максімум стойкага, крытычна абаснаванага, оптымізму.

Хто прыходзе ў сьвет так-сказаць „на ўсё гатовае“, той будзе оптымістам, або пэсымістам, залежна ад таго, што прыгатаваў для яго прыпадак, доля. Але гэткі „догматычны оптымізм“—ня трывалы і звычайна лёгка пераходзе ў пэсымізм — ці то з прычыны няўдач, недасканаласьці сьвету, ці з прычыны перасычаньня яго дасканаласьцяй, яго дарма дастанымі цэннасьцямі... „Крытычны оптымізм“, „крытычны ідэалізм“, як называюць гэтае ўняцьце сусьвету, прыходзе ў сьвет дзеля таго, каб сваей духовай сілай дасканаліць яго, і сваю моц і трываласьць апірае не на тых цэннасьцях, якія зужывае,

а на тым тварэньні цэннасьцей, якое нясе з сабой, — на тэй творчай сіле, якую ён пачувае ў сабе, узрашчывае і дасканаліць, якое ў яго не забярэ ніякая моц на сьвеце.

Гэты наш мэтад, як з усяго вышэй сказанага вынікае, можа быць з поўным правам названы праўдзіва рэлігійным.

„Культура есть система благоговений“, вельмі ўдачна сказаў адзін з найбольш нармальных мысьліцеляў ненармальнага, насіўшага ў сабе Рэвалюцыю, Расейскага сьвету, Сяргей Булгакоў... Рэлігійная пашана да ўсяе „Сыстэмы Норм“, да „Рэальнае Нармальнае Сьвядомасьці“, якая і ёсьць даступнае нашаму разуменьню і насьледаваньню Божства, ляжыць у аснове ўсіх запраўдных перамогаў і заваяваньняў людзкасьці.

Ясна, што рэвалюцыйны мэтад, пабудаваны на самай пачатнай, біблейнай схэме ўкараненьня нормы дарогай яе нарушэньня, ёсьць самы неэканомны, някультурны, ненармальны,—нерэлігійны.

Ясна, што ён грунтуецца на адсутнасьці ў народзе нармальна перамагаючае зло духовае актыўнасьці,—на пасыўнасьці і бязсільлі народу.

Бязьмежна нарастаючы ў такім блудным, ненармальным сьвеце і не ператваранае ў дабро, Зло набывае сілу стыхіі, ператвараецца ў нейкую вечную, нязьнішчальную катэгорыю, у запраўднага „Чарта“, які папраўдзі стаецца як-быццам дужэйшым за Бога ў гэтым сьвеце, засуджаным на пагібель.

Такі стан і такое „разьвіцьцё“ сусьвету прадстаўлена ў тым кірунку расейскае літэратуры, які йдзе ад Гогаля да Дастаеўскага і Андрэева і... да Рэвалюцыі...

Як ведама, Гогаль даслоўна памёр ад страху, ад бязсільля перад гэтым усясільным „Чартом“ расейскага сьвету...

Канчальнае самаруйнаваньне ненармальнага сьвету, вынікаючае з няздольнасьці яго ператварацца ў нармальны, з бязсільля і няўменьня змагацца з злом мэтадамі духовае актыўнасьці, і ёсьць тое, што называецца Рэвалюцыяй, дзеля чаго англійскі мысьліцель Спэнсэр прапануе ўжываць больш правільны тэрмін „діссолюцыя“.

Ясна, што ўзірацца на гэтае сьляпое Фатум блуднага сьвету, як на фэтыша, лічыць Рэвалюцыю наагул нейкім сьветлым божствам, а рэвалюцыйны мэтад — тым, што можа быць пакладзена ў аснову паступаньня людзей, як правіла, як норма, лічыць, што гэты мэтад можа быць распрацаваны ў цэлую праграму, у стройную тактыку таго ці іншага груповага, партыйнага аб'яднаньня ў грамадзянстве, якое мае сілу і ўменьне бароцца з злом мэтадам духовае актыўнасьці, якое ўжо ўзыйшло на дарогу нармальнага разьвіцьця,—ясна, што ўсё гэта — адна з тых фатальных абмылак ненармальнае сьвядомасьці, якія ня толькі магчымы, але і няўхільны ў ненармальным, засуджаным, крыючым у сваім улоньні Рэвалюцыю, сьвеце...

Пасьля Рэвалюцыі можна заўсёды давясьці, што яна была абсалютна неабходна і няўхільна, што ратавацъ дадзены сьвет нельга ўжо было мэтадамі духовае актыўнасьці.

Але гэта — справа гісторыкаў.

А практычны, жывы, дасьпелы, маральна-актыўны дзеяч у такім сьвеце ня можа і ня мае права рашаць, што сіла зла ў ім ня можа быць пераможана сілаю дабра. Ен павінен верыць у праціўнае: ён ня мае права сам адракацца ад задачы ратаваньня гэтага сьвету.

Інакш ён браў-бы на сябе той суд, на які мае права толькі адзін Бог, стаючыся пры гэтым супрацоўнікам ня Бога ў гэтым сьвеце, а таго самага, толькі ад гэткае помачы яшчэ больш узмацаваўшагася, Чарта...

Як мы стараліся давясьці, для такога супрацоўніка Божага ў сьвеце ня можа, не павінна быць абсалютна непераможнага Зла!

Кожын аспэкт гэтага Зла можна ня толькі перамагчы, але іператварыць у абсалютна бязспрэчнае дабро божскай актыўнасьцяй разумнае людзкае волі.

---

У сусьвеце істнуе толькі адно „абсалютнае зло“. „Радыкальнае зло“, паводле выражэньня Канта...

Гэта — „ленасьць волі“, як кажа Фіхтэ.

Гэтае радыкальнае зло — адсутнасьць у нас ня толькі сілы, але і жаданьня быць тварцамі самых сябе, свайго духа і свайго лёсу на сьвеце, — нашая неахвота быць супрацоўнікамі Бога ў сусьвеце...

Гэтае зло — нашае падчыненьне таму, што „бывае“, а ня вольнае падляганьне таму, што „павінна быць“, што гаворыць у-ва мне голас Бога — маё сумленьне.

Абсалютнае зло — гэта нашае рабства закону так-званае „натуральнае неабходнасьці“, нашае рабскае падляганьне векавітай „інэрцыі быту“, нязьменнаму кругавароту, бязвыхаднаму колу „ўстаноўленага ладу“, „адвечнай песьні“ несьвядомае прыроды.

Абсалютнае зло — гэта дабравольнае рабства чалавека і народу, падчыненьне ч у ж о й в о л і, Прыпадку, Лёсу, — тэй ці іншай н е м а е й, н е с в а б о д н а п р ы з н а н а й м а і м с у м л е н ь н е м сіле, а в о н к а в а й і з а т ы м з а ў с ё д ы в а р о ж а й і р а с к л а д а ю ч а й м о й д у х С і л е...

Народ, які ня ўмее і ня хоча быць вольным, ня шукае разьвіцьця, радасьці і шчасьця ў сваім уласным росьце і творчасьці, — такі народ і не заслугуе на тое, каб усё гэта атрымаць у жыцьці.

І такога народу няма што шкадаваць...

Ен станецца — і мусіць стацца — „навозам“ для другіх народаў, як некалі немцы казалі аб славянах...

13.

Гэтак апошнім практычным вывадам з усяго вышэй сказанага павінна быць цэлая сыстэма новага нацыянальнага ўзгадаваньня Беларускага народу.

Гэты вывад для Нямецкага народу зрабіў некалі Фіхтэ з сваей „Філязофіі свабоды“, з сваей новай навукі аб „малым“ і „вялікім“ „Я“—у часіну поўнага разгрому і паняволеньня Нямеччыны.

Фіхтэ паставіў нямецкаму грамадзянству, як заданьне, „аднова стварыць нацыю“ дарогай новага ўзгадаваньня.

Новае ўзгадаваньне павінна стацца запраўды ўсенародным.

Апошняе зьдзейсьніць у напалову-фэадальнай Нямеччыне таго часу было вельмі трудна; затое гэта лёгка і проста, як адзінае магчымае, для Беларусі, у якой увесь народ прадстаўляе бадай выключна сялянскую масу.

Як мы ўжо казалі, даўнейшая спайка, даўнейшыя сувязі, даўнейшая адзінасьць — пляменная, этнаграфічная — цяпер ужо недастатачны.

Проці новых мэтадаў падзелу трэба ўжыць новых мэтадаў аб'яднаньня—„у Духу“, у вялікім нацыянальным „Я“.

Прыватныя эгаізмы павінны быць ператвораны ў вышэйшыя інтарэсы самазахаваньня і самаразьвіцьця народу, як арганічнага цэлага.

Духовая актыўнасьць народу павінна быць паднята на вышэйшую па сваей сколькасьці і па сваей якасьці ступеню.

Новая барацьба вымагае і новае сьвядомасьці, новае асабістасьці, новага, больш моцнага і стойкага, жыцьцёвага тыпу.

Страшэнная небясьпека абвешчанае беларусам вайны „да поўнага зьніштажэньня“ вымагае ўсенароднага гэраізму.

Нас запытаюцца няверучыя: ці магчыма гэта барацьба пры такой няроўнасьці сіл? Зажадаюць, як малаверныя патрыархі Бібліі, „знакоў ад Бога“, „залогаў перамогі“ — хаця-бы ў далёкай будучыні.

І Беларускі народ можа быць пэўным, што такіх залогаў і знакоў у Таго Бога, імем каторага адважаецца прамаўляць аўтар гэтых радкоў, — нялічанае множства!...

Аб гэтых залогах шмат ужо сказана вышэй.

Ня будзем тут давадзіць, што—ў нашы дні—дэмакратызм, народапраўства, нармальнае разьвіцьцё народных масаў — гэта-ж і ёсьць той „знак часу“, той неабходны варунак, без якога нямінуча гінуць блудныя дзяржавы, пабудаваныя на патаптаньні народных правоў і інтарэсаў. Мы толькі коратка пералічым тыя „залогі“, якія ў сваім часе знайшоў быў у Нямецкім народзе той самы Фіхтэ і выявіў іх у сваіх уславіўшыхся „Прамовах да Нямецкага народу“.

Галоўную падставу для нашага оптымізму і для нашае веры ў сьветлую будучыну Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня мы,

падобна Фіхтэ, знойдзем у „нацыянальнай самабытнасьці“ Беларускага народу.

Беларускі народ, як гэтага і вымагае Фіхтэ, зьяўляецца іменна тым „пачатным народам“, „чыстым народам“, які пры ўсіх пераменах, пры ўсялякіх зносінах і зьмешываньні з другімі народамі заховывае свой „пачатны духовы уклад“.

Фіхтэ кажа, што істнуе адзін бязспрэчны знак дзеля разьвязаньня пытаньня аб тым, ці дадзены народ—духова самабытны.

Гэта — самабытнасьць мовы.

Калі Беларускі народ гаворыць самабытнай мовай, дык у яго і ёсьць усе ўнутраныя варункі дзеля маральнага адражэньня дарогай новага ўзгадаваньня.

І аўтар гэтых радкоў, філялёг — славіст, можа з поўным правам паўтарыць, mutato mutando, сьледам за Фіхтэ яго вядомую формулу „залогу перамогі“:

„БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЬВЕДЧЫЦЬ ЗА БЕЛАРУСКІ НАРОД“.

Гэтае пачуцьцё духовае самабытнасьці і яго маральнае абснаваньне духова-працоўнай, сьвядома-творчай актыўнасьцяй Беларускага народу і павінна быць пакладзена ў аснову новага ўсенароднага нацыянальнага ўзгадаваньня.

Стварэньне такое народнае школы дзеля ўзгадаваньня і сфармаваньня Беларускага народу—вось першая задача для беларускага грамадзянства.

І гэта магчыма — павінна быць і будзе магчыма! — незалежна ад таго, які ўрад ці якое гаспадарства, — сваё „самаўладзтва“, ці яшчэ горшае зло: чужая ўлада, — будзе панаваць над нашым народам.

Гэта затым, што, як казаў і Фіхтэ, знаходзячыся пад францускай окупацыяй, „школа пераносіць самастойнасьць народу ў другую жыцьцёвую сфэру, незалежную ад урадовае ўлады і палітычнае барацьбы: у сфэру грамадзкае самадзейнасьці“.

І можам сьмела сказаць, што тое, што было магчыма і было жывым дамаганьнем маральнае сьвядомасьці ў Эўропе больш за СТО гадоў таму назад, тое — не сягоньня, дык заўтра, — станецца магчымым і зьдзейсьніцца пад націскам новае сілы дэмакратычнага духа сучаснасьці нават у Польшчы п. п. Гломбіньскага і Вітаса!..

Беларусы перш за ўсё і дамагаюцца ад польскае ўлады гэтае „незалежнасьці нацыянальна-грамадзкае самадзейнасьці“, — таго, што цяпер мае назоў „культурна-нацыянальнае аўтаноміі“.

Рэалізоўвацца гэта пачне ў меру таго, як паваенная барбарызацыя эўрапэйскага грамадзянства, гэткая сільная і ў Польшчы, будзе занікаць і зжывацца, а з другога боку будзе расьці і ўзмацовывацца нацыянальная сьвядомасьць і жывая энэргія Беларускага народу, арганізаванае дамаганьне беларускаго грамадзянства.

Тое, чаго, апіраючыся на сваю фактычную сілу і на „турэцкае“ паняцьце аб сваім неабмяжованым „сувэрэнітэце“, сучасныя паны палажэньня не дадуць беларускаму грамадзянству сягоньня,—тое заўтра будзе „заваёвана“ самымі мірнымі, нармальнымі мэтадамі нашае непераможнае духовае актыўнасьці.

Такая нармальная школа з найвялікшай для абедзьвюх старон карысьцяй разьвяжа гэткае балючае з прычыны ўжываньня імі „ненармальных“ — „рэвалюцыйных“ мэтадаў пытаньне аб такзванай „ляяльнасьці“...

Маючы на ўвеце толькі і выключна фізычнае і душэўнае здароўе беларускага дзіцяці, разьвіцьцё яго асабістасьці, узвышэньне ў ім яго працоўнае актыўнасьці, узвышэньне яго цэннасьці для грамадзянства і гаспадарства — ўсё роўна, якога, — такая нармальная школа павінна будзе — дзеля пэдагагічнае неабходнасьці — выключыць з свайго арсэналу ўсялякае палітычнае аружжа, адкінуць усе атручаючыя гэтае здароўе „ад'ёмныя мэтады“ барацьбы з злом палітычнага паняволеньня, а ўсю сілу ўзгадаваўчага ўплыву сканцэнтраваць на дадатных мэтадах, што робяць беларуса больш дасканалым чалавекам, больш неабходным дзеячом, здольным перамагаць зло акружаючага яго сьвету дарогай ператвараньня яго ў дабро.

І няхай тады, калі мінецца барбарызованы стан эўрапэйскага грамадзянства, — няхай тады Польшча — вустамі свайго першага міністра — паўторыць перад усім сьветам, што ей не патрэбна гэнае дабро, творанае ў яе межах трыма мільёнамі яе грамадзян, што для Польскага гаспадарства ўсё роўна, „злая, ці добрая воля“ кіруе трацінай насяленьня яго, як гэта нядаўна сказаў цяперашні прэм'ер Вітас!...

Ведама, гэтым Польшча вынесла-бы сьмяротны прыгавор, толькі не Беларусі, а самай сабе...

А пытаньне аб выпаўненьні гэтага прыгавору было-бы толькі справай часу...

Беларускі народ павінен толькі — цераз пасрэдніцтва сваей новай нацыянальнай інтэлігенцыі—прысвоіць сабе тую вечную праўду, што няма такога зла, якое было-б дужэй за дабро, — і чым дужэй і страшней зло, чым цяжэйшыя акружаючыя нас вонкавыя абставіны жыцьця, тым вялікшую сілу перамагаючае гэтае зло духовае актыўнасьці павінны мы разьвіць у сабе, тым мацней і цясьней павінны мы спаяцца ў непераможны, як для вонкавага, так і для ўнутранага зла, нацыянальны арганізм.

---

Чародным аспэктам сусьветнага Зла, што паўстала перад заходня-беларускім сьветам у Польшчы з усей сваей сілай гвалту і спакусы, зьяўляецца дэнацыяналізацыя.

Дэнацыяналізацыя і ёсьць расклад і руйнаваньне вялікага нацыянальнага „Я“, у жывой арганічнай адзінасьці якога, як мы вышэй выясьнілі, толькі і магчымы далейшы нармальны рост і разьвіцьцё як кожнага асобнага беларуса, так і ўсяго Беларускага народу ў цэлым.

Дэнацыяналізацыя, замест жывога разьвіцьця народнае душы, дае прышчэпленую на жывым карані народу, у якога зрэзана, як у дрэва, яго духовая карона — верхавіна, „плоскую і мёртвую гісторыю чужога разьвіцьця“, як выразіўся Фіхтэ.

У выніку гэтага з часам замірае і самы той карэнь...

Замірае ўся свая, кроўна-прыражоная „жывая чуцьцёвая абразнасьць“ жывое мовы, адбіцьцё і выражэньне таксама жывога духа...

Але ня робіцца пры гэтым жывою і чужая мова, прынамся ніколі яна не стаецца настолькі жывою, каб далей магла самастойна разьвівацца.

Жывая мова — гэта прадоўжаньне жывое прыроды чалавека, тае яго пачатнае сілы, што творыць сябе з самае сябе, — жывы мост для народу ад яго прыроды — цераз народную душу — ў вышэйшыя краіны Духа.

„Розум можна мець пры якой-хоч мове, — кажа Фіхтэ, — але чулую (творчую) душу — толькі пры жывой мове“.

Спакушаны „розум“ можа нават намовіць да здрады мовы і народнага духа. „Чулая душа“ — ніколі!.. Вось чаму паэт і жанчына — найлепш пераховываюць „чулую душу“ народу, зьяўляюцца найвярнейшымі вартаўнікамі скарбаў жывое народнае мовы...

„Muttersprache“ — ня толькі мова маткі дзіцяці, але мова Маткі народу — Маткі-Зямлі, Вялікае Маткі-Прыроды...

Жывая мова — і толькі яна — ёсьць тая асярэдзіна, у якой родзяцца жывыя абразы, што першы раз сьвятлом сваім адкрываюць перад сьвядомасьцяй чалавека акружаючы яго і дагэтуль ахутаны цемрай сьвет...

Гэтыя абразы жывое мовы — той пачатны, праўдзіва-прыродны матэрыял усяго нашага жыцьця, далейшая перапрацоўка якога і прадстаўляе ўвесь зьмест нашае духовае дзеяльнасьці.

Жывымі міфамі нявыдуманых, непазычаных, а створаных „паэзіяй“ самае прыроды ў чалавеку, слоў жывая мова зьвязуе нашу сьвядомасьць з найглыбейшымі крыніцамі будаўніцтва сусьвету, радніць з самым Богам-Айцом—Прыродай.

Дзеля гэтага жывая мова дае народу сьвядомасьць яго першатворнае запраўднасьці ў сусьвеце, яго праўдзівага сыноўства божага, — дае непарушную апору ў нетрах самае прыроды, зьяўляецца запраўды найлепшым залогам магчымасьці адраджэньня і далейшага бязьмежнага духовага разьвіцьця народу.

Жывая мова творыць і першую і наймацнейшую сувязь, што злучае народ у адзіным жывым цэлым. Гэтая сувязь — аснова ўсіх сувязей і спаек, што творацца ў далейшым разьвіцьці і аб'яднаньні народу, як вынік яго многаабразнай дзеяльнасьці і барацьбы за сваю індывідуальнасьць,—сувязей маральных, эканамічных, палітычных, нацыянальна-дзяржаўных...

Моц гэтае першаасновы, гэтае першае спайкі, забясьпечыць народу яго самастойную вольную будучыню.

Гэтае пачуцьцё, гэтае ўсьведамленьне сваей запраўднай духова-прыроднай самабытнасьці будуць для народу і новай нявычарпанай крыніцай сьветлага о п т ы м і з м у, які здабывае непарушна-крытычнае абаснаваньне, калі толькі гэтае пачуцьцё і гэтая сьвядомасьцьператвараюцца ў цьвёрдую маральную волю разьвіваць гэты найцаньнейшы ў сьвеце, дадзены Богам, с к а р б с а м а б ы т н а с ь ц і — да найвышэйшых ступеняў духовае актыўнасьці.

Дзяржыся-ж за свё р о д н а е к а р э н ь н е, Беларускі народзе! — „Бо на гэтым камяні збудуе для цябе Бог Царкву Сваю, і вароты пякельныя не перамогуць яе!..."

Amen! Amen!

*Суліма.*

**Вільня, жнівень 1923 г.**

## Сонцу узгорнаму...

Сонцу узгорнаму, што сьвеціць кожнаму,
Месяцу блуднаму, ў загадках труднаму,
Гвездкам нябесным
Байкі пішу.

Душы збалелай, з мук ашалелай,
Духаві цёмнаму, ад веку соннаму,
Цела крывага
Путы крышу.

Музе пудлівай, сумам шчасьлівай,
Ледзь пазнаванай, неадгаданай,
Сэрцу пламеннаму
Песьні нясу.

## Айчыны мілай...

Айчыны мілай зрок на сабе чую,
Куды ні пойду з самлелай душою;
Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:
Ратунку кліча — „Ратуйце з разбою!“

І над Айчынай і над сабой плачу,
Што памагчы Ей — я хворы, бязсільны,
Што словы горкі надарма я трачу:
З душ нашых вее холад замагільны...

Зрок мой дарэмна шукае выбаўцы:
Ня віджу сільных між браці паганай, —
І не чакаю з рук божага Даўцы
Ужо збаўленьня з долі апляванай.

І толькі ў самым бяздоньні няверы
Іскра надзеі у попелі тлее:
Іскра надзеі, што рана бяз меры
Долі народнай душы разагрэе.

Іскра бязвольна пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане:
Раўняці будзе даліны і горы!

Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Промэтэя,
А сам, як згіне, дасьць тастамант сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя...

## Спавіў мне сэрца жаль...

Спавіў мне сэрца жаль
На восень жоўтую;
Зрок заглыбіўся ў даль,
Жальбой гаротную:
Жаль па цудоўным сьне,
Жаль па маей вясьне...

Спавіў мне сэрца жаль
У зімку белую
І не забіў амаль
Душу збалелую:
Па сьветлых летка днях,
Па цудных ночы снах...

Спавіў мне сэрца жаль
Чароўнаю вясной;
Чырвоны, як караль,
Спламеніўся дух мой:
Па восені ўздыхаў
І жаласьцю згараў...

Спавіў мне сэрца жаль
У летнюю пару:
Між райскіх жыта хваль
Пачуў я, што умру:
І плачу вось, нямы,
За зоркамі зімы...

*Каз. Сваяк.*



# Хомчын канец.

*(З апавяданьня „За што?“ *)*

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю;
Як прыжджэшся пяску усходу,
Тады верне сын з паходу.
*Народная паэзія.*

Вайна засьпела раптам: каго ў полі, каго на сенажаці,—і адгукнуліся на страшную навіну неяк лёгкадумна і вясёла. Запасьнікі пакідалі косы, цалюткі вечар пілі і елі, быццам у вялікае сьвята, гаманілі дужа многа і абы-што, і ўсё з адбіткам незразумелай хваравітасьці, як у трасцы.

А рана-раненька па ўсіх дарогах пацягнуліся гаманлівыя ці нямыя падводы з мужчынамі й бабамі на зборніцу ў горад.

Далей была зіма, наборы некрутаў і запасных за новыя гады, надыйшла вясна, другое лета, — і здавалася, канца гэтай нудзе ня будзе...

Людзей паменшала, дзеўкі пасмутнелі бяз хлопцаў і вясёлых кірмашоў, старыя-ж сталі раздражнёныя і цераз сілу ўзьдзержаныя, як слова перад споведзьдзю ў вялікі пост.

Тужлівасьць і нуда запанавалі ў хатах. Зацяглая і нерашоная вайна як хмара павісла кожнаму ўваччу, і пад яе шэраю заслонкаю не хапала даўнейшага сонейка і вясёлых яго кос.

Не давала рады прысіленая пабожнасьць дзядоў і бабулек. У царкве было пуста на мужчынскай правай палавіцы і засмучона на дзявочай, левай. Не карціла цяпер і дзеўкам хадзіць сюды: там цяпер кожнае сьвята адпраўлялі заздароўныя малебны, а часам, і ўсё часьцей,—і панахвіды.

Дзяўчатам прыямней стала хадзіць у воласьць і на пошту, дзе было можна хоць што-небудзь пачуць аб іхных судольніках даўнейшага шчасьлівага жыцьця.

---

*) Некаторыя разьдзелы гэтага апавяданьня друкаваліся у віленскіх беларускіх газэтах за 1922—23 г.г.

Дзяўчаты мяталіся цяпер з пісьмамі, якбы ўсе яны былі пісьменныя... Але што раз то горшыя прыходзілі навіны: гарадчаніна Хвядоса, што некалісь разбурыў торг у Малкі, забіла ля арматы сваім заскепленым пры зараджаньні і тут-жа бухнуўшым знарадам; Петраку троху пашчасьціла, бо трапіў у палон здаровы (Аўдулю дражнілі векавухаю); пра многіх-жа хлапцоў ня было ніякіх вестак па цэлых месяцах—мусіць, яны былі ўжо забітыя.

Хомка цяпер рупліва спраўляў усю гаспадарскую работу: за сябе, за Петрака і за старога, хварэўшага на бязуважнасьць да ўсяго на сьвеце. Як забралі адзінага сына, стары махнуў на ўсё рукою, ня дбаў аб гаспадарцы і здаўся на батрака. l Хомка чуў павіннасьць даглелзіць усё чыста, як сваё. Ен цяпер што дзень насіў тыя старыя Петраковы боты, у якіх так нешчасьліва быў на кірмашы з Петраком, а ў сьвяты прыбіраўся ў суконную салдацкую гімнасьцёрку, якую пакінуў Петракоў брацeньнік, калі прыяжджаў дамоў з шпіталю.

Яшчэ два гады аставалася да Хомчынага году, як вось аднойчы ўвечары прыйшоў к гаспадару ўстрывожаны, аж пахудзеўшы бацька і сказаў, што і Хомку запісалі.

Усе людзі наракалі на парадкі ў воласьці: як можна гэтак памыліцца, каб запісаць хлапца раней за два наборы? Усе казалі, каб Юрка сам схадзіў у воласьць.

— Як-жа-ж так? Яны самі павінны агледзіцца, — нашто-ж яны вучоныя?—жаліўся Юрка, цягнуў-цягнуў і ткі сабраўся неяк у воласьць. Там ён меў з „глаўным“ пісарам такую гутарку:

— Усе ведаюць, пане пісар,—з не яго мяккасьцю і ўпросьлівасьцю казаў Юрка,—усе ведаюць, калі арадзіўся мой сын Хомка: на яго-ж хрэсьбінах яшчэ апрогся з перапою дзед яго, а мой бацька, хай сьвят ляжыць...

— Ах, што мне да хрэсьбін і да дзеда?—адганяўся, як ад мухі, лысы пісар;—ну, дзе-ж ты быў дагэтуль? Памеціў бацюшка пад 1896 годам, дык што я вінават? Трэ' было яму казаць! Во са сьпіскамі ня ўпраўлюся, бадай яно трыкраты сацьмела на чыстым полі... Адкасьніцеся вы дзеля бога ад мае галавы! Ня лезьце ў канцылярыю, чакайце ў зборнай!—крычэў ён на ўсіх мужчын і баб разам.

Так паповая памылка засталася памылкаю і ў пісара.

Калі Хомка пакідаў гаспадара, каб дні са два пажыць у бацькі, стары адпускаў яго ня горш, як некалісь выпраўляў свайго сына Петрака.

Увесь час ён, бедны, схіляўся к подалу даўгой кашулі абціраць вочы. Даў батраку срэбны рубель, пацалаваўся і зараз маўкліва паплёўся на гумно трэсьці салому. Безгаловая малеча дапільнавала дзеда, як ён там няма ведама і з кім брахаўся, крычэў, як баба, біў саху мятлою. Малеча кінулася ад гумна ўцякаць, каб з радасьцю пераказаць

у хатах, што дзед, мусіць, зьдзяцініўся. Але маткі не патуралі іх анвінам, прыстрашылі іх матузамі і самі невясёлыя маўчалі.

Два дні прагуляў Хомка ў сваёй хаце. Матка спрагла яму яешанку, наўмысьля для яго, і Хомцы было надта сорамна, што яму такая чэсьць. Ен падзяліў яешанку на сем роўных частак: як сабе, так і бацьком, і меншым брацішкам і сястрычкам. Пакаштаваў і сваю частку аддаў малой Тацянцы.

Начаваў ён у сяньніцы, на сьвежым сене, пад бацькавым кажухом.

Увечары надвор'е стала хмарыцца; курыўся і пыліў брызок.

Хомцы ня спалася. Дождж шуршэў на страсе, зрэдку пыхала нядужая бліскаўка, і шугаў рабінаю вецер. Вада сьцякала цурочкамі і бурбоніла ў падстаўленую маткаю пад рог страхі даёнку. І Хомка слухаў,—слухаў і думаў.

Ен меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як... І сам ня ведаў, жаль яму, ці не?

І толькі лезьлі ў галаву ўспаміны, як раней здалося-б раем у такую хлюпу ня весьці гаспадаровых коні на нашлег у поле, а ляжаць пад пакрышкаю на сухім сянцы, акутаўшыся цёплым кажухом, і пад гоман дажджавых капак думаць, што наша доля яшчэ ня дужа дрэнная.

І вось ён у бацькоў; дзеля яго праглі яешню, як дзеля дарослага, і паўнапраўнага; ён слухаець сабе спакойна, лежачы ў сухім, як ідзець дождж... Але даўнейшай радасьці і здаваленьня зусім няма,

Ен апранецца ў прыгожую „форму", што дня, як кажуць, будзе есьці любовае мяса, пазнаець вялікія гарады, шмат усякіх паноў з іх штукамі, увідзіць зялезную дарогу і электрычнасьць. І нейкае „ўсё роўна" ахоплівае думку аб сваім хатнім, дарагім і любым, ды як падумаць—жалкім і ўбогім. „Усё роўна" зьвязана і з будучынай—невядомай, страшной, а цяпер неяк і мала ўжо цікаўнай.

Калі-ж Хомку выпраўлялі, надвор'е і дарога папсаваліся ўканец, было гразка і сьцюдзёна. З неба па чароду то лілося, як з вядра, то сыпаўся брызок, дробненькі, як пыл. — „На добрую долю вяшчуе",— сказаў нехта аб пагодзе Хомчынай матцы, але матка яшчэ болей засмуцілася.

А за гаем, ужо на розстанях, сустрэлі мокрага вучыцеля. Заставіліся. І ўчыцель цалаваўся з усімі хлопцамі і Хомкам. Ен упусьціў заплаканыя непагадзьдзю акуляры з рук у лужу, і Хомка падняў іх яму. Усе глядзелі сяньня ўбок, і ўчыцель глядзеў так сама ўбок, міма Хомчыных вачэй. Можа ад жалю, а можа дзеля свае няўзоркасьці.

Паехалі. Пабрыў у школу вучыцель, паставіўшы каўнер ад дожджу, а яны паехалі.

Домна галасіла на цэлае Асмолава, і гэтае матчына выцьцё гучэла Хомцы ўвушшу, як нешта непатрэбнае і прыкрае, да самага го-

раду. Не выхадзілі з галавы і Нупрэіхіны словы: „І Хомачку бяруць —саўсім піскленка. Ці здолееe ён стрэльбу, бедненькі, насіць“...

Казарма і вучоба заглушылі тое выцьцё і тыя словы. Ат, што! Тут-жа было ў сто разоў горш, чымся ў батракох. Кормяць горш, як гаспадар Курту, заўсёды нечага ня хопіць: порцыі, ці кашы. Спаць хочацца нязвычайна. Цела ныець і сьвярбіць, якбы што па ім глабаецца. Палаці, або нары—нязручныя і брудныя. Цесна,—у невялічкім байраку дзьвесьце з гакам чалавек.—„Восьмая рота, літара Б. байрак № 29“,—мармочаць сабе Хомка. Асмолава—як сон. Ня ймецца веры, што было яно ў яго жыцьці. Яно балюча прыходзіць у галаву толькі тады, калі заможныя таварышы адзержываюць з дому грошы і пасылкі. Хомка нікому ня шлець пісьмаў, і яму ніхто ня шлець. Шыбка пісаць ён ня ўмее, а лежачы на палацях, упоцемку, пісаць дужа нязручна і марудная справа.

І думак не зьбярэш, калі навокала гыркаюць: ня так сеў, ня так крутнуўся, ня так адказаў. А гэтая жудасная „русчызна“, гэтыя штомінутныя зьняважаньні маткі—кроюць сэрца. Здавалася, ніхто не разумее, не спачувае. Аднак, нешта раз, нававбранец другога ўзводу, нязграбны, сутулаваты і ў рабацьці, жыд з Дуброўны, што некалі прыяжджаў у Асмолава скупляваць яйцы і баравікі, екатліва закрычэў у вадказ адзяялённаму: „Мая маці ня сучка!“—загуў і выскачыў нечага са строю. Хомка ўцяміў, што ён не адзінокі ў сваіх думках. Хлопчык—прапаршчык, сам ужо заўчоны на тую „русчызну“, пры гэткім выпадку пачырванеў і засумяціўся, а Хомка здаволена зразумеў, на чыёй старане праўда.

Дні здаваліся тыднямі, тыдні месяцамі, а калі адбілі ў полк тэлеграму з Рыгі, здавалася, працёк адзін дзень, даўжынны, але парожні. Хомка з таварышамі ўзрадаваўся, што паедуць на пазіцыю, жахліва выяўляючы казармнае жыцьцё ў працягу трох год, як мелася да вайны. Увечары ішлі яны ў новенькіх, пахнючых дзёгцем ботах, у шынэлях, з пахам молі ці бальніцы, ішлі з песьняю па мокрай, брукаванай вуліцы, і было надта дзіўна, што вуліца мае звычайны выгляд, снуюцца экіпажы і хапаюцца пешаходы, як быццам-то маршавая рота на пагулянцы, а ня йдзець на вайну. Усю ноч гармідэрылі на вакзале, а ў золак пад іграньне палкавога аркестру цягнік пайшоў. Камандзерша ў лайкавых пяршчатачках махала беленькай насатачкай; нейкая цётка ў стаптаных ачкурох, прыпаўшы на плячо зьбялелай маладухі, раўла і смаркалася, а з цяплушкі няслося „вура“, шматкі прыпевак і зык гармоніка. Міналася спусьцелае поле і голыя гайкі, і мільгалі на спатканьне тэлеграфныя стаўпы. Міма надта аддеглых хатак плылі бліжэйшыя прадметы, зважаючы на сябе пагляд Хомкі.

На трэці дзень прыехалі на глухую пляцформу з незразумелым назовам і чаранковымі дахамі будынкаў (а ці-то Варшлеген, а ці-то

Шлегахван). Вёрст пяць ішлі па шасэ да баронскай мызы, гдзе знаходзіўся штаб корпусу. Там пасілкаваліся. Выходзіў корпусны і нешта прамауляў, кусаючы канцы жоуклясівых вусаў. Потым ізноў пацягнуліся, і ноч адбылася ў дарозе сярод невядомай пушчы. Зьбіваліся ў калдобінах, зьяжджалі па коўзкіх убочынах дарогі ў канаву. Там-сям у лесе цьмелі чырвовыя вогнішчы, акамянелі прыкручаныя муздзечкамі да дрэў казачыя конікі, цямнеліся фурманкі, кухні. Хомка зьнямогся і ледзь перастулаў нагамі. На прывалах ён валіўся на памоклае лісьце, як забіты, і каб ня ласкава-насьмешлівы покрык і лёгкі высьпятак таварышоў, ён-бы ня ўзьняўся. Хомка меўся абмяркаваць усё. З усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як, што і як, жаль яму, ці не? І толькі лезьлі ў галаву ўспаміны, здавалася раем, як некалі ляжаў на начлезе пад густою елкаю, калі буйны дождж шамацеў у яе лапах... Цяпер хатыль і амуніцыя да нуднай болі гнялі яго. Халадок раньня крыху ўзбадрыў. Разьвіднелася. У шэрай імгле паветра чулася глухое, дрышачае гудзеньне матора.—„Аэраплян! Аэраплян!“ пракінулася па радох. Задраліся галовы.—„У хлябу і то каланіца носіць“.—правурчэў нехта. Хомка насілу злавіў у небе мецінку самалёта і падумаў: „Во падзівіліся-б асмолаўскія бабы і дзеўкі на такую штучку, —ня далі-б веры“. Пад абед дайшлі да штабу палку, дзе іх абглядзіў палкоўнік, павіншаваў, што нарэшце дабраліся да яго, і прамовіў сур'ёзна: „Ну, хлопцы, пакуль у нас заціш, а зараз, зараз будзе *гарачая справа*, прывыкайце!“

„*Гарачая страва*“ (як зьначылі іхныя базыкалы) паднёс вораг таго-ж вечару. Яшчэ людзі не агледзіліся ў вакопах і бліндажах, начальства ня ведала іхных іменьняў. Толькі Шпака прымеціў фэльдфэбэль, зьвярнуўшы ўвагу на яго маленскі выгляд і папытаўся: „Ты з хахлоў?“

— „Не“ –адвесьціў высіленым голасам Хомка на інтымнасьць начальства і меў ад узводнага дакор, што трэба казаць: *„Никакъ нѣтъ!“*— і не забывацца на вайсковую навуку. Рыхтаваўся дадаць: „Магілеўскі“, ды яны ўжо пакінулі яго.

З налязаньнем цямноты затукалі нейдзе з бакоў кулямёты і пачалі бухаць нашыя і праціўніцкія батарэі. Загудзела ў паветры; першая граната з глушачым трэскам разарвалася ў драцяной загарадзі, раскідаўшы подалек камы зямлі. У Хомкі затыхала сэрца, і ён машынальна прысеў і прытуліўся ля байніцы.—„Нічога, нічога, браткі!“—казаў з мімавольнай пярэрвай у голасе зьбялелы ротны, — пойдзем у атаку, ня пужацца, дасьць Бог, прывыкнеце... Нічога, нічога!“ Чорнабароды туляк вурчаў, як ён пашоў: „Табе нічога, нічога, як у цябе ў Расеі, можа, маёнтак ёсьць, а ў мяне—што? Галодная баба і пяцёра малых дзяцей“. Ніхто не падтрымаў тульскага, ніхто не агудзіў, а ўзводны зусім ня ўзлуваўся, а толькі буркнуў: „А, брэшаш, ня знаючы: наш ротны з мужыкоў“. — „Па вайне парэжуць зямлі“ — ска-

заў другі... — „Нарэжуць тры аршыны, мо' яшчэ сяньня"—не замаўкаў тульскі, адварачываючы ўвагу ад страшэннай кананады.

Яшчэ некалькі знарадаў, адзін за адным, вухнуліся блізка за акопамі. Хомка адхіснуўся ў куток і зрабіў крыж, трасучыся ў гнятучым чаканьні.

З глухім гулам ляціць яшчэ. І на момант раптам усё змоўкла. „Міма, міма!"—здавалася ў вушшу. А грымотны крэх захістаў бярозы і зямлю, задрыжэлі і пасыпаліcь зямлёю акопы, калаціліся і тыхалі рукі й ногі, а тады зьнямелі. Хомка прыжмаўся, затуліўся, але нешта балюча таўханула яго ў жывот. „Камень ці палка адскочыла" —памысьліў, схапіўся пальцам: аж кроў. Укінула ў пот і замлявіла, бажалася вады. Прамільгнуў аблік мацеры, Ґанначкі, завіляла хвастом прад самым носам Курта. Ен патрапіў у глыбокі сумёт, праваліўся ў сьнег—і ўсё глыбей. А байбус-гарадчанін шпурляець і шпурляець у яго больнымі крамянымі сьнежкамі.—„Ды за што-ж?"—трудна выгаварыць языком, і са сьлязамі крыўды, глыбокай і кроючай душу, нячутна і самому сабе патыецца Хомка шэптам.

— „За што?"—Жах абняў хлопчыка, і ён валіцца на скрозьдоньне глыбей і глыбей. Высока, Бог ведае, гдзе крычыць на краю фэльдфэбэль: „Насілкі!"

— Нашто тут насілкі? — кажаць ротны: — ён забіт. Падбірайце толькі раненых.

У чорнай імгле блішчаць, яскрацца гострыя іголкі, тупеюць, зьнікаюць і зьліваюцца ў нішто...

*М. Гарэцкі.*

# Народ і дзяржава *).

З таго мамэнту, як беларуская сялянская маса, яшчэ нядаўна зусім нацыянальна і сацыяльна несьвядомая, моцным голасам зажадала для сябе ня толькі нацыянальных, але і палітычных правоў,—як гэтая, датуль аморфная, многаміліённая грамада людзей, раскінутых на вялізарным абшары, пачула сябе суцэльным, адзіным народам і, як такі, пачала іграць болей-меней самастойную ролю ў жыцьці Усходняе Эўропы, — так-званае „беларускае пытаньне" з межаў культурна-нацыянальнае праблемы выйшла на грунт палітычна-дзяржаўны. І сярод беларускага грамадзянства пачалося шуканьне тэй формы палітычнага істнаваньня, у якой інтарэсы беларускага народу маглі-бы быць найлепш забясьпечаны. Аўтанамізм--фэдэралізм—незалежнасьць — вось этапы, праз якія праходзіла беларуская грамадзкая думка. І кожная з гэтых форм—у залежнасьці ад агульных абставінаў—здабывала ці губляла сваіх прыхільнікаў, якія пераважна і разьвязывалі пытаньне аб палітычным істнаваньні беларускага народу з пагляду бягучага мамэнту.

Мы пастараемся падыйсьці да разьвязкі гэтага пытаньня прынцыпова, пастараемся выясьніць наагул тыя адносіны, якія нармальна павінны істнаваць і істнуюць паміж народам і дзяржавай, разумеючы пад словам дзяржава як сваю, нацыянальную, так і чужую, пад уладай якое той ці іншы народ знаходзіцца. Дзеля гэтага трэба перад усім знайсьці ясны адказ на пытаньне: **што такое народ?**

У звычайнай гутарцы словам „народ" мы называем самыя рознародныя згуртаваньні людзей: народам называем старавечных грэкаў і сучасных палякоў, цыганоў і немцаў, жыдоў з біблейных часоў і тых жыдоў, што цяперака жывуць распыленыя па ўсенькім сьвеце, — хаця ў кожным з пералічаных прыкладаў зьмест ужытага назову „народ" — зусім іншы. Вынікае гэта з таго, што народ, наагул, не прадстаўляе нязьменнага прыроднага зьявішча, а ёсьць гістарычна-сацыяльнае згуртаваньне, зьменнае, як і ўсё грамадзкае жыцьцё.

Разгледзім тыя азначэньні паняцьця народу, якія даваліся яму ў розныя часы ў залежнасьці ад таго, што прыймалася за істотную об'ектыўную адзнаку народу.

Гэтак некалі думалі, што істотнай об'ектыўнай адзнакай народу зьяўляецца супольнасьць пляменнага паходжаньня. Але гэтаму пя-

*) Гэтая праца была прачытана аутарам яе, як публічны рэфэрат, у 1918 годзе і цяпер перапрацована ім для „Зах. Бел.". — *Рэд.*

рэчаць факты: бо, прыкладам, народ італьянскі — гэта вынік этнічнага зьліцьця этрускаў, галаў, лацінян, рымлян, грэкаў, германцаў і сарацэнаў, а французы — гэта мешаніна тых-жа рымлян і галаў, цэльтаў, германцаў і ібэрыйцаў.

Найчасьцей за істотную адзнаку народу прымаюць мову яго, а такжа супольнасьць займанае тэрыторыі. Гэтак, ужо ў 1775 годзе de Felice у другім выданьні Вялікае Француское Энцыкляпэдыі пад словам „nation" разумее згуртаваньне людзей, што жывуць на супольнай тэрыторыі і гавораць супольнай мовай; а цераз сто гадоў — у 1874 годзе—статыстычны кангрэс у Пецярбурзе пастанавіў азначаць нацыянальнасьць паводле мовы штодзеннага ўжытку (langue parlée — Umgangssprache). Тымчасам і тут факты пярэчаць тэорыі: істнуюць народы, якія, апрача супольнасьці мовы, нічога больш ня маюць між сабой супольнага, як, прыкладам, французы і бэльгійцы, англійцы і амэрыканцы, данцы і нарвэжцы, або нават зьяўляюцца самымі непрымірымымі ворагамі адзін аднаму, як англійцы і ірляндцы: абодва народы гавораць па англійску, але ірляндцы — ў тэй-жа англійскай мове — пяюць у „Песьні аб зялёным Эрыне", што яны і англійцы — народы рознае расы, і ніякім цудам — да сканчэньня сьвету — ірляндзкае сэрца ня злучыцца з англійскім... Урэшце, істнуюць народы, што ўжываюць некалькі моваў, як бэльгійцы і швайцарцы, але прадстаўляюць адзін народ.

Тым больш ня можа быць адзнакай народу яго рэлігія. Хаця быў час, калі рэлігія была асновай культуры, пранікаючы ў масы і запускаючы карані ў цёмную і паняволеную душу народную, — хаця і цяпер асаблівасьці рэлігійнае культуры адбіваюцца на характары нацыянальнае культуры,— аднак, мы ведаем лішне многа народаў, зусім розных паміма супольнасьці рэлігіі, і лішне многа вызнаўцаў розных рэлігій сярод сыноў аднаго народу, каб можна было прызнаць рэлігію істотнай адзнакай паняцьця народу.

Як у старадаўныя часы, так і ў часе сярэднявечча вытварыўся быў пагляд, які разумеў народ толькі ў сувязі з дзяржавай, ці ў дзяржаве. Тварцы Вялікае Француское Энцыкляпэдыі ў І-м выданьні яе азначаюць народ, як згуртаваньне людзей, што жывуць на тэрыторыі з азначанымі межамі і падлягаюць аднэй урадовай уладзе, — і нават вялікі Монтэск'е не прэдстаўляў сабе народу без дзяржавы. Але ўжо XIX сталецьце ясна паказала, што найбольш ярка выяўляюцца нацыянальныя адзнакі якраз у народаў, якія ўтрацілі сваю дзяржаўнасьць, а побач з гэтым якраз у XIX-м сталецьці будзіцца да нацыянальнага жыцьця цэлы рад пляменьняў, якія ніколі ня мелі свае ўласнае дзяржавы.

Не зьяўляецца, урэшце, неабходнай адзнакай народу вымаганае энцыклёпэдыстамі жыцьцё на аднэй тэрыторыі, бо адзінкі, што жывуць па-за межамі нацыянальнае тарыторыі, усё-ж не перастаюць на-

лежаць да свайго народу, — а да таго-ж мы ведаем народы, што жывуць распыленыя па ўсім сьвеце, паміж чужых народаў.

З усяго гэтага вынікае, што дзеля азначэньня народу трэба шукаць адзнакаў не об'ектыўных, а суб'ектыўных, і сучасныя вучоныя на апошніх іменна і грунтуюць сваё азначэньне паняцьця народу.

Паводле Р э н а н а („Qu'est ce qu'une nation"): „Une nation est une ame, un principe spirituel. L'homme n'est esclave ni de sa race, ni de sa langue, ni de sa réligion, ni des eaux de ses fleuves, ni des chaînes de ses montagnes. Une grande agrégation d'hommes saine d'ésprit et chaude de coeur crée une conscience morale, qui s'appelle nation". Народ—гэта вялікая салідарнасьць, вынік сьвятога пачуцьця адносна да мінулых і будучых ахвяр. Супольная слава ў мінуўшчыне, супольная воля ў сучаснасьці, якая вядзе да вялікіх дзеяньняў, — вось істотныя варункі нацыянальнага істнаваньня.

Паводле Нэймана (Neumann — „Volk u. Nation"), народ — гэта згуртаваньне людзей, якое, дзякуючы свайму асабліваму разьвіцьцю культуры, вытварыла ў сабе асаблівыя ўласьцівасьці, што перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне, як спадчына. Падобным-жа суб'ектыўным спосабам азначаюць паняцьце народу Кірхгоф (Kirchhof — „Nation und Nationalität"), Гэрц (F. Hertz — „Socialdemokratie u. die nationale Frage"), Адольф Браўн, Шпрынгер і другія. Але найбольш точнае азначэньне знаходзім у Ельлінка („Allgemeine Staatslehre"); ён кажа, што народ—гэта аб'яднаньне людзей, сьвядомае сваей унутранай лучнасьці дзякуючы супольнасьці многалічных зачаткаў культуры і супольнасьці гістарычнае прошласьці, ды праз гэта сьвядомае сваей вонкавай абасобленасьці.

Гэтак бачым, што адзінай істотнай адзнакай народу зьяўляецца яго н а ц ы я н а л ь н а я с ь в я д о м а с ь ц ь. Народ — гэта не этналягічная раса, не згуртаваньне на аснове ўмовы (societas), а духовае аб'яднаньне (communio), якое складаюць пачуцьці, думкі і іх праявы.

Усе раней пералічаныя об'ектыўныя адзнакі народу, хаця самі па сабе не прадстаўляюць неабходнага варунку істнаваньня яго, аднак, дзеюць у кірунку вытвараньня нацыянальнае сьвядомасьці. Гэтак, калі мы бачым, што супольнасьць пляменнага паходжаньня як-быццам аказвае на нейкае згуртаваньне людзей нацыянальна яднаючы ўплыў, дык папраўдзі іх яднае н я с а м ы ф а к т прыражонае супольнасьці, а с ь в я д о м а с ь ц ь гэнае супольнасьці і зьвязаныя з ёй пачуцьці і паняцьці, што і зьяўляецца нацыянальна творчым элемэнтам. Магутны ўплыў пры вытварэньні нацыянальнае сьвядомасьці аказывае рэлігія, дый яно інакш і быць ня можа: бо-ж нацыянальная сьвядомасьць творыцца з норм і паняцьцяў, а рэлігія, як кажа Кутшэба, сягае да глыбіні чалавечых паняцьцяў і пачуцьцяў, вызначае іх вартасьць, умацовывае іх істнаваньне сваімі загадамі, адны з каторых, перанятыя правам, стаюцца праўнымі абавязкамі, другія-ж служаць

за меру, якой мераецца маральнасьць людзей. І гэта адносіцца ня толькі да веручых людзей: нават адзінкі, што бунтуюцца проці ўлады царквы, якой іх народ падлягаў цэлыя сталецьці, заховываюць у сваей душы пранікшыя ў яе разам з усей культурай народу тыя асноўныя зачаткі паняцьцяў, каторыя вытварыла царква. Бывае, што царква аказывае на нацыянальную сьвядомасьць рашучы ўплыў: гэтак сэрбы і харваты, ня гледзячы на супольнасьць мовы, лічаць сябе, двума рознымі народамі на тэй аснове, што харваты належаць да каталіцкае царквы, а сэрбы—да праваслаўнае.

Паняцьце народу мае дынамічны характар. Згуртаваньне людзей можа быць народам у большай ці ў меншай меры. Чым вышэйшыя і больш рознародныя зачаткі мае ў сабе тая культура, што гуртуе людзей у народзе, тым мацней бывае пачуцьцё культурнае еднасьці і нацыянальнае сьвядомасьці, якое і выяўляецца вонках у волі народу. „Хочам быць адзіным братнім народам!“ — гэтак напісалі швайцарцы на сваіх гранічных слупох. А жыды, расьцярушаныя па ўсенькім сьвеце, ужываючы некалькі розных гутарак, належачы да розных культур, злучаныя лятуценьнем аб далёкім Сіоне, бачаць адзіную нацыянальную сувязь у Законе Божым, калі ў дзень Йом-Кіпур моляцца славамі: „Ты, Сьвятая Тора, — адзіная арка прымірэньня нашага народу“.

Як вышэй сказана, да канца XVIII сталецьця паняцьце народунацыі ў сучасным разуменьні гэтага слова не істнавала. Толькі тая малая жменя людзей, што карысталіся палітычнымі прывілеямі, магла прыймаць учасьце ў культурным жыцьці і карыстацца здабыткамі яго. Гэта група людзей і прадстаўляла тады народ. Звяяваная дужэйшым суседам, ці папаўшы пад уплыў ягонае культуры, гэная група вельмі хутка губляла сваю нацыянальнасьць, ідучы па лініі найменшага праціўленьня, падрыхтаванай космополітызмам тагочаснае навукі і даваўшай доступ да палітычнае кар'еры і матэрыяльных карысьцей. Але настаў мамэнт, калі разам збудзіліся да грамадзкага жыцьця народныя масы, якія датуль жылі ў няволі, у цемнаце і ў паняверцы, — і вось гэтыя масы пачынаюць барацьбу за свае правы і за людзкі быт для сябе. А асноўнай часткай гэтага „людзкага быту“ зьяўляецца культура. І вось селянін і работнік прагавіта працягіваюць свае рукі да недаступнае для іх датуль сьвятыні культуры, але збудзіўшаеся жаданьне сьвятла і знаньня можа быць здаволена толькі адным спосабам: у тэй мове, якой народныя масы гаварылі ад першых дзён свайго жыцьця, якая адна толькі можа даць зусім точнае, зусім правільнае разуменьне аб рэчах і паняцьцях. Вучыцца-ж чужое мовы народныя масы ня маюць ні часу, ні магчымасьці, ні ахвоты, ды гэтак даюць найбольш моцны адпор дэнацыяналізацыі. Патрэба родзіць творчасьць у роднай мове, і зьяўляюцца людзі, якія, адчуваючы народныя

патрэбы, усе свае сілы і сваё жыцьцё аддаюць на разьвіцьцё і шырэньне роднае культуры. Калі-ж дзеля палітычных ці сацыяльных прычын пачынаецца уціск і перасьледаваньне шырэньня асьветы, тады культура масаў гартуецца і ўзмацовываецца, разьвіваючыся і разрастаючыся ў нацыянальную культуру і нацыянальную сьвядомасьць. Так было ўсюдых, так было і ў беларусаў. Значыць, не нацыянальная ідэя пачаткова падыймала народ, а сам народ, у меру свайго сацыяльнага і духовага росту, выкаваў новае аружжа дзеля барацьбы за паўнату жыцьця—у пастаці нацыянальнае культуры, якая прадстаўляе для яго найлепшы спосаб дзеля далейшага духовага разьвіцьця.

Аднак, на разьвіцьцё нацыянальнае сьвядомасьці дзеюць яшчэ і другія фактары. Зьмест супольнага жыцьця людзей абыймае ня толькі супрацоўніцтва іх, але і канкурэнцыю. Расцьвет нацыянальнае сьвядомасьці ў XIX сталецьці выходзіцца з буйным расцьветам капіталізму. І вось аднэй з формаў канцэнтрацыйных імкненьняў капіталізму зьяўляецца нацыянальная ідэя, ідэя нацыянальнага аб'яднаньня. Найбольш істотную патрэбу капіталістычнага ладу прадстаўляе ўмацаваньне рынкаў збыту і здабыцьцё новых. Каб задаволіць гэтую патрэбу, народы дзяржаўныя і недзяржаўныя ў роўнай меры клапацяцца і змагаюцца адны з аднымі. Народы недзяржаўныя стараюцца бараніць свой „stan posiadania", стараюцца заваяваць для сябе манаполію на ўнутраным рынку, а гэтаму—валаданьню ўнутраным рынкам — вельмі дапамагае нацыянальная культура; дык вось, прымушаныя да гэтага канкурэнцыяй, недзяржаўныя народы ня толькі пашыраюць і разьвіваюць сваю нацыянальную культуру, ня толькі стараюцца ўмацаваць яе асаблівасьці, але такжа будзяць у масах непрыязьнь і варожыя адносіны да ўсякае чужое культуры; з прычыны слабасьці недзяржаўных народаў адзіным іх аружжам зьяўляецца тварэньне свайго багацьця, узмацаваньне свайго валаданьня ім і байкот... Для дзяржаўных народаў унутранага рынку не даволі: выходзячы па-за межы нацыянальнае тэрыторыі, капіталізм вымагае ўсё новых рынкаў,—насамперш рынкаў на землях прыслухаючых недзяржаўных народаў; а дзеля гэтага апошняга за найлепшае аружжа лічаць прыгнятаньне і дэнацыяналізацыю падбітых недзяржаўных народаў, ужываючы гэтага аружжа ў імя „нацыянальнае еднасьці"... Далей, гаспадарчае жыцьцё прымушае дзяржаўныя народы да здабываньня замежных рынкаў, і ў гэтым імкненьні дапамагае патрыятычнае пачуцьцё, якое ператвараецца ў нацыяналізм, каторы дзеець у імя магутнасьці нацыянальнае дзяржавы і вышэйшасьці нацыянальнае культуры, карыстаючыся фразэалёгіяй нацыянальнае місіі і пашыраючы ненавісьць да ўсяго чужога. Узіраючыся на нацыяналістаў магутных народаў, стараюцца йсьці па іх сьлядох і нацыяналісты недзяржаў-

ных народаў, але, ня маючы сілы, палахлівыя, замучаныя, яны ня здольны да чыннае барацьбы, могуць толькі лятуцець аб незалежнасьці, аб уладзе, аб рынках, аб пажыраньні яшчэ слабейшых нацыянальных меншасьцей і пустатой псэўда-патрыятычнае фразэалёгіі прыкрываюць сваю сацыяльную слабасьць і палітычнае бязсільле.

У часе „вясны народаў“ — пры пачатках іх нацыянальнага аб'яднаньня — прагрымеў натхнёны голас Яна Готліба Фіхтэ („Reden an die deutsche Nation“): „У істоце нацыянальнага пачуцьця ляжыць ня ўласная карысьць, але нешта прост процілежнае: няўжож можна лічыць праявай эгоістычнага інтарэсу самаахвярнасьць дзеля нацыянальнае справы, што не затрымліваецца нават перад ахвярай жыцьця? Праўдзівая любоў да бацькаўшчыны выяўляецца ў служэньні свайму народу, у жыцьці дзеля яго, у ахвяры самога сябе дзеля істнаваньня народу і яго мэтаў. Як рэлігійным жыцьцём зьяўляецца зьліцьцё з Богам праз любоў да Бога, так жыцьцём патрыатычным ёсьць зьліцьцё з народным духам праз любоў да бацькаўшчыны“. — Але Фіхтэ, пламенны патрыот, быў адначасна апосталам брацтва народаў, як і вялікі польскі пясьняр, сын Замлі Беларускае, Адам Міцкевіч, як Кернэр, Гэрдэр, Шыльлер, Гетэ, Штэйн, Шлейермахер і др. А праз сто гадоў пасьля яго, пасьля аб'яднаньня Нямецкага народу, навука Фіхтэ была ператворана прускім юнкерствам у пародыю ў пастаці гакатызму, адзнакамі якога сталіся нацыянальная пыха, захват і дэнацыяналізацыя слабейшых народаў і закаваны ў зялеза кулак... І ўсё-ж такі на груньце брацтва і ненавісьці, супрацоўніцтва і канкурэнцыі ўзрасла нацыянальная сьвядомасьць, вытварылася найбольш магутнае спаміж усіх згуртаваньняў людзей — Народ.

Як-жа трэба ўглядацца на гэтае згуртаваньне з пункту гледжаньня права? Чы народ прадстаўляе суб'ект права, значыць, маральную істоту, якая мае азначаныя правы і можа карыстацца імі і бараніць іх? Вось які адказ дае на гэтае пытаньне Людвік Гумплёвіч: навука права ведае і азначае, якім спосабам карпарацыі і саюзы, як маральныя істоты, могуць стацца суб'ектамі права і як могуць сваімі правамі карыстацца, — але народ дагэтуль ня прызнаны, як від згуртаваньня..

Аднэй з прычын мук людзкасьці была адвечная супярэчнасьць паміж рэальнасьцяй і праўным ладам. Об'ектыўна грамадзкая праца — гэта ёсьць фармаваньне і ўмацовываньне адносін паміж людьмі і фактычнае ўстанаўленьне форм псыхічнага рэагаваньня на тыя пабуджэньні, што выплываюць з укладу гэных адносін; кожнае такое пабуджэньне, калі яно пастаянна паўтараецца, стаецца ўрэшце грамадзкай катэгорыяй і катэгорыяй права. Бо ня трэба забывацца, што катэгорыі права творацца толькі там, дзе грамадзянскае згуртаваньне само бароніць сваё права на істнаваньне і сваю ўладу.

Так-званае міжынароднае права, запраўды-ж права міжыдзяржаўнае, ведала дагэтуль толькі гаспадарствы, а тымчасам панад апошнімі выкрысталізаваліся нацыянальныя арганізмы, часта пабітыя на часткі, і гэтыя нацыянальныя арганізмы жывуць жыцьцём абасобленым ад жыцьця гаспадарстваў, у склад якіх уваходзяць. Вось, з прычыны такога ігнараваньня цэлае галіны зьявішч, якія ўваходзяць у межы права, быў учынены цэлы рад бязкарных гвалтаў над народамі. Толькі ў самых апошніх часох італьянскія юрысты першыя пачалі дамагацца для народаў такіх самых правоў, якімі карыстаюцца гаспадарствы. Гэтак, Паскаль Фіорэ (La science du droit international) піша, што міжынароднае права павінна абняць усе сувязі і згуртаваньні, якія істнуюць у сучаснай Magna Civitas людзкасьці. Аднак, другія вучоныя стараюцца для згуртаваньняў, якія не прадстаўляюць дзяржаваў, стварыць асобную галіну права. Гэтак, — паводле думкі бар. Таўбэ, — істнуе droit entre les pouvoirs, якое рэгулюе міжынародныя адносіны з Апостальскай Сталіцай, з В. Містрам Мальтыйскім, з піратамі, з Даляй Лямай, з качоўнікамі, з паўстанцамі, — але і гэнае права не абыймае сабой народаў, якія прадстаўляюць складовую частку чужацкіх дзяржаваў.

Дзяржава — паводле азначэньня Ельлінка — гэта згуртаваньне людзей, якое мае сілу прынукі і сваей пляновай дзейнасьцяй імкнецца да здаваленьня як асабістых інтарэсаў адзінак, так і нацыянальных, а такжа і салідарных інтарэсаў людзкасьці, ідучы ў кірунку паступовага разьвіцьця грамадзянства. Дзяржава ў гэткім разуменьні павінна-бы імкнуцца і да забясьпечаньня правоў нацыянальнасьцей, якія ў яго ўваходзяць; побач з гэтым, дзяржава — дзеля свайго-ж уласнага істнаваньня — павінна-б была падтрымліваць разьвіцьцё сваіх народаў, бо дзяржаўная арганізацыя вымагае — з аднаго боку — высокага разьвіцьця розуму і культуры ад адзінак, што даецца ім толькі дарогай высокага разьвіцьця нацыянальнае культуры, — з другога боку, дзяржава можа ўплываць на адзінкі толькі карыстаючыся культурна-нацыянальнымі ўплывамі. Аднак публічнае права сучасных гаспадарстваў або праходзіць міма пытаньня аб правох народаў, або абмяжовываецца ў гэтай галіне паадзінокімі загадамі, якія маюць бадай выключна дэкляратыўны характар і пазбаўлены ўсялякае санкцыі. Гэтак, прыкладам, § 19 Уставу аб правох грамадзян, які прадстаўляў частку аустрыйскае канстытуцыі, кажа, што „ўсе нацыянальнасьці ў гаспадарстве маюць роўныя правы, і кожная нацыянальнасьць мае права бараніць і разьвіваць свае нацыянальныя асаблівасьці і сваю мову“. Гэты параграф трэ лічыць або зусім лішнім плеаназмам, бо ўжо ў § 2 таго-ж самага Уставу гаворыцца, што ўсе грамадзяне гаспадарства — роўныя перад законам, значыць, розьніца нацыянальнае прыналежнасьці тутака ня мае вагі; — або гэта ёсьць дэклярацыя бяз ніякага практычнага значэньня, бо

дзеля таго, каб права на нацыянальную культуру не аставалася пустым словам, мала яго прызнаць, а трэба яшчэ, каб у законе была азначана арганізацыя згуртаваньня, якое, як маральная істота, мела-бы магчымасьць атрымліваць нейкую карысьць з гэнага прызьнаньня і бараніцца ад гвалтаваньня яго. Бяз гэтага ні аўстрыйская канстытуцыя не магла разьвязаць нацыянальнага пытаньня, ні канстытуцыя Польшчы яго не разьвязуе.

Гэтак сама пустым словам дзеля тых жа прычын астаецца і гэтак прагрымеўшая у пэрыад Вэрсальскае канфэрэнцыі „права народаў на самавызначэньне“. Прынцып самавызначэньня народаў быў прыняты на міжынародным кангрэсе міра ў Бэрне ў 1904 годзе і ўвайшоў у склад праграмаў шмат якіх дэмакратычных і ўсіх сацыялістычных партыяў. Характэрыстычнае было ў гэтай справе становішча расейскае сацыял-дэмакратыі. Вось што пісаў у той час гэтак услаўлены цяпер Ленін: у Расеі с.-д. можа спакойна пачакаць з падробнай дэкларацыяй аб нацыянальным пытаньні; асноўная заява маніфэсту партыі аб прызнаньні права ўсіх народаў на самавызначэньне зусім ясна выяўляе агульныя адносіны партыі да ўсіх народаў, што жывуць у Расеі; дзеля ўнутраных адносінаў у гаспадарстве — самавызначэньня і роўнапраўнасьці народаў зусім хватае, бо роўнапраўнасьць зусім ухіляець нацыянальны уціск. Да таго-ж гэта — адзіны прынцып, які можа прыняць с.-д., бо с.-д. ня імкнецца да тварэньня нацыянальнае культуры, яе задача мае характар нэгатыўны: яна імкнецца толькі да ўхіленьня нацыянальнага ўціску. Крытыкуючы гэтыя вывады Леніна, Мэдэм, абаронца культурна-нацыянальнае аўтаноміі, зусім справядліва пытаўся, што сказалі-бы с.-д., калі-б нехта запрапанаваў абшырныя вывады партыйнае праграмы аб спосабах забясьпечаньня ад палітычнага і сацыяльнага ўціску заменіць, прыкладам, гэткай дэкларацыяй: „Мы, партыя пралетарыяту, заўсёды і бязумоўна будзем праціўнікамі ўсялякага палітычнага ўціску і староньнікамі палітычнае і эканамічнае роўнапраўнасьці“? — Калі-ж той самы Ленін, пасьля сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі, падыйшоў да рэалізацыі сваей праграмы, ён сам быў прымушаны ня толькі зьмяніць свой тэорэтычны пагляд на гэтае пытаньне, але і на практыцы пакласьці ў аснову дзяржаўнага будаўніцтва прынцып іменна т в а р э н ь н я нацыянальных культур...

Народ — гэта злуч мысьляў і пачуваньняў, якія вытвараюць у грамадзянстве вонкавыя пабуджэньні, асабліва-ж учынкі людзей, нармаваныя дзяржавай. Вось чаму дзяржаўная арганізацыя адна толькі і можа найлепш забясьпечыць разьвіцьцё нацыянальнае культуры. Дзеля гэтага-ж узьнімаецца і м к н е н ь н е н а р о д у д а д з я р ж а ў н а е н е з а л е ж н а с ь ц і, і ня можа быць спрэчкі аб тым, што найбольш ідэальнай формай разьвязаньня пытаньня аб нацыянальнай арганізацыі зьяўляецца з ь л і ц ь ц ё н а р о д у з д з я р ж а в а й. Гэта

іменна і было найдалейшым імкненьнем беларускага грамадзянства, якое актам 25 марца 1918 году абвесьціла незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

Аднак, незалежнасьць народу ў форме нацыянальнае дзяржавы разьвязывае пытаньне у адносінах да аднаго толькі гэтага народу, стаўшагася незалежным, і зусім не забясьпечывае — сама па сабе — нацыянальнага быту і нацыянальных правоў тых нацыянальных меншасьцей, якія сустракаюцца цяпер бадай усюды на землях дзяржаўных народаў, — пераважна на іх узьмежках. Пытаньне, якімі спосабамі могуць быць забясьпечаны правы такіх нацыянальных згуртаваньняў, вельмі важна ў гэты мамэнт і для беларусаў, якія аказаліся падзеленымі на часьці суседнімі гаспадарствамі і, хаця маюць ясна вызначаную нацыянальную тэрыторыю, дзе жывуць густой масай, апынуліся ў межах Польскае і Латвійскае Рэспублікі ў палажэньні нацыянальных меншасьцей. З прычыны таго, што пад уладай чужых гаспадарстваў забясьпечыць нацыянальныя правы беларусаў можа толькі прызнаньне законамі гэтых гаспадарстваў нацыянальных арганізацыяў наагул, разгледзім насамперш, чым павінна быць уварункавана першая падстава гэткіх арганізацыяў — прыналежнасьць да нацыянальнага аб'яднаньня.

Ужо ў 1848 годзе ў рэвалюцыйным сойме Нямеччыны ўсе нацыянальнасьці згодна прынялі кампрамісную пастанову, што ўсе гістарычна вытвараныя часьціны гаспадарства павінны быць падзелены на акуратна разьмежаваныя нацыянальныя акругі. З падобным-жа праектам выступілі каля 20 гадоў таму назад у Аўстрыі немцы, дамагаючыся разьмежаваньня чэскае і нямецкае тэрыторыі ў Чэхіі, а такжа ўкраінцы, жадаўшыя, каб у Галічыне ўкраінская тэрыторыя была аддзелена ад польскае; але ніводзін з гэтых праектаў ня мог быць зьдзейсьнены з прычыны непрымірыма варожага становішча чэхаў і палякоў. Аднак, і гэтымі праектамі нацыянальнае пытаньне не магло быць разьвязана ў поўнай меры: бо кожнаму ясна, што ў межах аднаго гаспадарства — з прычыны поўнае свабоды перамяшчэньня і дзеля вымаганьняў гаспадарчага жыцьця — захаваньне нацыянальнае аднароднасьці насяленьня ў аўтаномных акругах ці краінах было-бы яшчэ менш магчымым, чым пры тварэньні незалежных нацыянальных гаспадарстваў.

Прымушаныя гэтак адкінуць прынцып тэрыторыяльнасьці, мы зьвернемся да другога прынцыпу — прынцыпу пэрсанальнага.

Пэрсанальны прынцып здаўна вядомы эўрапэйскаму правадаўству. У часох, калі мелі сілу законы імп. Караля V, судзьзя пытаўся зьявіўшагася на суд: „Quo jure vivis?“ і, залежна ад адказу, свой прысуд апіраў на тых статутах, якім гэная асоба павінна была падлягаць. Дый у Польшчы і ў Угоршчыне права грунтавалася пера-

важна на прынцыпе пэрсанальнае прыналежнасьці: шляхціц і селянін, мешчанін і жыд, татарын, армянін, сас, шваб ці валох — усе яны мелі асобныя, уласьцівыя ім правы. Да апошніх дзён у гаспадарствах Усходу эўрапэйскія гаспадарствы карыстаюцца правам чыніць свой уласны суд над сваімі грамадзянамі, якія жывуць у гэных гаспадарствах, праз сваіх консуляў на аснове пэрсанальнага прынцыпу.

Гэты-ж прынцып у зусім чыстым відзе мае сілу і ў сучасных цывілізаваных гаспадарствах у адносінах да прызнаных згуртаваньняў, што маюць магутны ўплыў і ўладу над думкамі людзей: мы маем на мысьлі рэлігійнае згуртаваньне, царкву, прыналежнасьць да якое, падобна да прыналежнасьці нацыянальнай, грунтуецца на маральнай сьвядомасьці, на перакананьні сумленьня. Цяпер, калі прынцып „Cujus regio, ejus religio“ ужо аканчальна ўтраціў сваю колішнюю вагу, рэлігійнае прыналежнасьці ня могуць устанаўляць паліцэйскія даходжаньні аб тым, ці паміж продкамі дзіцяці ня было чалавека, які некалісь належаў да пануючае царквы, або ці прыпадкам над гэтым дзіцём ня споўніў нейкага абраду духаўнік гэнае царквы. Цяпер рэлігійная прыналежнасьць у цывілізаваных гаспадарствах азначаецца выключна на аснове ясна выяўленае **волі** бацькоў ці апякуноў дзіцяці, або самога дарослага чалавека, і атрымлівае законную сілу дарогай запісу ў кнігі нованароджаных, ці наверненых да данае рэлігіі, што выпаўняе духаўнік гэтае рэлігіі, дзеючы ў гэтым прыпадку, як цывільны ўрадовец. — І цяпер, у мысьль прыведзенае аналёгіі, павінен счэзнуць нацыяналістычны прынцып: „cujus regio, illius lingua“. Калі асновай істнаваньня народу зьяўляецца **сьвядомасьць**, дык дзікім гвалтам над нацыянальнымі правамі адзінкі будзе арбітральнае азначэньне яе нацыянальнасьці органамі дзяржаўнае ўлады, ці тварэньне заеўшыхся ў сваім нацыяналізьме прадстаўніцтваў краю на аснове **тэрыторыяльнае** аселасьці, або туманных гістарычных і этнічных досьледаў, або йшчэ больш туманных разважаньняў аб філялягічным паходжаньні прозьвішча.

Вось, значыцца, адзіным справядлівым азначэньнем нацыянальнае прыналежнасьці павінна быць **выяўленьне вольнае і сьвядомае волі** сталага чалавека адносна да сябе самога і бацькі ці апякуна — адносна да бязьлетніх, учыненае перад публічным урадоўцам і запісанае апошнім у публічныя кнігі. Гэткая сыстэма рэгістрацыі нацыянальнае прыналежнасьці мае назоў **нацыянальнага кадастру** (capidastrium) — падобна да падатковага кадастру. На гэтым Рудольф Шпрынгер (Rudolf Springer — „Kampf der Nationalitäten in Oesterreich“) будуе свой праект **аўтаноміі нацыянальнага згуртаваньня**. Паводле гэнага праекту, усе грамадзяне, упісаныя ў кнігі нацыянальнага кадастру, аселыя ў аднэй ці некалькіх гмінах (валасьцёх), твораць **нацыянальную гміну**, на чале якое стаіць выбраная сябрамі нацыянальнае гміны рада і ўрад. На-

цыянальныя гміны ў кожнай правінцыі (ваяводзтве, губэрні) творацъ акругі з акружнымі радамі і ўрадамі. Урэшце, арганізацыю нацыянальнага згуртаваньня завяршае галоўная нацыянальная (народная) рада — найвышэйшы кіраўнічы орган гэтага згуртаваньня, выбіраны сябрамі нацыянальных гмінаў, які ў свой чарод выбірае свой выканаўчы орган. Шпрынгер прадугледжывае, што могуць істнаваць такія тэрыторыяльныя гміны, ці нават правінцыі з гэткім аднародным нацыянальным складам насяленьня, што і нацыянальны склад палітычнага прадстаўніцтва тэрыторыяльнае гміны ці ўсяе краіны будзе гэтак сама аднародны. У такім прыпадку рада палітычнае гміны можа ўзяць на сябе ўсе функцыі, якія прыналежаць нацыянальнай гміннай радзе, а краёвы сойм — адпавядаючыя функцыі акружнае нацыянальнае рады.

Такая нацыянальная арганізацыя павінна карыстацца ўсемі правамі, якія дзяржава прызнае за карпарацыямі, як маральнымі істотамі, у межах публічнага права, а іменна: правам вонкавага прадстаўніцтва і дзеяньня ад імя нацыянальнага згуртаваньня, правам кіраваньня нацыянальным фондам, набываньня ўсемі паказанымі ў законах спосабамі маемасьці для гэтага фонду, у тым ліку дарогай даравізны і спадчынных запісаў, правам накладаньня на сябраў нацыянальнага згуртаваньня нацыянальнага падатку і іншых асабістых павіннасьцей — і г. д. Далей, органам нацыянальнага згуртаваньня павінна прыналежаць уся сфэра компэтэнцыі дзяржаўнае ўлады, якая абыймае апеку над нацыянальнымі інтарэсамі, што ня маюць агульна-дзяржаўнага характару. Значыць, у першы чарод—уся культурна-прасьветная сфэра: школы, падтрыманьне навукі, пісьменства, мастацтва.

Хіба, што нямашака патрэбы давадзіць, што ў гэтай вобласьці іменна адна толькі нацыянальная арганізацыя і можа адказаць вымаганьням грамадзкіх інтарэсаў; дзяржаўная ўлада, якая кіруе асьветай у гаспадарстве з рознапляменным насяленьнем, ніколі ня можа так датарнаваць асьветную арганізацыю да патрэб паадзінокіх народаў, як гэта могуць зрабіць нацыянальныя арганізацыі.

Калі духовая культура прадстаўляе першую патрэбу народу, дык ня менш важным прадметам апекі гаспадарства зьяўляецца матэрыяльная культура і яе разьвіцьцё. З увагі на залежнасьць вышыні расцьвету матэрыяльнае культуры ад духовае культуры народу дзяржава мае права засьцерагчы вядомае мінімум узгадаваўчага цэнзу для ўсіх ступеняў школы і, эвэнтуальна, абавязковасьць для ўсіх грамадзян нейкага мінімума ўзгадаваньня, забясьпечываючы пры гэтым для менш заможных нацыянальных меншасьцей патрэбныя дзеля гэтае мэты матэрыяльныя засобы.

Передача культурна-асьветных справаў нацыянальным арганізацыям разьвяжа адначасна і пытаньне аб выкладовай мове ў школе.

Аднак, неразьвязаным астаецца йшчэ пытаньне аб мове ў судзе і ў адміністрацыі. Пры абавязковасьці прынцыпу роўнапраўнасьці моваў, пры справядлівым стасаваньні палітычнае геаграфіі і пры датарнаваньні межаў гмін, паветаў і правінцыяў да нацыянальнага складу жыхарства — павінен быць прыняты прынцып, што ў судзе і ў урадах будзе ўжывацца мова большасьці нясяленьня ў межах дзейнасьці данага суда ці ўраду, калі-ж склад нясяленьня не аднародны, калі істнуе сярод яго лічэбна значная меншасьць, якая ўжывае іншае, чым большасьць, мовы, — дык мова меншасьці павінна заняць палажэньне другое ўрадовае мовы. Але і гэта не разьвяжа пытаньня аб забясьпечаньні інтарэсаў дробных нацыянальных меншасьцей. Ведама, немагчыма вымагаць, каб судзьдзя ці ўрадовец ведалі ўсе мясцовыя мовы; вось, у такіх прыпадках нельга будзе абыйсьціся без дапамогі перакладчыкаў. І тады можа выступіць якраз нацыянальная арганізацыя, арганізуючы бюро праўных парад, утрымліваючы выбраных ею перакладчыкаў, друкуючы ў нацыянальнай мове абвесткі і загады ўраду.

Урэшце, вельмі важнай справай зьяўляецца назначэньне тых ці іншых урадоўцаў на судовыя і адміністрацыйныя становішчы. Ясна, што для кожнае нацыянальнасьці мае вялікую вагу ня толькі тое, ці ўрадовец ведае мясцовую мову, але і тое, да якога народу належыць. Добра вядома, якую ролю ў парляманцкай барацьбе ў Аўстрыі іграла ў сваім часе змаганьне нацыянальнасьцей за ўрады, як часта былі роблены вялікія уступкі ў самых важных для нацыянальных інтарэсаў справах, каб толькі вытаргаваць назначэньне нацыянальнага міністра ці іншага высокага ўрадоўца.

Бязспрэчна, ня толькі ў манархічных, але і ў дэмакратычных гаспадарствах назначэньне ўрадоўцаў зьяўляецца прывілеем ураду, і скасаваць гэты прывілей да канца немагчыма. Затое зусім магчыма прызнаньне за нацыянальнымі арганізацыямі права прапорцыянальнасьці пры замяшчэньні ўрадаў. Калі ўрады будуць выбарныя, дык нацыянальным арганізацыям можа быць дадзена права выбару прыпадаючае на іх долю часьці ўрадоўцаў; калі-ж урады замяшчаюцца па назначэньню, урадам, дык назначаць павінны кандыдатаў нацыянальных арганізацыяў з прадстаўленых імі сьпісаў у прапорцыянальнай лічбе.

Вось межы нацыянальных правоў у дзяржаўным жыцьці. Аднак, гэтыя правы астануцца мёртвай буквай, калі нацыянальным арганізацыям ня будуць забясьпечаны ўсе магчымасьці дзеля іх зьдзейсьненьня, а перад усім патрэбныя матэрыяльныя засобы. Калі нацыянальнае згуртаваньне пераймае рад чыннасьцей, якія раней выпаўняла дзяржава, і гэтак зьнімае з дзяржавы часьць цяжару, дык будзе зусім справядліва, каб адпавядаючая гэтым чыннасьцям часьць бюджэту гаспадарства ў справядлівай прапорцыі была

аддадзена ў рукі нацыянальнае арганізацыі,—ведама, пад кантролем дзяржавы над выпаўненьнем сьметаў.

У гаспадарстве толькі дзяржаўная ўлада мае сілу прымусу; нацыянальная арганізацыя сама прымусу ўжываць ня можа, дык у прыпадку патрэбы,—прыкладам, пры адмове плаціць нацыянальны падатак ці выпаўніць другую павіннасьць у адносінах да нацыянальнага згуртаваньня,—яна павінна мець права на падмогу з боку дзяржаўных органаў улады, на brachium saeculare, якім карыстаецца царква. Урэшце, нацыянальнае згуртаваньне, як і кожная адзінка ў гаспадарстве, мае права — ў прыпадку нарушэньня яго інтарэсаў другімі адзінкамі ці згуртаваньнямі — дамагацца абароны сваіх правоў і рэстытуцыі судовай процэдурай — цывільнай, угалоўнай і адміністрацыйнай.

Вось у кароткім нарысе праект разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, пададзены Шпрынгерам. Бяз сумліву, пры разьмежаваньні функцыяў дзяржавы і народу, пры точным адгранічэньні сфэры дзейнасьці нацыянальных арганізацыяў, адпадуць, калі ня ўсё, дык значная часьць прычынаў нацыянальных сварак, аслабее, калі ня зьнікне, грубасьць ваяўнічага нацыяналізму, і тыя сілы, што дагэтуль марнаваліся на нацыянальнае змаганьне, будуць выкарыстаны дзеля карыснае працы над разьвіцьцём нацыянальнае і агульна-людзкае культуры.

І гэты праект не зьяўляецца нейкай недасяжнай утопіяй, бо ён зусім згаджаецца з кірункам тэндэнцыяў, якія выяўляюцца ў разьвіцьці сучаснага гаспадарства; апошняе далёка адыйшлося ад ідэалу паклоньнікаў паліцэйскага гаспадарства, што старалася захапіць у свае рукі кіраваньне ўсімі галінамі жыцьця адзінкі і грамадзянства. Цяпер адзінкі і згуртаваньні ў значнай меры ўжо вызваліліся з путаў дзяржаўнае рэглямантацыі, а межы компэтэнцыі гаспадарства ўсьцяж звужаюцца, губляючы паадзінокія функцыі ў двух кірунках: праз дэцэнтралізацыю, пачынаючы ад дэцэнтралізацыі адміністрацыі і муніцыпальнага і краёвага самаупраўленьня і канчаючы правадаўчай дэцэнтралізацыяй, краёвай аўтаноміяй і фэдэрацыйным ладам, — і праз інтэрнацыяналізацыю, дарогай перадаваньня некаторых функцыяў міжнародным установам, абапертым на міжнародных умовах. У жыцьці сучаснае дзяржавы ўсё больш і больш вагі набіраюцца розныя згуртаваньні — царкоўныя, гаспадарчыя, прафэсіянальныя, якія бяруць на сябе выпаўненьне цэлага раду задачаў, што раней выпаўняла дзяржава. І набліжаецца поўная перастройка таго грамадзкага кірунку, які называецца дэмакратычным. Дэмакратыя, якая імкнецца да панаваньня народных масаў і грунтуецца выключна на лічбавай пераваге, бо нават нацыянальных правоў меншасьцей ня ўмее інакш забясьпечыць, як толькі пры помачы лічбаў, — павінна ўступіць месца

другому лёзунгу, які грунтуе ўладу на каардынацыі разнародных грамадзкіх інтарэсаў і аддае ўладу ня суме расьцёртых у порах адзінак, а згуртаваньням, што прадстаўляюць грамадзкія інтарэсы. Усё больш узрастаючая перавага грамадзкасьці вядзе да такіх дзяржаўных формаў, якія аддаюць уладу ў рукі згуртаваньняў, — значыць, да таго, што Вард („Псыхалягічныя фактары цывілізацыі“) называе Соцыякратыяй.

*Т. Вароніч.*

## Беларусь — мой край.

*Мой край-з усіх найбольш няшчасны—*
*Як-бы саусім жыцьця ня мае,*
*Забыўся, дзе ляжыць скарб уласны,*
*І аб самым сабе ня знае...*

*У вянку з каменьня і курганаў,*
*Даўно адвыкнуўшы сьмяяцца,*
*Ен паў пад крыж, ня сьніўшы плянаў,*
*Каб сілам варажым ня даццa.*

*Мой край крыжоў, дзе сьлезы льюцца,*
*Дзе віхар зьдзеку ня сьціхае,*
*Скуль жаль і боль у сьвет нясуцца,—*
*Мой край, што крыж на сэрцы мае...*

*Гальяш Леўчык.*

28. V. 23.
Вільня.

# Кавалі.

*Сцэнічны абразок.*

Чуваць звон ад каваньня зялеза. Заслона зыходзіць. Стары і малады кавалі куюць. У глыбіні пылае горан. Кавалі перастаюць каваць. Стары кладзе ў горан зялеза, а Малады ўздувае мех. Праз адчыненыя дзьверы кузьні відаць зьвёзднае неба Чуваць сумны народны матыў — пяяньне начлежнікаў.

**Стары.** Старайся, сынку, хай бязупынна мех распаляе вагніста жар. Хай жар грызець зялеза, каб аж іскры мітусіліся чырвонымі краскамі сярод цемры глухой ночы. Зялеза будзе гібкае, мяккае, як воск,—лягчэй, спарней пойдзе праца. Хутчэй заробім на кавалак хлеба.

**Малады.** Я працую з усіх сіл. Я ў кожны свой дых укладаю сьвятое парываньне юнацкай душы. Люблю волю, хачу мець жыцьцё вагністага зьместу і дзеля таго ад сьвітаньня да зьмярканьня цяжкім молатам выковываю лепшую долю. Мяне так цікавіць і захаплівае кожная новая праява ў жыцьці! Усей істотай сваей чакаю прыходу нечага нябывалага, сьветлага, радаснага. Мне здаецца,—не, я веру, што ўсё прасякнута шчасьцем, што ўсё і ўсюды перапоўнена здароўем і багатай творчасьцяй, і, каб нам гэта пачуць, ахапіць, зьяднацца, дык трэба на ўсё дыхнуць гарачай любасьцяй—хай сэрца пылае, як горан! Трэба быць чулым,—быць усім і ўсюды. Хай параплаўляе вагністае натхненьне!

**Стары.** Эх, сынку! І я калісь гэткія думкі-іскры раскідаў усюды, пяў звонам малатоў да сьветлай будучыны. Гартаваў сэрца палкай любасьцяй да волі — долі... Эх, сынку, аднак, хата наша ўбогая, жыцьцё нашае галоднае, доля наша беспатольная, а сьлед наш—крывавыя краскі па цярністым шляху, зьвільжаныя нашым потам і сьлязьмі... Эх, сынку...

Нясецъ зялеза на кавадла. Якісь час куюць. Спыніліся, каб ацерці пот, перадыхнуць.

**Стары**. Чуеш... Начлежнікі пяюць... То-ж народ склаў гэткую песьню, песьню няволі і тугі-суму; складаў доўгія вякі, доўгія вякі...

Абодва ў задуме, абапёршыся на малаты і кавадла, стаяць якісь час, — іх сілуэты выдзяляюцца на чырвоным водблеску горна.

**Стары** *(рыхтуючыся да працы)*. Будзем канчаць.

**Малады** *(рашуча)*. А што мы робім? Каму робім?

**Стары**. Робім кайданы. А каму?—тым, хто іх робіць. Робім дзеля таго, што кайданы носім... *(нездаволена)*. Ды ўрэшце няма часу на развагі. Позна. Што робім—не бяда. Бяда будзе, калі не заплацяць, калі ў жываце з голаду будзе вурчэць—справа наша маленькая... А ну, гайда! Стыгне...

**Малады** *(адкідае молат)*. Хай мне лепш рукі адпадуць, чымся я маю рабіць гэткую праклянць! Хай стыгне зялеза, хай нам ня плацяць, хай душыць мяне гора... Я не сагнуся. Што з прадвякоў усе працоўныя жывуць у цемры і недастатку, што, запрэжаныя ў ярмо, аруць поле злыбяды,—дык дармо-ж! Ня ўзьдзенуць мне! Я хачу ня толькі сам быць чалавекам, але і другіх зрабіць людзьмі. Каб ня было заграбаньня жару чужымі рукамі, каб гора аднаго ня было радасьцяй другому, эх, каб ня было так, як ёсьць цяпер: агідна, чорна, чадна... Нам нічога не даюць, чаго нам трэба, чаго мы просім. Нас галодных, змучаных прыкавалі да молата, і нічога ў нас больш не асталося, только ён—молат. *(Паднімае молат. Маўчанка)*. Сярод сваіх мук і крыўд мы яго палюбім—з ворага хай станецъ нам другам. Хай кожны яго ўдар дае гарт сталі ў душу, моц зялеза ў цела, і мы ўзрасьцём, мы падужэем. Волатамі станем! Брызнуць кайданы!.. І ўчорашнія рабы—раптам валадары сьвету... Праца! *(рыхтуецца каваць)*.

**Стары**. Эх, сынку, а што-ж нам рабіць? Найміты мы, адзінотныя мы. Загад іх—воля наша. Дык што-ж нам рабіць?

Малады бадзёрым рухам вырывае ў Старога зялеза і кладзець у горан. Стары пакорна падходзіць да меха і ўздувае яго. Чуваць „Ад веку мы спалі...“ шмат выразьней, як папярэдняе пяяньне.

**Малады.** Працаваць для вызваленьня, працаваць для ўладарнасьці працы, для граньня-зьвяканьня каванага зялеза, для вось гэтых іскраў-зорак горну... Працаваць для шчасьця роду людзкога, для хараства жыцьця! Вось, пераплаўлю, перакую ўсю нашу папярэднюю працу. Стукну-гакну малатком, песьню запяю, улажу ў працу любоў і здатнасьць, ды выкую сталёвую звонка-рэзкую касу. А зрабіўшы касу, эх, ды й выйду я ў ноч чмарную, глухую. Мая коска блісьне яснасьцяй маланкі, зьвякне, адазьвецца. Размахнуся, гойкну... раз-у-раз паўкругам... Пакос за пакосам, ляжа лежнем-трупам нядоля ліхая, гора хат убогіх...

Зацягнуўшы „Ад веку мы спалі...“, Малады кладзець зялеза на кавадла. Кавалі, плюнуўшы ў далоні, куюць.

**Малады.** Жывей!

**Стары.** Мацней!

Якісь час запальчыва куюць, ажно з грудзей разлягаецца: гах, гах... Паволі заступае

ЗАСЛОНА.

*Л. Родзевіч.*

# На могілках.

Бязспынна, глуха процьма часу
Глытае хараство і моц.
Заход бяздушным сьветлым пасам
Адзначыў сьвежае дзярно.

На могілках ўдыхаю цішу
Адзін жывы паміж крыжоў;
А смутак дзіўны сэрца крышыць,
Бяз назвы смутак і бяз слоў.

І раптам стала зразумела,
Што моладасьць прайшла мая,
Што я астыў, калісьці сьмелы,
Калісь гарачы, яркі я.

Стаю разв
ажны і халодны,
Як сутуняючая даль,
І толькі сум сябруе згодна,
І толькі жаль, балюча й жаль.

Вось крыж і новыя балясы;
Грудок абложаны дзярном...
Бязьлітасная процьма часу,
Ня я—пад тым крыжом!

*Уладзімер Жылка.*

1923 г.

# Новае у беларускай паэзіі.

## I.

У паэзіі форма і зьмест — неразьдзельны.

Неразьдзельны яны затым, што кожнае пачуцьцё, кожнае перажываньне і настрой паэта, выліваючыся з ягонае душы, мімаволі прыймаюць тую адзіную ўласьцівую для іх форму, той рытм, які адпавядае, калі так можна сказаць, рытміцы самога перажываньня і настрою аўтара.

Жыцьцё мае нязвычайнае багацьце рытму. На гэтым аснована багацьце формы паэтычных твораў, складанае вякамі.

Усім вядома, што, прыкладам, стара-грэцкі гэксамэтр знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з біцьцём чалавечага сэрца. Вядома такжа, якія рэзкія перамены ў рытме сэрца адбываюцца ў залежнасьці ад перажываньняў чалавека. Дык зусім натуральна, чаму, прыкладам, дзеля ўрачыстага настрою адпавядае паважная актава, чаму выглядала-бы нечым дзікім, калі-б гэную форму верша мы ўжылі дзеля нейкага гумарыстычнага апісаньня.

Як нічым не абмяжована разнароднасьць перажываньняў жывога чалавека, так не абмяжована і разнароднасьць формы ў паэтычнай творчасьці. Праўда, кожная эпоха мела свае пагляды на тое, што дапусьціма і што недапусьціма ў паэзіі. І кожная чародная эпоха, у сувязі з зьменай настрояў і агульных пагляд аў грамадзянства, ламала старыя формы і тварыла нешта новае, засуджанае ў свой чарод на ломку новым пакаленьнем.

З гэтага пагляду можна сьмела сказаць, што гісторыя літэратуры — гісторыя разьвіцьця форм літэратурнае творчасьці — гэта найбольш поўнае адбіцьцё гісторыі культуры народаў; тут найлепш выяўляюцца самыя глыбокія, самыя праўдзівыя настроі і пагляды грамадзянства.

Усё гэта вельмі ярка выяўляецца пры досьледах над разьвіцьцём беларускае адраджэнскае літэратуры, якая ў зусім кароткі час перажыла тое самае, што другія, старыя літэратуры, перажывалі сталецьцямі. Болей таго: як у жыцьці жывое прыроды онтогенія і філёгенія ідуць тым самым шляхам, так сама і ў творчасьці паадзінокіх паэтаў нашых мы бачым паўтарэньне лініі разьвіцьця ўсяе літэратуры народу.

Якімі беднымі па зьместу прадстаўляюцца нам цяпер першыя творы беларускіх адражэнцаў пачатку XIX сталецьця! І якая-ж бед-

ная форма іх твораў — твораў Баршчэўскіх, Рыпінскіх, Чачотаў! Хаця ўсе яны углядаліся на нашу народную паэзію, але ніхто з іх не зраўняўся з народнымі песьнямі ні па сіле, ні па шчырасьці пачуцьця і настрою. І ня відаць у іх творчае іскры, а толькі мала вартая „работа“.

Першым пісьменьнікам, які заслугуе на імя паэта-мастака, быў Дунін-Марцінкевіч. І мы бачым у яго значны поступ у форме, раўнуючы да папярэднікаў. Але жыцьцё, якое ён малюе ў сваіх творах, яшчэ вельмі беднае. Яно ня можа глыбей захапіць аўтара, ня можа зьмяніць сваей сілай біцьця ягонага сэрца. І паміма апісаўчае здольнасьці паэта, паміма мастацкіх абразоў у „Гапоне“, форма верша яго астаецца прымітыўнай — сыльлябічнай, — такой, дзе для выяўленьня рытму сэрца нямашака месца.

На верш танічны пераходзіць Багушэвіч. Гэты паэт нязвычайна горача перажывае тое, аб чым піша: гора, бяду, крыўды народныя. Яго настроі шчырыя, яго перажываньні заўсёды глыбокія і запраўды прымушаюць біцца мацней сэрца паэта — ці то калі ён іграе на „Дудцы“ — „над народу сконам“, ці калі апісуе „хрэсьбіны Мацюка“, або апавядае пра тугу па Бацькаўшчыне беларуса, закінутага доляй у чужыну, — тугу, так добра знаёмую аўтару з асабістага жыцьця. У Багушэвіча бачым і больш разнароднасьці ў вершаваньні. Але трэба сказаць, што Мацей Бурачок — гэта не селянін, а толькі здэмакратызаваны шляхціц, сябра „вышэйшага“ круга грамадзянства. Яго славамі гаворыць не народ, а далёка адыйшоўшая ад народнае масы інтэлігенцыя, узгадаваная пад усё нівэлюючым уплывам эўрапэйскае цывілізацыі, хоць і спачуваючая народу і разумеючая яго.

Пачатак XX сталецьця дае нам цэлы рад іменьняў беларускіх паэтаў — запраўдных сыноў вёскі. А наперадзі ўсіх — Якуб Колас і Янка Купала. Гэта ўжо непадробленыя выразіцелі настрояў і думак беларускае народнае масы. Яны — паэты з так-званай „іскрай божай“. Пачуцьцё у іх выліваецца з душы бурным патокам і шукае для сябе адпаведнае формы. Іх духовае багацьце — вялізарнае. І форма ў іх адпавядае гэтаму багацьцю — асабліва ў Купалы. Рытміка — нязвычайна разнародная, як разнародны і адценкі іх настрояў і перажываньняў. Пачынаючы ад вельмі прымітыўных паслядаваньняў, з боку формы, расейскіх і польскіх паэтаў, яны крок за крокам вырастаюць усё вышэй, прысвайваюць сабе найдасканальшыя формы верша сучаснасьці. І ім усё яшчэ гэтага мала: яны разнаабразяць свой верш зусім самастойна і арыгінальна, бо ў створаныя другімі формы нельга ўліць свайго індывідуальнага, выключнага, бо чыста нацыянальнага, беларускага зьместу.

Доўгую дарогу прысваеньня формаў сусьветнае паэтычнае творчасьці праходзяць нашы песьняры. Чым вышэй узьнімаецца іх уласны дух, тым лягчэй для іх гэная дарога, тым лягчэй вялікія мастацкія дасяганьні. Асабліва яскравы прыклад дае тут Якуб Колас.

Успомнім перадваенную коласаўскую музу. Гэта — адбіцьцё душы беларускага салянства, толькі адбіцьцё, як у павялічаючым люстры. Гэта — ідэальная гармонія прыроды, быццам „песьня хораў". Рытміка, форма вершаваньня—ў поўнай меры адпавядае гэтаму зьместу. А заглянем да апошняга зборніку Коласа „Водгульле" (Менск, 1922 г.), перачытаем яго найнавейшыя, апошнія вершы, і шчырае зьдзіўленьне абхопіць душу: ад сялянскае лірыкі Колас дайшоў да настрояў сучаснага нэрвовага, з нязвычайна зложанай псыхічнай арганізацыяй, „цывілізаванага" эўрапэйца. Штось нязьведанае дагэтуль творыцца ў яго душы:

З цёмных шчылін хтось нязнаны
Ценi—страхi выклiкае,
Штось iм шэпча, штось кiвае,
Ды таёмна, няўчытана...
Сьмех вясёлы зьбег няждана...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ценi—страхi выпаўзаюць.
Iх ня бачыш—прачуваеш.
Штось чаруюць, заклiнаюць
I таёмна пагражаюць,—
Чым? У тым сiла, што ня знаеш.

*(„Цені-страхі", 1921 г.)*

Яму ў начной цішы звоняць нейкія дзіўныя песьні шкляныя шыбіны ў вокнах — песьні чыста імпрэсіяністычнага характару:

Няма ветру, ўсюды цiха;
Шыбы-ж звоняць,—што за лiха?
Хто ў iх стукнуў? Хто чапае?
Цi то знак хто хоча даць,
Што згубiлi мы дарогу,
Б'е трывогу,
Ходзiць, ўсiх прасьцерагае
I накладвае пячаць

На шляхi, дарогi тыя,
Дзе крыжы згнiлi старыя,
Цi замыслу пазьнiмалi,
Як аджыўшыя свой час?
Хто такi ён? Невядомы,
Незнаёмы,
А мо' дзе i сустракалi,
Мо' з iм бачылiсь ня раз...

*(„Звон шыбау", 1921).*

Так ад народнага пясьнярства Колас даходзіць да імпрэсіянізму. Ведама, гэта знаходзіцца ў цеснай сувязі з яго асабістымі перажываньнямі апошніх гадоў. А разам з новымі матывамі, што родзяцца ў душы песьняра, ён — мо' несьвядома — знаходзіць і новыя формы, прыкладам якіх служаць прыведзеныя адрыўкі.

Колас, а ў яшчэ вялікшай меры Купала, Багдановіч — гэта ўсё людзі, узгадаваныя агульна-эўрапэйскай культурай. Яны, праўда, чуюць па-своему, „па-народнаму“, але свае думкі і пачуцьці высказываюць агульный для ўсіх „эўрапэйцаў“ мовай. Сваё, народнае яны прапускаюць праз нівэлюючую прызму агульна-эўрапэйскае цывілізацыі. І праз рамантзым, рэалізм яны разам з усей эўрапэйскай паэзіяй даходзяць урэшце да тых новых кірункаў, якія маюць агульнае імя „нэо-рамантызму“: да сымбалізму, модэрнізму і т. д.

На гэтым яны і затрымліваюцца.

Але не затрымліваецца праца новых пакаленьняў паэтаў, якія ўсьцяж ламаюць старое і на руінах працы папярэднікаў будуюць нешта новае. На эўрапэйскім Парнасе мы сустракаем цэлы рад такіх кірункаў, якія выяўляюць шуканьне новае будучыны: гэта — футурызм.

Адкідаюцца старыя, прывычныя формы. Запаноўвае поўная свабода для рытму, ня зьвязанага старым штучным падзелам на абмяжованы лік строф. Ігра гукаў — вось закон творчасьці футурыстычных кірункаў.

Новая літэратурная хваля, як рэакцыя проці ўсяго старога, пракацілася праз усю Эўропу. Дакацілася яна і да Беларусі. А тут якраз зрабіліся вялікія перамены.

Беларусь (апрача Віленшчыны і Горадзеншчыны з старым віленскім цэнтрам культурнага жыцьця і адражэнскага будаўніцтва) перажыла рэвалюцыю 1917 году, перажыла дзяржаўны і сацыяльны пераварот, абаперты на дыктатуры пралетарыяту. У Савецкай Беларусі ўтварыліся зусім новыя варункі жыцьця, парваўшыя ўсякую сувязь з старой эвалюцыйнай дарогай, на якой адбывалася раней разьвіцьцё прыпадкаў. Новыя варункі, прызваўшыя да творчае працы самыя шырокія масы нашага працоўнага народу, паставіўшыя гэныя масы на кіраўнічае становішча, зусім натуральна павінны былі вытварыць новую псыхіку ў народзе, зачапіць новыя струны ў душах людзей.

Дзень новы, новыя ночы,
Век новы: агню, дыму, попелу...

(*„Босыя на вогнішчы“*).

І век новых настрояў, новых перажываньняў і імкненьняў.

Новая псыхіка, „новая душа“ народу павінна была знайсьці для сябе і новыя формы выражэньня ў літэратуры. Сьвядомы разрыў з традыцыямі мінуўшчыны павінен быў пакіраваць нашых новых на-

родных пісьменьнікаў на той шлях, на якім і літэтура адкінула ўсё старое, ужо перажытае.

Уплыў футурыстычных кірункаў у расейскай пралетарскай паэзіі вельмі сільны. Уплыву гэтага не магла абмінуць і маладая беларуская пралетарская паэзія, але ён тутака выяўляецца адно толькі ў разрыве з старымі традыцыямі і ў шуканьні новых форм — больш свабодных, адпавядаючых новым духовым настроям і імкненьням беларускае масы. Шукаць у беларускіх „наймалодшых" песьняроў насьлядаваньня нечага гатовага, створанага футурыстамі другіх нацыянальнасьцей,—пакуль што ня прыходзіцца.

II.

Каб выявіць усё тое новае, што можна знайсьці ў нашых „наймалодшых" парнасьнікаў, трэба было-б акуратна сачыць за ўсім, што друкуецца наабапал гранічнае мяжы, падзяліўшае Беларусь на „Савецкую" і „Польскую". На жаль. гэта пры сучасных палітычных адносінах невыпаўніма. Да нас толькі час ад часу прыпадкам даходзіць нейкая кніжка або газэта, друкаваная ў Усходняй Беларусі. Вось-жа мы і падойдзем да выяўленьня „новага" ў нашай паэзіі на аснове трох кніжачак: „Строма" Уладзімера Дубоўкі (Вільня 1923), „Босыя на вогнішчы" -- поэма — Міхася Чарота (Менск 1922) і „Уяўленьне" Уладзімера Жылкі. Першыя дзьве напісаны на Усходзе, трэцяя — на Захадзе Беларусі.

Ужо першы зборнічак робіць дужа прыемнае ўражэньне тым, што ў ім ня сустрэнеш традыцыйнае ў беларускай паэзіі маркотнасьці, суму, тугі, безнадзейнасьці. Наадварот: тут чуецца новы, сьвежы павеў, новыя тоны. Мы ўжо ня бачым перад сабой таго забітага, загнанага, утраціўшага сваю чалавечую сьвядомасьць лапатніка-селяніна, які толькі і мог стагнаць, плакаць, наракаць на сваю долю, але ня быў здольны сваімі рукамі каваць сабе лепшую будучыну. Бо з лапатнікаў-сялян ужо стварыўся, вырас у шырокім разуменьні гэтага слова народ, каторы ня можа жыць так аднабока, як жыў дагэтуль, ня можа праводзіць дні сваі вечна ў адным настроі.

Уладзімер Дубоўка радыкальна разарваў сувязь з традыцыйным стагнаньнем. Той дух, якім пранікнуты ўсе яго вершы, найлепей сьведчыць аб тым, што аўтар пісаў іх не пад цяжкім ярмом чужацкае ўлады, а на волі, у варунках вольнага жыцьця. Стольні тут размаху, стольні моцы і веры ў сваю сілу і сілу народную! Паэт ані не „жальбуе", не шкадуе „тых дзянькоў, што жыцьцё даўно разьвеяла, як дым". У ім чуецца маладая нарастаючая сіла, ня зьвязаная з старымі перажыткамі, і ён зварочваецца да адраджэнскае моладзі з закліка初ньнем:

Маладое пакаленьне!
Прычынайся, час прыйшоў!

Залатое Адраджэньне
Кліча ўсіх пад родны схоў!

А моладзь Дубоўкі, як і ён сам, жыве ўсімі ўласьцівымі маладасьці настроямі і перажываньнямі. Які характэрны з гэтага боку хаця-бы вершык „Зданьні“:

Вечар... П'яны вечар сваволі-траўня...
Вецер косы ночы расплёў, дурнік...
Салавей пяець над ракой... як слаўна!
Сны сьніць сасоньнік...

Гукі тыя, зданьні той цёмнай ночы
Кроў крынічаць... Млосьць захапляець волю...

Але ад гэнае „млосьці“ сіла моладзі ня чэзьне: то — адно мімалётны настрой, які хутка замяняецца другімі. І Дубоўка, папаўшы ў чужыну, захопліваецца быццам рэлігійным настроем, што мае сваім прадметам Бацькаўшчыну:

У песьнях я — на Беларусь малюся,
Як моліцца ля возера трысьцё.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
О, Беларусь, я на цябе малюся,
Тваім шляхом — прыйду ў шырокі сьвет,
Паміж людзей, народаў разьліюся,
Бы вецер зух у жыце, у аўсе...

І за ночай маёвай у яго наступае дзень, у якім ужо нямашака і сьледу мляўкасьці:

Сьнег зьнікае... Сустракаюць маладу вясну.
Сонца грэе, абуджае сьвет увесь ад сну.
Птушкі ймкнуцца супраць волі да сваіх краін.
„Час да хаты, час!“
Сьпеў чуваць адзін.

Кіну смутак я й маркоту аж на ніцы лозы
У вечар гэты, вечар траўня, вечар нецьвярозы.
Вольны вецер я паклічу, як пяюць наўкола:
„Час да хаты, час —
жыцьця майго золак...“

З ветрам, яснай бліскавіцай — ў небе паляцім,
Думкі, сэрца, кроў у жылах — усё мы адрадзім!
Толькі крыльле мне патрэбна, крыльле мне хутчэй!
„Час да хаты, час“—
рвецца гук з грудзей...

Гета — характэрныя рысы ў зьмесьце. Новае тут ня ў самым зьмесьце, а ў тым, як апрацованы тэмы, які настрой пануе ў душы

паэта; новае — у рытміцы перажываньняў. Да апошняе аўтар дапасовывае і форму, хаця йшчэ пераважна ня выйшаў за межы старых форм верша: усё яшчэ ўжывае старога трыалету, каторы ў яго сам па сабе нічога не гаворыць, — усё яшчэ ня вызваліўся да канца ад старое спадчыны. За тое многа вольнасьці ў яго ў словатварэньні, многа цікавых гукавых эфэктаў. Прыкладам:

Мітусіцца лістота мяцеліцай —
Мітульжынная, быццам дзьвіна.
Па аселіцы лёнам пасьцеліцца,
Завіхрыцца квяціста яна...

Слова „завіхрыцца" сустракаецца ў „Строме", здаецца, ажно тры разы. І „віхрыстасьць" зьяўляецца асноўным тонам вершаў Уладзімера Дубоўкі.

Усё-ж трэба адзначыць, што і гукавыя эфэкты, і словатварэньне у Дубоўкі даволі ўдачныя. Верш яго — мілазычны, музыкальны. Тут „старая спадчына" як раз аказвае вельмі добры ўплыў на аўтара-яна не дае яму ўтраціць пачуцьця меры, не дае і нарушыць гармонію грубымі дысанансамі, ці то ў гуках, ці то ў славах.

Новы дух яшчэ ярчэй выяўляецца ў паэме Міхася Чарота „Босыя на вогнішчы". Гэта абраз народных настрояў у часох сацыяльнае рэвалюцыі і зьмяняўшых адна адну чужаземных акупацыяў. Яшчэ лепш: гэта — гісторыя апошніх гадоў у настроях, так часта зьмяняўшыхся.

І гэты твор вызначаецца сілай парываньняў, магутным размахам, уласьцівым падняўшамуся на барацьбу народу. Розьніцца ён ад папярэдняга нязвычайна ярка выражанай пралетарскай ідэалёгіяй. Савецкая беларуская прэса не здарма адзначыла выхад паэмы „Босыя на вогнішчы", як пачатак запраўднае беларускае пралетарскае паэзіі. Ды так яно і ёсьць: пісьменьнікі, якія ў гэты мамэнт выяўляюць пралетарскую ідэалёгію, бадай усе вырасьлі да пачатку сацыяльнае рэвалюцыі, і ў іх творчасьці відаць яшчэ вельмі многа „старое спадчыны". Міхась Чарот ад гэнае спадчыны зусім вызваліўся. Ен б'ець словам, быццам молатам, а нязвычайна элястычная форма яго вершу нічым ня зьвязывае лёту думкі. І здаецца часамі, што паэт вярнуўся да тае нявыробленае формы народнага вершу, якая пануе ў большай частцы пісаных народных вершаў-гутарак. Але гэта толькі здаецца: бо заўсёды рытм выводзіць песьняра на належны шлях, не даючы яму ўпасьці да роўня гэных наіўных вершаваных гутарак. Вось, дзеля прыкладу, другая песьня паэмы:

— Пажар на Усходзе!
Таварышы, ур-р-ра!
— Што вы, шалёныя, годзе!
Што вам ня шкода дабра?

Усё, што зьбіралі вякамі,
Сёньня марнее ў вагні...
— Маўчы! Мы цябе кулакамі,
Чуеш?! Ні-ні!
Цэрквы, палацы, харомы—
Памяць мінулага—з дымам!
Што не запалім мы—зломім!
Зьнізу наверх ўсё падымем!
Страшна вам? Страшна?
Пажару агонь ломіць вочы?
Затое нам відна ўночы!
Маліцеся, грэшныя, небу,
Рукі ўгору узьняўшы.
Вас не паслухаюць хмары.
Таварышы!
Што нам трэба?
— Пажа-ары!

Мы падалі гэты адрывак, як нязвычайна характэрны для псыхалёгіі масаў паўстаўшага народу — „збунтаваных рабоў". Жаданьне зьнішчэньня, імкненьне зламаць, пусьціць з дымам усё, што напамінае аб старой няволі... У такі мамэнт маса не памятае, што яна нішчыць твор яе-ж уласнае працы. У гэным зьменным рытме, у нядроўным вершу чуецца рытм перажываньняў збунтаванае масы, народнага натоўпу, з якога падаюць пяруны і бліскавіцы рэвалюцыі.

Такое адчуваньне душы масы робіць тое, што вершы Міхася Чарота становяцца нязвычайна блізкімі, бо лёгка зразумелымі, для таго чытача-пралетарыя, для якога пісаны. Рытміка яго вершаў зусім адпавядае рытміцы перажываньняў і паэта, і масы. А рытміка ў кожнай песьні зьмяняецца, у кожнай песьні новая: то апісываецца мамэнт трыумфу „босых", то пабеда „чорнага арла" — нямецкага мілітарызму, то ізноў на сцэну зьяўляюцца чырвоныя сьцягі, каб уступіць месца беламу каню ўлана...

Хмары, дзе заход,
Падняліся...
— Што? Зноў непагода?
— Вецер! — крычыць народ,—
Вецер, уздыміся!
Вецер адказвае: „Згода!"
Хто слабы — дзяржыся!...

Змаганьне йдзе ўсё далей. Ліецца кроў. Бягуць людзі. „Іх рукі, ногі ў крыві"... А ўсё-ж паэт верыць у аканчальную перамогу свае ідэі і канчае паэму клічам:

Іграйце песьню. трубачы:
Тру-ру-ру! Тра-та-та!
Гэй, за намі, бедната!
На дарозе макрата...
Тру-ру-ру! Тра-та-та!
Тухне вогнішча ў крыві.
Песьню йграйце: „дзінь-дзі-ві!"
Каго зловіш — разарві,
Хто ня наш — таго даві...
Босы хто — за намі ўсьлед,
Хто убогі, хто разьдзет...
Гэй, за намі—ў новы сьвет!...
Цёпла там і там простор,
Небасхіл там повен зор...
Сонца тчэ жыцьця узор!...
Там спачынеш, бедната...
Тру-ру-ру! Тра-та-та!

Ня дзіва, што паэма мае вялікі ўсьпех у народзе. Літэратурны крытык, У. Ігнатоўскі, у сваей стацьці, далучанай да першага выданьня паэмы, кажа паміж іншым:

„Магчыма лічыць, што паэма „Босыя на вогнішчы" для выяўленьня сутнасьці вялікай рэвалюцыі на Беларусі зрабіла тое самае, што зрабілі паэмы А. Блока „Двенадцать" і „Скіфы" для выяўленьня сутнасьці агульна-рускай рэвалюцыі".

Паскольку Міхась Чарот выяўляе ў сваей паэме духовую сутнасьць рэвалюцыі сацыяльнай, пастольку Уладзімер Жылка ў сваім „Уяўленьні" адтварае псыхалягічны бок нацыянальнае рэвалюцыі. Запраўды, Беларусь усё яшчэ перажывае незакончаную нацыянальную рэвалюцыю, калі так гожа назваць той вялікі працэс прабуджэньня ўсіх духовых сіл нашага народу, што адбываецца на нашых вачах Гэта ўжо не эвалюцыйнае ўсьведамленьне сваей нацыянальнай прыналежнасьці: гэта — бурны творчы парыў, выяўленьне ад вякоў зьбіраўшыхся сіл у нашым народзе. І не дарма свой твор аўтар назваў „Уяўленьнем": бо працэс прабуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці за апошнія гады пайшоў такім шпаркім тэмпам, што ў ім дзеець не рэфлексія, не разважаньне, а іменна ўяўленьне ўсяе велічы нацыянальнае ідэі, уяўленае ў адзін мамэнт.

І Жылка так сама, як Міхась Чарот, разрывае сувязь з „старой спадчынай" і шукае для свайго „Уяўленьня" новае формы. Форму гэту ён знаходзіць у найнавейшых расейскіх паэтаў з Андрэем Белым на чале. Ламаньне традыцыяў мінулага становіць галоўную рысу ў вершаваньні Жылкі.

Радасьць мая вялікодная
Сына, пазнаўшага Маць.
Песьняй прадвесьня лагоднаю
Усіх я пачну абдарáць!

— так пачынае аўтар першую песьню „Уяўленьня". І — песьня за песьняй — дае абраз таго, як адбылося ў яго душы ўяўленьне вялікага Адраджэньня народу беларускага.

Для прыкладу даем тутака пачатак другой песьні:

Запраўды
Радасьць — рацыя:
Бацькаўшчына Беларусь
Есьць
Наймаладзейшая Нацыя.
З будняў блядых
Чорная косьць
Раздзьмухала Рух
Стараны
Вёсак і сёлаў.
Пяруны завірух
Узахапленьні
Грымяць аб адным:
Паўнагучна Адраджэньне!
і т. д.

Нельга сказаць, каб гэта было найлепшае месца ў творы Жылкі: яно, бадай, найслабейшае з свaей „рацыяй" і „нацыяй". Але і ў гэтай-жа форме могуць быць мастацкія абразы, дый яны запраўды ёсьць, — узяць хоць-бы песьню чацьвертую, якая канчаецца сільнымі радкамі:

... наш Дух,
Даючы рух,
Жыцьцё,
Праз крыўду, зьдзекі
І забыцьцё,
Спрадвеку,
З гадоў старых
Быў захаваны.
І вось — нязнаны —
Сягнуў тварыць.
І з першых дзён
Змог сну палон
І ночы глуш,
Мужычых душ

Зьявіў красу
І бель.

Асабліва пекныя адрыўкі, две Жылка ўдарае ў народны тон — тон народнае песьні (п. X.). Дый усюды многа мілазычных, музыкальных сукладаў, такіх сьпеўных, што як-бы просяцца, каб іх пяяць. Цікаўная з гэтага боку п. III, у якой у рыфмованых канчатках націскі стаяць па трэцім складзе ад канца і прыдаюць асаблівае харастово вершу:

А была цагана як:
Ветры дзьмулі лютыя,
Спалі паслухмяныя
Вёскі, сьцюжай скутыя...

Кожная песьня, выражаючы іншы мамэнт „уяўленьня“ нацыянальнага адраджэньня, напісана другой формай і з другой рытмікай, што прыдае твору асаблівую жывасьць. І хоць-бы з гэтага толькі боку рэч гэта зьяўляецца дужа цікавай: „новае“ ў ёй выяўляецца мо' найбольш поўна, найбольш усестаронна: і з боку зьместу, і з боку формы.

Усе тры разгледжаныя аўтары шукаюць новых дарог у сваей творчасьці. Яны даюць новыя формы для новых настрояў і перажываньняў, але трудна сказаць, як далёка зайдуць яны ў сваіх шуканьнях. Пакуль-што нічога закончанага, ясна сфармулаванага вывясьці з гэтых спроб нельга: яны ў значнай меры не арыгінальны, а пазычаныя — насьлядаваньні. Аднак ужо самы факт шуканьня новых дарог сьведчыць аб агульным поступе ў развіцьці нашае паэзіі „наймаладзейшых“: працай творчай і пачуцьцём красы яны здалеюць знайсьці тую лінію разьвіцьця, якая, не абніжаючы іх твораў з мастацкага боку, будзе найбольш, найпэўней адпавядаць новым настроям і новым імкненьням „новага беларуса“.

Вільня. 27.VI.1923.

*Ант. Навіна.*

## З рэдакцыйнага партфэлю „Нашае Нівы“.

### На біблійны пад.

*Proverbia XXIII.*

Як за адным сталом засядзеш з панам есьці,
Калі не палахлівы — сунь свой нож у губы!
Фальшывы панскі хлеб ня будзе ў горла лезьці,
Ім, нібы жарстваком, паломіш сабе зубы.

Замест віна ў твой коўш нальец пан гідку кпіну.
Пан громка скажа: „еш!“ падумае: „давіся!“
Услух „братам“ назавець, а ў думках—„хам“, „дубіна“...
Ня шчыры ён з табою. Бедны, сьцеражыся!

Абоймець пан цябе, — падумае: „сьмярдзючы!“
І заварожыць словам хітрым, як вужака...
Душу тваю ён купіць, купіць карк балючы;
Ты пойдзеш ад яго йшчэ горшым небаракам...

*Ясакар.*

*Увага:* Верш гэты, напісаны ў 1914 годзе, быў сканфіскаваны ў „Нашай Ніве“ маскоўскай ваеннай цанзурай.

---

## З нязнаных твораў М. Багдановіча.

У 1913 г. ў Вільні выйшаў зборнік вершаў Максіма Багдановіча „Вянок“. Крытычную стацьцю аб зборніку надрукаваў у „Нашай Ніве“ Ант. Навіна. Прачытаўшы яе, паэт прыслаў свайму крытыку экзэмпляр „Вянка“ з гэткім надпісам:

Дзень добры, Пане! Вось Вам просты надпіс:
Есьць гэткая японская забаўка,—
Кідаюць дробные аскёпкі дрэва
У ваду—і робяцца яны цьвятамі.
Усё гэта мне згадалась мімаволі,
Калі чытаў я Вашую стацьцю
Аб вершыках „Вянка“. І шлю падзяку
І цісну руку. Вам М. Богдановіч.

22.III.1914 г.
Ярраслаўль.



# Зорка.

*(Сюжэт узяты з апавяданьня А. Амфітэатрава „Лятавіца“).*

Заплятаюць зоры белыя вузоры
У бяздоньні неба... Ціша... цішыня...
Поўныя пакоры стромкіх хвояў хоры
Гымн сьпяваюць ночы... Ціша... цішыня.

Ня шумяць галіны маладой асіны
Аб адвечных страхах, векавой жудзе,
Толькі у лагчыні, гдзе туман лёг сіні,
Часам ночны вецер глуха загудзе.

Услухайся у словы ветравае мовы,
Услухайся у шэпты хвояў маладых:
Многа казкаў дзіўных, песьняў пераліўных
Чуткаю душою зразумеў бы ў іх...

---

—Тут былі калісьці,—зварухнуўшы лісьці,
Пачынае вецер,—не лясы—палі.
Над ракою гдзесьці, год таму ўжо дзьвесьце,
Між высокіх жытаў вёскі заляглі.

Там, у нізкай хатцы, жыў хлапец пры матцы
Сам прыгожы, сьветлы—нібы дзень вясной,
А пяяў так звонка, што аж чула сонка,
Голас меў жаўронка, птушкі палявой.

Чуць сьвітае ранкам, а у полі Янка
Ужо ідзе за плугам і папар арэ...
Паліць сонца з вышы, ўсё замрэ—ня дыша,
А яму і люба, толькі йдзе, пяе.

Увечары да хаты цягнецца араты
Адпачыць на сене ці пад кажухом,

А Янук гуляе, дзеўкі забаўляе—
Песьні ім сьпявае недзе за сялом.

Посьле, ноччу, ў поле пад лісьцё тапалі
Прывядзе ён коні, сядзе на зямлі,
Коняў даглядае, месячык вітае,
Дзівіцца і лічыць зорныя вагні...

Часта ў божым моры ірваліся зоры,
Як збліжалась восень, маці горкіх мар.
Уніз яны зьляталі, гасьлі, прападалі
У бяздоньнях неба між калматых хмар.

Кажуць, што ня зоркі, анялаў пацёркі,
У восенную ночку сыплюцца дажджом:
Гэта лятавіцы, злыя чараўніцы
На зямлю зьлятаюць, ой, не за дабром!

Зоры ёсьць такія—ясныя, ціхія...
Душы праклятыя там жывуць, чуваць...
І за крыўду гэту да сканчэньня сьвету
Пакляліся мсьціцца—людцаў чараваць.

Спрыкрыцца праклятай жыці незанятай,
Засумуе часам—зоркаю зьляціць.
Скінецца дзяўчынай і брыдзе пуцінай
Грэх па людзях сеяць, хлапчукоў звадзіць.

---

Варажыла ночка, жаляў, чараў дочка,
Агарнуўшы мглою сіняю прастор.
У душу прасіўся, сьпевам дзіўным ліўся
Смутных ночных гукаў ціхі перабор...

Лёг хлапец у полі пад лісьцём тапалі
І цягучай песьняй скалыхнуў цішу.
Выліваў маркоты, сумы адзіноты,
Разьядаў сьлязамі горкімі душу...

У нябесным полі ярка, што раз болей,
Зіхацелі зораў белыя вагні.
І рваліся зоры, гінулі ў прасторы,
Гасьлі над зямлёю, гасьлі на зямлі.

Вось агнём зарніцы зорка-чараўніца
У вачох блінула і зьляцела ўніз.
Толькі сьлед бліскучы, агнявы, мінучы
На мамэнт праз неба ніткаю павіс.

Глянуў хлопец—дзіва: пасьвятлела ніва,
Зорка над зямлёю, над лісьцём ляціць.
Глянуў і падняўся, ледзь перажагнаўся,
А ўжо тая зорка перад ім стаіць.

З цемры няпрыветнай твар дзяўчыны сьветлай
Выплывае моўчкі і глядзіць, глядзіць,
Апусьціўшы вочы, моў спытацца хоча:
„Што сумуеш, хлопча, што табе баліць?“

Вочы у дзяўчыны—возера глыбіны,
Ад расьніц кладзецца сіняваты цень.
Валасы дзяўчыны—зорныя тканіны,
Серабрыста-белы месяца прамень.

Лёгкае убраньне з мглы правіднай раньня
Абвілося хмаркай каля белых ног...
Уся яна ірдзіцца, квола серабрыцца,
Як адна з тых зораў, што раскідаў Бог.

—„Хто ты?“—„Я дзяўчына з хмарнае лагчыны“
Зазьвінела ціха, бы званкі ў траве,
—„А пачула песьні, вабяць так балесьне,—
„І прыйшла у поле... слухаць... да цябе.

„Пей гучней, я сяду“... Слухае загаду,
Засьпяваў, заліўся, сэрцайка дрыжыць...
А дзяўчына зорка ўсё сьмяецца горка
І вачмі—бяздоньнем, жудасна блішчыць...

Скончыў Янка граньне: „Дзеўчынка, каханьне,
„Для цябе пайду я на мучэньні, зьдзек,
„Будзеш мая жонка — аджыве старонка,
„Разсьвятлее доля: палюбіў на век!

„Пэўна, знаеш чары, калі таюць хмары,
„Калі гінуць цені ад тваіх вачэй.
„Без цябе мадзеці не магу на сьвеце,
„Будзь маёю, любка, падыдзі бліжэй“.

Не жалейка плача, стогне небарача,
Не, ня начны вецер жаласна гудзе:
А з грудзей дзявочых сьпеў ліецца ў ночы,
Кроіць сэрца болем, сьлёзы гора лье...

Пабялелі сеці месяца на вецьці,
Паляцелі озр ыз чорных божых рыз,

Тонкія таполі застагналі з болі,
Апусьцілі веցьце распачліва ў ніз.

А душа канае... Але тут зьмяняе
Сваю песьню дзеўча на вясёлы тон:
Расплыліся хмаркі, выплыў месяц шпаркі,
Зазіялі зоры белым жамчугом.

Старыя бярозы, што гублялі сьлёзы,
Загудзелі сьветла, радасна, як сьмех.
Прабудзілісь кветкі, аджылі палеткі,
Усё пайшло круціцца, як у зімку сьнег.

Скача месяц белы, скачуць зоркі сьмела,
І дзяўчына скача з Янкою, пяе...
Валасы сплятае, нібы птушка тая,
Усё лягчэй нясецца, ўсё вышэй плыве.

Ад зямлі паволі сілай дзіўнай волі
Адлятае... ўецца сінім матылём,
Над густой пшаніцай зьзяе зараніцай,
А хлапец трымае, з ёю мкнецца й ён.

—„Ой, пусьці, хлапчына“, просіцца дзяўчына,
„Не сваёю воляй я ляту да зор!“
Але дарма б‘ецца, яго страшыць, рвецца:
Як каршун з галубкай, праляцелі бор.

—„Ой, пусьці!“—„Загіну, а цябе, дзяўчына,
„Ня пушчу, хай будзе, што захоча Бог“.
Ды запелі пеўні гдзесь у вёсцы пэўне,
Ірванулась любка,—затрымаць ня мог...

Шуганула ў неба залатыя глебы,
Задрыжэла зоркай — чыстаю расой.
І дагэтуль зьзяе, ночкамі гуляе,
Аж пакуль ня ўбачыць сонца над сабой.

А хлапец рвануўся — ў небе апынуўся,
За плячамі крыльцы шэрыя ўзрасьлі.
Жаўранкам, што золкам будзіць нівы, долкі,
Жаўранкам узьняўся ў вышу ад зямлі.

Спяць яшчэ пракосы, дрэмлюць ніў палосы,
А малы жаўронак ўжо ляціць, ляціць:
„Цірлі, цір, вярніся, цірлі, адзавіся!“
Да зары вячорнай жаласна зьвініць.

Толькі як у горы сном нялёгкім зморы
Ен засьне у ценю жытніх каласоў,—
Выплывае зорка і сьмяецца горка
І хлапца-жаўронка зводзіць, злая, зноў:

Бо як сьпіць — сьмяецца, але чуць прачнецца,
З песьняю памкнецца ў неба, да яе,—
У зораў карагоду, ў золаце усходу,
У чырвані аблокаў зорка прападзе...

Слонім
Верасень 1923 г.

---

# Увечары.

Смутак няясны зышоў на душу...
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?
Лёгкія хмары у небе плывуць,
Мглою чырвоны ўбіраючы пуць...

Гукі і гоман нясуцца здалёк,
Быццам хто гора стрымаці ня змог
І закрычаў, застагнаў на ўвесь сьвет...
Не, гэта места шуміць так... і сьлед
Хворыя гукі кладуць на душу.
Цемра надходзіць... чаго я хачу?

Хочацца ласкі, да болі, да мукі,
Хочацца сьціснуць халодныя рукі,
Хочацца кінуць усё і пайсьці,
Думкі разьвеяці хочацца... ці
Зараз заплакаць, каб сьцішыць душу.
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?

Можа хачу я таго, што ня знаю,
Можа хачу я далёкага раю?
Не, не зямных, ня тутэйшых уцех,
Радасьцяў жыцьця праз сьлёзы і сьмех...
Можа хачу аднавіці душу?
Цемра надходзіць... Чаго я хачу?

Вільня, 1922 г.

---

*
* *

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
Чыстым золатам густа залоціць рабіны,—
І здаецца паветра густым і зялёным,
Як вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах гатыцкіх касьцёлаў
І, зьніжаючысь, шклы запаляюць агнямі.
Зоры — вочы малых, засмучоных анёлаў,—
Мігацяцца у хмарах парваных над намі.

Час таёмны, ня ноч і ня дзень, калі цені,
Цені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
Калі хочацца раптам устаць на калені
І стаяць так бяз руху, маўкліва, бяз конца...

У гэты час аджывае у думках старое,
Успамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячорнай парою —
Зразумеці сусьветныя сумы й жалобы!..

---

*
* *

Клічуць вечарам зоры у сусьвету прасторы...
Поўны нейкае зморы, ці замучаны, хворы
Ня ідзе чалавек...

Ночкай месяц варожа так маўкліва, прыгожа...
Гэй, паслухае можа, кіне жыцьце нябожа?
Не, ня йдзе чалавек...

Не, ня йдзе, хоць паволі сэрцам рвецца да волі,
Што-дня болей нудзіцца—і жыве мімаволі,
Несьвядома амаль,

Хоць ад самага раньня яго жыцьце — змаганьне,
Сумаваньне па шчасьці, ці за долю дрыжаньне,
Неакрэсьлены жаль...

*Натальля Арсенева.*

# Нацыянальнасьць у Вінцука Дунін-Марцінкевіча.

(*Матэрыялы да характарыстыкі творчасьці*).

Разглядаючыся ў літэратурнай спадчыне Вінцука Дунін-Марцінкевіча, ня вельмі многа знаходзім даказаў яркага й моцнага выяўленьня ў яго бязспорнай і яснай беларускай нацыянальнасьці. І дагэтуль яшчэ нашыя крытыкі і пісьменьнікі адносяцца з нейкай рэзэрвай, нават часта і з поўнаю няверай што да яго працы й нацыянальнага беларускага напрамку, робяць усялякія закіды з боку дыдактыкі аўтара, ці з боку сацыяльных пераканаяньняў, а часта нават і з боку структуры (будовы) беларускага вершу, які, будучы ў аўтара сыльлябічным, быццам і ня мае чыста беларускага народнага характару.

На ўсе гэтыя закіды вельмі лёгка адказаць таму, хто бліжэй знаёмы з літэратурнай эпохай і сацыяльнай працай дзеячоў і пісьменьнікаў 1840—1860 гадоў.

Дыдактыка была ў модзе, як неабходны варунак гэтага літэратурнага кірунку, асабліва ў адносінах да народу і дзяцей, якім трэба было нясьці пачатковую прасьвету й культуру духа; дыдактыка прatрывала бадай цэлае 19 сталецьце. Так пісалі Ян Баршчэўскі, Ян Чэчот і Аляксандар Рыпінскі, і вініць іх за тое, што яны пісалі ня гэтак, як бы нам цяпер хацелася, ніяк ня можна, бо гэта і абмылка і спроба навязаньня да ацэнкі іх творчасьці новых сучасных крытэрыяў, якія ў тыя часы нават і не істнавалі. Асабліва ярка кідаецца гэта ў вочы, калі спатыкаемся мы з ацэнкай іх творчасьці з боку сацыяльнага. Некаторыя нашыя літэрат. крытыкі, якія бачаць у творах Марцінкевіча адно „шляхоцкія ідэі“, ня могуць ані як дабачыцца ў ім дэмакратызму, які—што бы ні гаварылі—ёсьць; забываюцца яны аб законе эвалюцыі дэмакратызму, і дзеля таго іх ацэнка выходзіць, як у крывым люстры. Такая сучасная крытычная мера, якая апіраецца толькі на об'екце сучасных думак і паглядаў, а ня ўмее ці ня здольна ацаніць творчасьць з боку гістарычнае эвалюцыі, заглыбіцца і зразумець дэмакратычныя імкненьні людзей данае эпохі, зьвязаных і скаваных часта варункамі жыцьця і непамернага палітычна-паліцэйскага ўціску,—мусіць быць і вузкай, і аднабокай і... страшэньне несправядлівай.

Для зразуменьня Марцінкевіча неабходна прастудыяваць яго эпоху. Сацыяльныя пагляды дзеячоў гэтага часу трэба выкапаць з тагачасных твораў, гадавікоў газэт, пісаных успамінаў (мэмуараў) ды лістовай перапіскі. Багацьце матэрыялу, як друкаванага, так і рука-

піснага, аграмаднае. І вось, пазнаёміўшыся з усім гэтым, адразу ярка і выразна паўстае нам перад вачамі асоба дзеяча і пісьменьніка, пачынае захопліваць нашу ўвагу, сымпатыю, і мы пранікаемся тады пашанай і любоўю да чалавека. каторага мы зразумелі, пазнаўшы ўсе абставіны яго жыцьця й працы.

З гэтага пункту гледзячы, мусім адзначыць, што ніхто з нашых старых пісьменьнікаў так не пакрыўджаны нашымі крытыкамі, як Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

Друкаваныя творы Марцінкевіча, калі добра да іх прыглядзецца, усе падыходзяць да пагляцаў, псыхікі і эстэтыкі народнае масы; сьведчыць аб тым (што ўжо раней заўважыў прафэсар Доўнар-Запольскі) іх пашырэньне сярод сялянства, прычым некаторыя з сялян ня толькі ўмеюць вершы Марцінкевіча на памяць, але і ведаюць імя іх аўтара. Заўважыць тут трэба, што, калі гэтыя сыльлябічныя вершы і спадабаліся народу, так што нават увайшлі, так сказаць, і ў этнаграфію, дык мелі яны даўны й моцна прыгатаваны грунт. Бо жыцьцё выплывае толькі з жыцьця, праца новых пакаленьняў асновываецца на працы старых пакаленьняў, дык і праца Вінцука Дунін-Марцінкевіча апіралася на працы ранейшых за яго будзіцеляў народу. Калі возьмем пад увагу нацыянальную працу бязыменных, нават нязнаных нам бліжэй па іх працы, скромных беларускіх працаўнікоў-будзіцеляў народнага беларускага духа з-пасярод беларусаў-езуітаў і беларусаў-базыліян, якія ў працягу XVIII і пачатку XIX сталецьцяў пакінулі пасьля сябе шмат літэратурных беларускіх памятак у кантах, калядках, рэлігійных песьнях, бэтлейках, інтэрмэдыях і школьных драмах і камэдыях,—мы мусім прыйсьці да перакана765ньня, што сыльлябічнасьць вершаў павінна была быць прынята народам, бо ўплыў гэты ярка відаць і цяпер у чыста народных творах.

Даказы гэтага „абыватэльства“ сыльлябічнасьці верша кожны можа пабачыць і ў сучасных нашых дамарослых сялянскіх вершапісаў. Кожная беларуская рэдакцыя атрымлівае шмат такіх вершаў ад вясковых пісакаў, а калі іх ня друкуе, дык толькі з гэтае прычыны, што вымагае цяпер ад вершу шмат больш артызму, чымсь гэта было раней, у даўнейшыя часы.

Беларуская літэратура XVIII і амаль што ня цэлага XIX сталецьця можа быць сьмела названа рукапіснай, бо, з прычыны гаротнасьці жыцьця, забароны друкаваньня пабеларуску, іначэй разьвівацца не магла. І дзіва тут у тым, што, ня гледзячы на гэткія, здавалася бы, забойчыя перашкоды, яна разьвівалася, расла, пакуль не дачакалася магчымасьці свабоднага друку. Відаць, жыцьцёвая яе сіла лішне вялікая, каб якія-колечы дрэнныя абставіны, перашкоды і забароны маглі яе спыніць у жыцьці ці зьніштожыць...

Памятак сыльлябічнае вершаванае творчасьці ў беларускай літэратуры так многа, што настаў ужо час, каб усё гэта навучна пра-

студыяваць. Тыповымі зьяўляюцца тут гэтак называныя „гутаркі“, лік каторых надта вялікі. Падходзяць да іх „рацэі“ або арацыі, прамовы паважныя або жартаблівыя, ужываныя ў важных здарэньнях жыцьця, як напрыклад: на вясельлях, на імянінах і г. д.

Марцінкевіч, добра ведаючы народ, стараўся так пісаць, каб якнайбліжэй дайсьці да народнага смаку й упадабаньня. Рукапісная беларуская літэратура добра была яму вядома, у творах сваіх ён прыводзіць шмат народных прыказак, песьняў, каб як магà найбліжэй падыйсьці да народнага смаку й упадабаньня.

І вось гэтае імкненьне Марцінкевіча да народнасьці, да перакананьня селяніна, што яго мова такая добрая, як і кожная другая, пры ўжываньні літэратурнае формы згодна з традыцыяй і смакам сялян— усё гэта не падабалася нашым крытыкам. Пасыпаліся закіды: мала нацыянальны, дыдактычны маралізатар, з сацыяльнага боку адна толькі шляхоцкасьць паглядаў на мужыка, як раба ў пана, форма верша сыльлябічная, а значыцца польская,—ну, адным словам, шляхоцкі пісьменьнік, які пісаў дзеля забавы, каб пасьмяяцца над мужычком.

Ці-ж гэта па праўдзі так?

Non ridere, non lugere, neque detestari, sed intelligere — кажа Сьпіноза, і гэтыя залатыя словы надзвычайна падыходзяць да данага выпадку. „Не сьмяяцца, не бедаваць, не пратэставаць, адно старацца зразумець“—вось мэтад, каторы павінен быць дэвізам кожнага крытыка.

Надта цікавае сьвятло кідае на Марцінкевіча і на яго нацыянальнае пачуцьцё ліст, пісаны ім да знамянітага польскага пісьменьніка Крашэўскага. Ліст гэты знаходзіцца ў архіве бібліатэкі Кракоўскае Акадэміі Навук і быў друкаваны з маленькімі пропускамі (з цэнзурных прычын) у часопісі: GAZETA POLSKA 1861 году № 111 стран. 2. Прыводзім яго ў перакладзе цалком:

„Жывучы сярод народу, які гаворыць беларускай гутаркай, зьвязаны целам і душою з яго спосабам думак, думаючы аб лепшай долі гэтага братняга народу, які застыў у дзяцінстве й цемнаце, пастанавіў я, каб заахвоціць яго да прасьветы, у духу яго звычаяў, паданьняў — легенд і здольнасьці душэўнай, пісаць у яго роднай мове; і вось з радасьцю я хутка ўгледзіў, што выданыя мною: С е л я н к у, Г а п о н а, В е ч а р н і ц ы, Д у д а р а, К у п а л у народ прыняў з аграмадным упадабаньнем, а моладзь з запалам пачала вучыцца чытаць і з намяці паўтараць мае, гэтак для яе мілыя, творы. З гэтае прычыны распаўсюджываецца ўжо сягоньня ў часьці над Вяльлёй і Нёмнам, над Сьвіслаччу, Бярэзінай, Дзьвіной, Дняпром і г. д. чытаньне беларускага друку, а раз ужо ахвота й любоў да духовае стравы разбуджаны, знойдзуцца з часам больш багатыя матэрыялы ў роднай мове.

„Гэтую маю думку і імкненьні зразумелі й аценілі людзі у Польшчы, не зразумелі ў Літве і на Беларусі, і вось на літэ-

ратурным сходзе ў пана К... пачуў я словы: „што, пішучы ў беларускай мове, сярод сялянскага народу зашчэпліваю провінцыяналізмы“; на што я прымушаны адказаць:

„Няшчасная прошласьць нашая давяла сялянскі народ да упадку, ня думаючы саўсім аб духовай і маральнай яго адукацыі, хаця бы праз памяць на тое, што гэта дзеткі аднэй маткі, што гэта пакрыўджаныя браты і хрысьціяне, якія маюць права да навукі ў роднай мове так, як да нябеснага хлеба.

„Калі ніводзін польскі ані расейскі орган друку не патрапіў, паміма намаганьняў у працягу амаль ня цэлага сталецьця, падняць наш народ, дык ці можна-ж гэтаму дзівіцца?... Ці мог якіколечы орган трапіць да вуха, да пераканаНьня селяніна, катораму способы навучаньня граматы ў роднай мове так былі утруднены, каторы, абліваючы крывавым потам гоні сваіх паноў, ня меў часу для духоўнага навучаньня? Калі часам голас матчынае мовы абіўся аб зацікаўленае вуха бедака, гэта была паводка пагроз ды лаянак, высказаных да пагарджанага сіраты.

„Вось, дагледзіўшы благія намаганьні адарваць і зьняверыць да нас народ, пастанавіў я праз творы ў яго роднай мове, адпаведныя яго паняцьцям, што знаходзяцца яшчэ ў калысцы, і аблягчаючыя яму способы асваеньня з граматай, заахвоціць яго да роднага слова, да прасьветы і маральна папраВіць. Які вызваляючы, збаўчы ўплыў аказалі гэтыя мае кніжкі на яго, трэба вывясьці і з гэтага, што кніжкі ў народнай мове ўжо саўсім разышліся, а новыя ня друкуюцца.

„Вялікі час на тое, каб „абыватэлі“ нашыя агледзіліся ўрэшце і праз аткрываньне школак, дамоў-ахронак, праз увядзеньне ў навучаньне народнай сялянскай мовы і праз другія магчымыя ахвяры стараліся гэтых маладых братоў сваіх, умеючых быць удзячнымі, прыгорнуць да сэрца і дзеля агульнага дабра цесна з імі злучыцца.

*Наум Прыгаворка*“.

З ліста гэтага моцна б'ець любоў Марцінкевіча да беларускага народу, яго шчыры дэмакратызм, высказаны досіць сьмела, чаго ў кніжках, друкаваных і праходзячых праз цэнзуру, рабіць было нельга.

Думкі аб скасаваньні прыгону, крытыка варункаў жыцьця сялян у часе паншчыны былі расейскім урадам Мікалая I-га і яго цэнзурай забаронены.

Аб гэтым нашы крытыкі ня маюць права ня ведаць і на старыя літэратурныя творы павінны зірнуць праз прызму тагачасных забарон цэнзуры. Тады толькі шмат што пабачаць і зразумеюць многае, што недасказана, што закрыта, што нават можа й незразумела спачатку.

Як адносілася цэнзура да друкаванай крытыкі сялянскага жыцьця пад панскім прыгонам, можа сьведчыць вершык Ігната Легатовіча

(1796—†1867 г. у Менску) у кніжцы—альманаху: BOJAN. Wilno, 1838,—пад загалоўкам: Spiewek z Biało-ruskiego narzecza (страніца 224):

*Скажы, Вяльможны Пане,*
*Што ў нашым будзе стане?*
*Бо мне нешта казалі,*
*Што вы няслушна давалі*
*У марцу родутпедо?*
*— A tobie chłopie co do tego?*

*— Прауда, што Вы панамі,*
*Пакуль жывеце над намі!..*
*Але што з таю будзе,*
*Калі станем на судзе?*
*Ня скажаш: Panie tego,*
*Co tobie chłopie do tego.*

Гэтага было досіць, каб кніжку, каторую ужо адзін цэнзар у Вільн прапусьціў, другія цэнзары (ад губэрнатара) забаранілі і прыказал канфіскаваць.

Пасьля скасаваньня уніі ў 1839 годзе пастаноўлена была абсалютная русыфікацыя беларусаў. Кніжкі беларускія, як Беларускі Катахізм 1835 г. (аўтар ксёндз уніят, прафэсар славістыкі на Віленскім унівэрсытэці, Міхал Баброўскі), „Селянка“ Марцінкевіча, „Песьні“ Чэчота прынаны былі шкоднымі, і ўжо цераз колькі гадоў пасьля таго, як іх надрукавалі, пачалі іх адбіраць і ніштожыць. Ініцыятарам быў вядомы мітрапаліт Семашка, злы дух тагачаснай культуры і вораг беларушчыны.

Дэмакратызм Марцінкевіча, яго шчырыя імкненьні да нацыянальнага падняцьця беларусаў не далі яму ў жыцьці нічога добрага. Прыйшлося нашаму паэту цярпець напасьці, як і кепкаваньні, як ад некаторых заядлых польскіх патрыётаў, паноў-шляхты й абыватэляў-памешчыкаў, так і чыноўнікаў маскалёў і абмаскалеўшых беларусаў. Ёсць на ўсё гэта шмат даказаў у недрукаваных матэрыялах. З асаблівай няпрыхільнасьцю глядзелі на Марцінкевіча тыя, што хацелі ў сваіх тайных і яўных школках і ахронках перарабляць беларускіх дзетак на палякоў. Ім ня ў смак былі беларускія народныя творы Марцінкевіча, яны бачылі, што гэтыя творы падабаюцца народу, што народ гэта прыймае з запалам і радасьцяй, і што ўсё гэта псуе і можа папсаваць іх палітыку ды зашкодзіць у будучыні валаданьню іх на Беларусі. Апрача невялічкага ліку прыяцеляў, людзей паступовых, ня меў Марцінкевіч прыхільных сабе людзей. У 1836 годзе Марцінкевіча былі арыштавалі: вінавацілі яго ў тым, што ён, як беларускі пісьменьнік, і зьяўляецца аўтарам варожых да расейскага ўраду беларускіх праклямацый, адозв, брашур ды рэвалюцыйнай газэткі „Му-

жыцкая Праўда". Пратрымаўшы яго каля 10 месяцаў у вастрозе, расейская алміністрацыя мусіла нашага паэта выпусьціць на свабоду, калі з палітычных працэсаў выявілася, што гэтыя друкі—фабрыкацыі віленскіх і беластоцкіх загадчыкаў паўстаньня, і што пападалі яны ў Менск з Заходняе Беларусі.

З ліста Марцінкевіча да Крашэўскага відаць ясна, хоць і шмат у ім недасказанага, куды ён ішоў, чаго хацеў для беларусаў і як глядзеў на паноў і на беларускую справу. Выданьне першай беларускай папулярнай народнай кніжкі „Гапон" у 1855 годзе ды яшчэ з ільлюстрацыямі ёсьць незабытая, аграмадная нацыянальная заслуга Марцінкевіча перад беларускім грамадзянствам. На гэта неяк ніхто не зьвярнуў дагэтуль увагі. Выдадзеная у 1859 годзе кніжка: пераклад паэмы Адама Міцкевіча „Пан Тадэуш" — была канфіскавана. А мала каму вядома, што яна выдадзена была за складковыя, цяжка запрацаваныя, сялянскія грошы. На цікавую прадмову да кніжкі ніхто не зьвярнуў увагі, і нават не стараліся яе перадрукаваць у новым выданьні. А шкада, бо ўсё гэта дае ясны і справядлівы пагляд беларускага грамадзянства на свайго вялікага „Дудара".

Хоць Марцінкевіча і выпусьцілі на свабоду, але чыноўнікі не перасталі сачыць за ім, уважаючы яго небясьпечным чалавекам у Расейскай Імпэрыі, які хоча будзіць беларускі народ і гэтак разьдзяліць гаспадарсцьвенае адзінства Расеі.

Дзеля гэтакіх прычын і няма дзіва, што Марцінкевіч, хаця пасьля 1864 году не перастаў пісаць па беларуску, мусіў аднак дзеля спакою і бясьпечнасьці сваей асобы скрывацца неяк са сваімі працамі й упадабаньнямі. Камэдыя „Залёты" напісана у 1870 годзе, „Пінская Шляхта" ў мове пінчукоў у 1866 годзе, вершы „Заўтра Спаса, кажуць людзі" у 1866 годзе—вось усе вядомыя нам творы Марцінкевіча пасьля 1864 году. Беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш., каторы вучыўся ў дачкі Марцінкевіча, панны Мальвіны, піша ў сваіх успамінах аб паэце, што ў яго быў поўны кубел беларускіх твораў, каторы згарэў у часе пажару дому.

Вядома, што Марцінкевіч шмат сваіх вершаў даваў знаёмым; пераклад паэмы Міцкевіча „Пан Тадэуш" быў зроблены поўнасьцю і пераходзіў з рук у рукі, пакуль у 1890 годзе не прапаў недзе ў Варшаве. Яшчэ і цяпер удаецца знайсьці тое сёе з твораў Марцінкевіча, як напрыклад верш „Заўтра Спаса, кажуць людзі". Старыя людзі кажуць, што усё лепшае, што напісаў Марцінкевіч, было ў рукапісах, а друкаванае было толькі тое, што мела чыста народны этнаграфічны характар

Пасьля паўстаньня од 1864 г. беларускі дух спыніўся на нейкі час. Забарона друку па беларуску выклікала рукапісную літэратуру, якая пачала далей разьвівацца так, як яна разьвівалася пасьля скасаваньня уніі. Беларускае нацыянальнае адраджэньне перажывае крызіс,

старыя грамадзянскія паняцьці і вартасьці замяняюцца памалу новымі, і каля 1881 году першыя беларускія сацыялістычныя дзеячы бяруць у свае рукі спадчыну беларускае нацыянальнае ідэі і разам з тым паднімаюць новы сьцяг змаганьня за народ на новай сацыяльна-грамадзянскай падставе.

*Раман Суніца.*

---

## Нязнаны верш Вінцука Дунін-Марцінкевіча.

Заўтра Спаса, кажуць людзе,
У Тарасэвічах кермаш будзе:
Трэба ехаць, падзівіцца,
У цэркві Богу памаліцца;
Потым шмыгнуць да двара
Павіншаваць Гаспадара.—

— „Паночку Яночку! дай табе Божэ
За год даждаці сьвятога Спаса,
Каб як лес расло усякое збожжэ,
Дык будуць пірогі і густая каша;
Не купляй мяса, а з сваей гавяды
Здаровай, маладой і тлустай, як лані,
Кармі сямейку, гасьцей і чэляды,
Дык ўжож тады будзеш Панам на ўсе сані!
У бочках, яндоўках і усякай пасудзе
Каб ня выбіралась гарэлка, мёд, піва,
Няхай пьюць удоволь добры і злы людзі,
На завісьць непрыяцелям і усім на дзіва.
Кінь жыцьцё бурлацкое, а пашукай жынкі
Маладой, прыгожай і любяшчай цябе,
Каб усі зайздравалі і глыталі сьлінкі.
Тады будзеш шчасьліў, жывучы як у небе.
А за такое, хоць дурное, мае павітаньне
Дай чарку гарэлкі, ды палюбі шчыра,—то з мяне і стане.

*Вінцук Дунін-Марцінкевіч.*

5 серпня 1868 року
Корытна.

Гэты верш Марцінкевіча быў надрукаваны бяз прозьвішча аўтара ў газэці „Минскій Лісток“ у № 165 страніца 2 у 1902 годзе. Тарасэвічы вёска і маёнтак знаходзяцца ў Бабруйскім павеце, гміна Гарадок. Вёска знаходзіцца ў 25 вярстах ад Бабруйска і ў 13 вярстах

ад станцыі чыгункі Ясень. Вёска Тарасэвічы мае царкву пад ваззваньнем Праабражэньня, збудаваную у 1818 годзе памешчыкамі Осьвецімскімі. Тарасэвічы—уласнасьць паноў Войнілловічаў так, як і Корытна. Корытна так сама Бабруйскага павету. Арыгінал верша знаходзіцца ў багатым беларускім архіве інж. Рамуальда Земкевіча ў Варшаве, а перайшоў туды ад пана Ксавэрага Войнілловіча, уласьніка маёнтку Корытна. Пан Ксавэры Войнілловіч, вялікі любіцель беларушчыны, памёр сёлета у Варшаве.

Рэдакцыі „Зах. Беларусі" ўдалося ўстанавіць, што гэты верш быў напісаны Дунін-Марцінкевічам да Яна Луцкевіча, бацькі вядомых беларускіх дзеячоў Ів. і Ант. Луцкевічаў, які ў канцы 60-х гадоў эрэндаваў успомнены ў вершу двор Тарасэвічы, ў Бабруйшчыне, ня быў яшчэ жанаты ў 1868 г. і знаходзіўся ў блізкіх адносінах з нашым пісьменьнікам. Ян Луцкевіч радзіўся ў 1831 годзе і памер у 1895 г. Сыны яго добра памятаюць, што такі-ж рукапіс знаходзіўся ў паперах бацькі.

# Вязьніца Адама Міцкевіча *).

У 1920 годзе на адным з засяданьняў віленскае Мястовае Рады сябра яе, Вацлаў Студніцкі, падаў сьпешную прапазіцыю, у якой дамагаўся, каб Базыльянскія муры (Вострабрамская 9), дзе зьмяшчаюцца беларускія культурна-прасьветныя установы (гімназія, навуковае т-ва, музэй і т. п.), былі адабраны ад беларусаў і перададзены ў рукі польскага грамадзянства. Радны Студніцкі заявіў, што расейская ўлада зьбяшчэсьціла вязьніцу Адама Міцкевіча, якая знаходзіцца ў гэтых мурох, абярнуўшы яе ў клязэты, а беларускае грамадзянства, хаця аб гэтым добра ведае, усё-ж захоўвае вязьніцу вялікага песьняра ў такім стане і далей.

Трэба адзначыць, што п. Студніцкі не падаў Мястовай Радзе ніякіх доказаў таго, што гэта—праўда. Наадварот: незадоўга перад тым— у часе агляду Базыльянскіх муроў групай прафэсароў Віленскага Унівэрсытэту, ён пры многіх сьведках адкрыта прызнаваўся, што ня ведае, гдзе мог сядзець Міцкевіч. Аднак, на засяданьні Рады п. Студніцкі гаварыў аб сваім „адкрыцьці“ з такой пэўнасьцяй, што радныя, чуўшыя аб падобнай прафанацыі камэры Траўгута у варшаўскай цытадэлі, паверылі яму на слова і прапазіцыю ухвалілі, ня пытаючыся аб довады.

Падобную пастанову зрабіла і „Towarzystwo Miłośnikбw Wilna“, на чале якога стаіць праф. Ф. Рушчыц. Факт, які п. Студніцкі падаваў, ак бязспорны, быў такога роду, што нават зусім паважных людзей зьбіваў з толку і пазбаўляў магчымасьці спакойна і крытычна аднясьціся да справы.

Затое істотай гэтае справы сур'ёзна занялося беларускае грамадзянства. Ужо даўно (1907—8 г.г.) найвялікшы дзеяч беларускага адраджэньня і выдатны археалёг, с. п. Іван Луцкевіч, разам з цяперашнім старшынёй польскага „T-wa Przyjaciół Nauk“, д-рам Ул. Загорскім, распачаў быў крокі дзеля высьненьня пытаньня аб „celi Konrada“. Давясьці сваю працу да канца яму тады не ўдалося з прычыны варожых адносін і ўсялякіх перашкод з боку расейскае ўлады. Цяпер, калі старыя перашкоды адпалі, беларускае грамадзянства, абуранае абсалютна няслушнымі польскімі закідамі, робленымі з зусім выразнай палітычнай тэндэнцыяй, з асаблівай энэргіяй аднавіла старыя досьледы ў справе „celi Konrada“, ведзеныя цяпер ужо не па-

*) Гэтая праца з малымі зьменамі у форме была у польскай мове перададзена дзеля надрукаваньня у рэдакцыю польскага тыднёвіка „Tygodnik Ilustrowany“, які некалі надрукаваў фантастычнае „адкрыцьце“ праф. Пігоня. Прадзяржаўшы рукапіс з пляпамі і рысункамі 4 месяцы, рэдакцыя „Tyg. Ilustr.“ адмовілася друкаваць яго. *(Рэд.)*.

адзінокімі асобамі, а Беларускім Навуковым Таварыствам. І гэтыя досьледы, як далей убачным, давялі да пажаданых вынікаў.

Аднак, лічучы, што пытаньне аб вязьніцы Міцкевіча датыкае ў роўнай меры як беларусаў, так і палякоў, і што дзеля гэтага ўсе досьледы ў гэтай справе павінны быць ведзены супольнымі сіламі абодвух грамадзянстваў, Беларускае Навуковае Таварыства зьвярнулася да дэпартаманту асьветы б. Сярэдняе Літвы і прасіла апошні ўзяць на сябе ініцыятыву стварэньня мяшанае беларуска-польскае камісіі дзеля вядзеньня досьледаў аб „celi Konrada“. Камісія была




№ 1. Сучасны плян Базыльянскіх Муроў: A — заходняе крыло. Б — паудзеннае крыло. + — Сьв.-Траецкая царква. I - сучасныя клязэты (дабудоўка пасьля 1865 году — „cela“ праф. Пігоня). II — адвечныя манастырскія клязэты („cela“ праф. Клоса). III — сьляды разбуранага у 70-х годах крыла (фактычная вязьніца Міцкіевіча). IV — падземны праход.

зложана з восьмі гэткіх асоб: ад палякоў—старшыня камісіі па даручэньню дэпартаманту, начальнік аддзелу культуры і мастацтва, артыста-маляр Веруш-Кавальскі, праф. Клос, праф. Рушчыц, д-р Ул. Загорскі, Міхал Брэнштэйн, арт. Вазьніцкі, Вацлаў Студніцкі і інж. Пегуткоўскі, ад беларусаў—праф. Браніслаў Тарашкевіч, інж. Антон Нэканда-Трэпка і аўтар гэтае стацьці. Праца камісіі дала дужа цікаўныя вынікі.

Зьбіваючы думкі праф. Пігоня, каторы ў сваей брашуры „Cela Konrada“ (Wilno 1921 г.) чыста тэорэтычнымі разважаньнямі стараўся

падцьвярдзіць „адкрыцьце" п. Студніцкага, камісія, апіраючыся на досьледах на месцы, кіраваных праф. Клосам, і карыстаючыся мястовымі плянамі з 1814 і 1845 гадоў (значыць, з часоў перад і пасьля арышту Міцкевіча), цьвёрда даказала, што *памяшчэньне, у якім цяпер знаходзяцца клязэты, у часох Міцкевіча зусім не істнавала* (на плянах яго няма!), што гэта—зусім новая дабудоўка з зялезна-бэтоннымі сталяваньнямі на ўсіх паверхах, што сьцены яе нават канструкцыйна ня зьвязаны з галоўнай будоўляй. Камісія устанавіла, што „cela Konrada",




№ 2. Плян з 1814 году: I — паудзеннае крыло. II — заходняе крыло. III — няістнуючае цяпер крыло. + — царква.

на якую паказуюць п.п. Студніцкі і Пігонь, *да царкоўных муроў зусім не датыкаецца*, а тымчасам сам Міцкевіч асабліва падчырківаў у „Dziadach" гэную акалічнасьць, кажучы аб „celi" вустамі Фрэенда:

„Ostatnia jest, przylega do murów kościoła:
„Nie słychać stamtąd, choć kto śpiewa albo woła.
„Myślę dziś głośno gadać i chcę śpiewać wiele;
„W mieście pomyślą, że to śpiewają w kościele".

*(III ч., сцэна I, верш. 17—20).*

Пасьля таго, як першая палова задачы камісіі—палова чыста нэгатыўная—была закончана, як фантастычныя „адкрыцьці“ п.п. Студніцкага і Пігоня былі ў шчэнт разьбіты об'ектыўнымі довадамі,—думкі сяброў камісіі падзяліліся, калі прыступілі да выпаўненьня другое часьці задачы: устанаўленьня месца вязьніцы Міцкевіча.

Праф. Клос, згаджаючыся з агульнай аргумэнтацыяй праф. Пігоня, думаў, што, раз у часох Міцкевіча памяшчэньне з сучаснымі кляэтамі не істнавала, дык „cela Konrada“ павінна была быць у сусед-




№ 3. Плян з 1845 г.: I паудзеннае крыло. II — заходняе крыло. III — няістнуючае цяпер крыло. + — царква.

нім з кляэтамі пакоі, апошнім (перад дабудоўкай) у паўдзённым крыле гмаху. Праф. Клос паказваў нават выкрытыя ім сьляды каміна, аб якім ёсьць успамін у „Dziadach“...

Другія сябры камісіі энэргічна выступілі проці такога дапушчэньня. Ужо самая форма, якую, паводле праф. Клоса, павінна была мець гэная „cela Konrada“, выклікала сур'ёзныя сумляваньні: у аднэй палове яна мусіла быць шмат шырэй, чымся ў другой, ды адна сьцяна з гэтае прычыны мелася быць ламаная. Камісія не магла так лёгка адкінуць заяву самога Міцкевіча, адкіданую бяз ніякае асновы панамі

Студніцкім, Пігонем і Клосам, аб тым, што „cela Konrada“ прылягала да царкоўных муроў. *Цяпер* ніводнае памяшчэньне абодвых скрыдлаў кляштару ня мае сутычнасьці з царквой, аддзеленай абшырным сьвінтаром (гл. плян № 1). На гэтай аснове п.п. Студніцкі, Пігонь і Клос зрабілі вывад, што Міцкевіч... памыліўся! Камісія была больш асьцярожна ў сваім вывадах. Было паднята пытаньне: *а ці у часох Міцкевіча так сама ня было памяшчэньня, якое-бы адпавядала дадзенаму*



Няістнуючае цяпер крыло паміж паудзенным крылом і царквой. Крыжыкам абазначана вязьніца Ад. Міцкевіча.

*у „Dziadach“ апісаньню?* Об'ектыўныя досьледы далі *пацьвярджаючы адказ* на гэтае пытаньне.

Запраўды, на успомненых ужо плянах з 1814 і 1845 г.г. мы бачым, што *паудзеннае манастырскае крыло злучала з царквой шырокая будыніна* (гл. пляны №№ 2 і 3), катораяцяпер ня істнуе. Агляд на месцы пацьвярдзіў, што ў прыземнай часьці яе быў праход з манастыра проста ў царкву. Гэткі самы праход, шырыня якога роўна прыблізна траціне шырыні гэнае будыніны, істнуе і цяпер у тым месцы пад зямлёй, злучаючы склепы манастыра з падземным склепам

закрыстыі. Аднак, Камісія ня мела магчымасьці дазнацца, ці гэная будыніна была толькі прыземная, ці мела верхні этаж, які мог быць жылы? Прыймаючы пад увагу, што, згодна з тэкстам „Dziadów", „cela Konrada" была на „другім этажы", камісія прызнала толькі адно: што *адказ на апошняе пытаньне можа аканчальна разьвязаць усю справу аб „celi Konrada"*.



Месца, дзе стаяла вязьніца Ад. Міцкевіча, у сучасным відзе (месца вязьніцы абазначана крыжыкам).

На жаль, калі дэпартамант асьветы быў зьліквідаваны, спынілася і праца мяшанае Камісіі. Беларускае Навуковае Таварыства некалькі разоў зварачалася да сяброў Камісіі—палякоў, заклікаючы супольна закончыць распачатыя досьледы. На жаль, нічога дабіцца ў тым кірунку не ўдалося: прадстаўнікі польскага грамадзянства не захацелі далей працаваць. З гэтае прычыны беларускае грамадзянства было прымушана весьці далейшыя досьледы самастойна. І вось удалося выкрыць новыя матэрыялы, якія ня толькі раз на заўсёды разьбіваюць легенду аб „прафанацыі celi Konrada", але і даюць аканчальны адказ на пытаньне аб месцы вязьніцы Міцкевіча.

Перадусім Беларускае Навуковае Т-ва выкрыла інвэнтар Базыліянскага кляштару, сьпісаны 23-га красавіка 1841 году, значыцца, *пасьля* бытнасьці тут Міцкевіча. У ім знаходзім падробнае апісаньне муроў і кожнага памяшчэньня ў іх. З апісаньня выяўляецца, што *ня толькі дабудоўка з цяперашнімі клязэтамі („cela“ праф. Пігоня) ў тыя часы яшчэ не істнавала, але што і „cela“ праф. Клоса ніколі ня была жылая, бо ў ей ад векоў былі клязэты, адзіныя для усяго манастыра, на усіх паверхах* *).

Другое адкрыцьце Белар. Навук. Т-ва дало магчымасьць ня толькі ўстанавіць характар няістнуючае цяпер будыніны, але і паказаць, як гэная будыніна звонку выглядала. Гэта — літаграфія праф. Трутнева, зробленая ім для альбому Батюшкова „Замѣчательности Сѣверо-Западнаго Края“, выдадзенага ў 1868—70 г.г. Зьменшаная адбітка літаграфіі зьмешчана такжа ў кнізе таго-ж Батюшкова „Бѣлоруссія и Литва“ (Петербург, 1890) на стр. 89. На літаграфіі, якую мы тут даем перарысаваную, прадстаўлена якраз тая будыніна, аб якой мы вышэй казалі, і зусім ясна відаць, што была яна *двух-этажная, з жылымі памяшчэньнямі на верхнім этажы* (аб гэтым сьведчыць комін на страсе), *шырокімі усходамі, веўшымі на верхні этаж проста з сьвінтара.*

Судзячы паводле рысунку, гэная будуніна, на пагляд расейскае ўлады, павінна была прадстаўляць ідэальнае месца дзеля вязьніцы: верхні этаж, як устаноўлена аглядам на месцы, зусім ня меў лучнасьці з манастыром, уваход таксама быў зусім абасоблены. Наадварот, у самым кляштары, як паказвае інвэнтар з 1841 году, быў толькі адзін уваход проста з сьвінтара—на самым пачатку заходняга крыла (насупраць званіцы), і з гэтае прычыны, каб праз яго папасьці да „cel“ праф. Пігоня і праф. Клоса (на самым канцы палудзеннага крыла), „палітычных праступнікаў“ улада павінна была-бы вадзіць праз усю даўжыню калідору і на вачох усіх жыўшых тамака манахаў. Апошняе, напэўна, было для ўлады непажадана. Дый дзеля выгоды тых-жа „праступнікаў“ улада напэўна не выкідала-бы манахаў з іх вялізарных пакояў. Пацьвярджае гэта і сам Міцкевіч: з тэксту „Dziadów“ відаць, што таварышы Міцкевіча па вязьніцы сядзелі ў вельмі цесных каморачках, якіх, згодна з інвэнтаром 1841 г., у галоўным гмаху зусім ня было, і дзеля гэтага зьбіраліся ў „celi Konrada“, як найвялікшай. А іх-жа самых была малая жменя!—Вось, мы з поўным перакананьнем і можам цяпер сказаць, што расейская ўлада магла выбраць дзеля памяшчэньня палітычных арыштантаў адно толькі гэную непаказную, цесную, але зусім абасобленую будыніну паміж манастыром і царквой.

Гэтак, апіраючыся па бязспрэчных об'ектыўных даных і на лягічных разьважаньнях, *за месца вязьніцы Адама Міцкевіча трэба пры-*

*) Спраўджана на месцы камісіяй Белар. Навук. Т-ва.

*знаць няістнуючую цяпер будыніну, адзіную, што прылягала да царквы* і дзеля гэтае самае прычыны была разабрана: яе разбурылі, каб даць магчымасьць адбываць працэсіі навакол царквы.

Такая разьвязка пытаньня зусім згодна з тэкстам „Dziadów“ — адзінай крыніцай і пуцяводнай зоркай для безстаронных і сумленных дасьледаў.

Справа „celi Konrada“ выясьнена аканчальна: з жалем трэба прызнаць, што *муры, у якіх найвялікшы пясьняр нашае Зямлі пераджываў найвышэйшыя мамэнты творчасьці, перасталі істнаваць...*

*Антон Луцкевіч,*

*Старшыня Беларускага Навуковага Т-ва.*

**Вільня, у маі 1923.**

# ПРАТАКОЛ

## Камісіі Беларускага Навуковага Т-ва дзеля выясьненьня месца камэры Адама Міцкевіча у Базыльянскіх мурох.

Вільня, 7 чэрвеня 1922 году. Камісія Бел. Навук. Т-ва у складзе: Старшыні Т-ва, Антона Луцкевіча, Сяброў Прэзыдыуму: Браніслава Тарашкевіча, Міхала Кахановіча і кс. Адама Станкевіча і Сяброў Т-ва: архітэктара Лявона Дубейкоўскага і інжэнера Антона Трэпкі, агледзіўшы дэтальна Базыльянскія муры згодна з інвэнтарным опісам з 1841 году, устанавіла:

1) што будоўля ў опісе называецца чатырох-этажнай;

2) што цяперашні партэр называецца другім паверхам, а падвалы—першым;

3) што прыбудоўка ў паўдзённым крыле муроў, у якой цяпер знаходзяцца клязэты, запраўды, як тое ўжо устаноўлена Камісіяй пры Дэпартаманце Асьветы, у 1841 годзе яшчэ зусім не істнавала;

4) што дапушчэньне Сябры сказанае Камісіі пры Дэпартаманце Асьветы, праф. Клоса, быццам камэрай Міцкевіча служыла памяшчэньне, якое прылягае беспасярэдна да цяперашніх клязэтаў у тым-жа паўдзёным крыле, ня згодна з праўдай, бо як раз у гэтым памяшчэньні, згодна з опісам 1841 году, на ўсіх паверхах ад веку былі кляшторныя клязэты, адзіныя для ўсяго гмаху.

5) што ніводная убікацыя ў паўдзённым крыле ня мела вакон, выходзячых на царкоўны сьвінтар.

Разгледзіўшы далей літографію праф. Трутнёва, выабражаючую Сьв.-Траецкую царкву і зробленую з натуры ў 60-тых гадох мінулага сталецьця, Камісія Бел. Навук. Т-ва устанавіла істнаваньне ў тым часе будоўлі, акая злучала паўдзённае крыло кляштару з царквой, пры чым:

I) будоўля гэта прылягае да царквы,

II) мае верхні паверх, да якога вядуць шырокія ступені проста з сьвінтара.

III) памяшчэньне на гэтым паверху было жылое, аб чым сьведчыць істнаваньне коміна і, значыць, печы.

Апіраючыся на контэксьце III часьці „Дзядоў“, дзе гаворыцца, што камэра Міцкевіча „прылягае да муроў касьцёла“; прынімаючы пад увагу разважаньні праф. Пігоня, што Міцкевіч і яго таварышы не маглі бачыць адчыняньня дазорам варот, а маглі толькі дагадывацца аб гэтым па гуку; разумеючы, што ўлада пры выбары месца дзеля памяшчэньня арыштаваных бязумоўна магла затрымацца не на лепшых пакоях у самым кляштары, дзе тады жылі манахі, а бадай на найгоршых і пры гэтым зусім аддзеленых ад жыльля, як у няістуючай цяпер будоўлі, і констатуючы ўрэшце, што, апрача сказанае будоўлі, ніякая другая да муроў царкоўных не прылягае,—Камісія Бел. Навук. Т-ва гэтым устанаўляе, што адзіным месцам вязьніцы Міцкевіча і яго таварышоў магло быць выключна гэтае самае няістнуючае цяпер крыло.

Гэтыя вынікі сваіх дасьледаў Камісія Бел. Навук. Т-ва пастанаўляе перадаць Камісіі пры Дэпартаманце Асьветы.

# З мінуушчыны коопэрацыі у Віленшчыне.

Адсутнасьць точных даных з гісторыі перадваеннае спажывецкае коопэрацыі ў Віленшчыне не дазваляе зрабіць досіць поўнымі гэтыя нарысы.

Яны асьвятляюць толькі тыя факты коопэратыўнай мінуўшчыны краю, аб якіх можна казаць з большай пэўнасьцю. Шмат матэрыялу для гэтых артыкулаў чарпалася з часопісі „Życie Spółdzielcze", выдаванай грам. А. Шкленьнікам, якая ў працягу 1910—1915 гадоў багата адбівала коопэратыўнае жыцьцё краю.

## 1. Агульныя варункі.

Спажывецкая коопэрацыя да вайны разьвівалася ў Віленшчыне даволі слаба. Расея, дзе рух пачаўся ад 60 гадоў прошлага веку, значна нас апярэдзіла. У Польшчы таксама з канца XIX веку коопэрацыя пачала набіраць усё большай моцы. Нават Ковеншчына розьнілася ад нас, як лічбай таварystваў, так і большай іх сілай.

Яно і зразумела.

Пад той час, як у Польшчы і этнаграфічнай Літве ў коопэрацыі бачылі адну з эканамічных пазыцыяў народнага адраджэньня,— пачуцьцё гэтага адраджэньня ў шырокіх народных масах Віленшчыны ў тыя часы аставалася вельмі нявыразным.

І тады, як у масах ня вырасла яшчэ сьвядомасьць, што коопэрацыя ёсьць шлях да запраўднага паляпшэньня свайго гаспадарчага і духовага дабрабыту, коопэрацыяй зацікавіліся грамадзянскія колы, якія стаялі па-за народам, але па тым ці іншым пабуджэньням стараліся навязаць сувязь з народам і гэтую сувязь бачылі ў коопэрацыі.

Так, з аднаго боку, за коопэрацыю, як за магчымасьць злучэньня з народам і здабыцьця на яго ўплываў, схапілася краёвая польская інтэлігенцыя; з другога боку, коопэрацыяй зацікавіліся „северозападные деятелі", каб прышчапляць народным масам палітыку расейскага ўраду.

Дзьве названыя групы падзялілі прыблізна так сфэру коопэратыўнай дзейнасьці. Коопэрацыя крэдытовая і, наагул, сялянска-гаспадарская, як больш уплывовая сярод сялянства, зьвярнула на сябе асаблівую ўвагу ўраду: ёй заапекаваліся інспэктары дробнага крэдыту і нават „праваслаўныя брацтвы", якія на сваіх зьездах абгаварывалі справы крэдытовай коопэрацыі.

Спажывецкую коопэрацыю, якую бюракратыя лічыла меней уплывовай сярод сялянства, пакінулі без спэцыяльнай апекі, і ёй занялася краёвая інтэлігенцыя, пераважна польская, а сярод літоўскага сялянства—літоўская.

## 2. Спажывецкія таварыствы.

Адсутнасьць даных не пазваляе з пэўнасьцю сказаць, дзе і калі залажылася першае ў Віленшчыне спажывецкае таварыства. Але мусіць гэтымі першымі таварыствамі былі: Дзісенскае „Самапомач" і Глыбоцкае, якія залажыліся ў 1903 годзе і праіснавалі да самае вайны.

Закладаліся гэтыя коопэратывы пераважна па вёсках і мястэчках, у мястох—значна радзей, і закладчыкамі іх, па большай часьці была тая-ж самая інтэлігенцыя самага featureрознароднага сацыяльнага афарбаваньня—ад вялікіх абшарнікаў да вучцялёў. Сялянства пакуль што ўваходзіла ў склад кіраўнічых органаў у значнай меры толькі, як дэкаратыўны дадатак.

Расьлі гэтыя таварыствы і лічыліся адзінкамі. Апроч перашкодаў агульнага характару, шмат устрымлівалі рух труднасьці, якія ставіла ўлада пры зацьверджаньні статуту. Так, у 1908 годзе спажывецкіх таварыстваў было ў Віленшчыне 8, у 1912 — 28, 1913 — 40 і 1914 — 47.

Аб стане і дзейнасьці гэтых таварыстваў можна злажыць прадстаўленьне з іх гадавых справаздач, якія друкаваліся ў „Życiu Spółdzielczem". Зразумела, што прысылалі справаздачы лепшыя таварыствы, знача агульны ровень краёвых коопэратываў павінен быць трохі ніжэй, чым выходзе па даным друкаваных справаздач. Дзеля таго, што кожны год у часопісі друкаваліся справаздачы ня тых-жа самых таварыстваў, нельга злажыць пагляду на разьвіцьцё коопэратываў, на кірунак і характар іх дзейнасьці. Мала таго, тут сабраны справаздачы ня толькі з Віленшчыны, а і з другіх частак краю, дык аб коопэратывах Віленшчыны будзем разважаць, разглядаючы, наагул, коопэратывы краю, дзе коопэратывы былі аднолькавага тыпу і мала розьніліся між сабой у залежнасьці ад мясцовасьці. Розьніца паміж коопэратывамі была ў іншым, залежная не ад геаграфічнага палажэньня, а ад унутранага абліччa, характару дзейнасьці: выразна розьніліся коопэратывы вясковага і мястовага тыпу.

Дзеля гэтага, пры далейшым разглядзе справаздач, асобна сабраны даныя аб вясковых коопэратывах і асобна—аб мястовых. Сярэднія цыфры, якія паказаны ў ніжэйшых табліцах, узяты для першай групы (вясковай) з 31 справаздач вясковых коопэратываў, для другой—11 мястовых, або тых мястэчковых, якія маюць выразныя адзнакі мястовых коопэратываў.

Табліца агульнай характарыстыкі абедзьвюх груп коопэратываў:

На адзін коопэратыў выпадае:

| | Лічба сяброў | Паёвы капітал | Пазычка | Абарот |
|---|---|---|---|---|
| | | У рублях золатам: | | |
| вясковы . | 111 | 2411,5 | 2015,8 | 20.553,0 |
| мястовы . | 300 | 6501,0 | 8555,6 | 44.568,7 |

З таблічкі відаць, што мястовыя коопэратывы адзначаюцца большай лічбай сяброў, вялікшымі сумамі паёвага капіталу, наагул, вялікшымі абаротнымі грашыма і большым таварным абаротам.

Аб тым, ці прадаюць коопэратывы толькі сябрам, ці ўсім без разбору — даных няма. Трэба разумець, што прадавалі ўсім і, дзеля таго, што ня ўсе коопэратывы аблічалі прадажу сябром, дык устанавіць адносіны паміж закупкамі сяброў і несяброў нельга. Па прыпадковым даным можна сказаць, што зякупкі сяброў станавілі меншую палавіну абароту.

Наступныя таблічкі даюць паняцьце аб стане капіталаў, якія былі ў распараджэньні коопэратываў:

На аднаго сябра коопэратыву выпадае:

| Коопэратывы | Паёвага капіталу | Уласных капіталаў | Чыстай падвышкі | Пазычкі | Даугі сяброу за тавар |
|---|---|---|---|---|---|
| | У рублях золатам: | | | | |
| Вясковыя . . . | 21,7 | 4,0 | 7,4 | 18,0 | 7,6 |
| Мястовыя . . . | 21,7 | 4,3 | 5,1 | 28,5 | 13,6 |

На кожных сто рублёў (золат.) паёвага капіталу выпадае:

| Коопэратывы | Паёвага капіталу | Уласных капіталаў | Чыстай надвышкі | Пазычкі | Даугі сяброу за тавар |
|---|---|---|---|---|---|
| Вясковыя . . . | 100 | 18 | 34 | 84 | 35 |
| Мястовыя . . . | 100 | 20 | 24 | 131 | 68 |

Тут мы бачым, што тады, як сяброўскія капіталы ў коопэратывах абодвых тыпаў—аднолькавыя, мястовыя коопэратывы карыстаюцца пазычкамі прыблізна ў два разы болей, чым вясковыя. Таксама ў мястовых коопэратывах у два разы болей пашырана прадажа тавараў на-павер—найбольш згубная опэрацыя коопэратываў мірнага часу.

Дзьве названыя адзнакі мястовых коопэратываў характарызуюць іх большую папсаванасьць зносінамі з грашовай капіталістычнай гаспадаркай: большую магчымасьць і жаданьне пазычыць і больш слабы адпор прадаваць на-павер. Тое, што ў мястовых коопэратывах пераважаюць уласныя капіталы, трэба лічыць у нашых табліцах толькі выпадковай адзнакай.

Але, ня гледзячы на даволі высокую сяброўскую складку (21,7 р.), трэба заўважыць, што яе для належнага абароту не хапала, і коопэратывы шукалі пазычкі. А прычыны гэтага былі дзьве: 1) патрэбны былі засобы на абароты з несябрамі і 2) ад 1/3 да 2/3 складкі ляжалі ў забраным на-павер тавары. Належыцца дадаць, што, раўнуючы з сучаснымі коопэратывамі, даўнейшыя былі запраўднымі багачамі, калі пералічыць тагачасныя 20 рублёў на сучасныя 20 міліёнаў мар. з лішкам*). Да гэтай сумы не дайшла яшчэ ніводная сяброўская складка нашых коопэратываў. Таксама і тыя мізэрныя 2.411 рублёў сяброўскага капіталу цяпер павінны былі-б выглядаць паважнай сумай у паўтраця міліярда марак.

У ніжэйшай табліцы паказана гаспадарчая дзейнасьць таварыстваў:

На адно таварыства выпадае:

| Коопэратывы | Абарот у рублёх | Сколькі разоў абярнуўся: паёвы капітал | Сколькі разоў абярнуўся: усе абарот. грошы | Надвышка | % да абароту | Выдаткі | % да абароту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| вясковыя . | 20.553 | 8,5 | 5,1 | 2127,5 | 10,3 | 1305,4 | 6,4 |
| мястовыя . | 44.568,7 | 6,8 | 3,6 | 5586,5 | 12,5 | 4069,7 | 9,1 |

Тут адразу кідаецца ў вочы слабейшая гаспадарка мястовых коопэратываў: у іх павольны абарот, уся маса якога грунтуецца на пазычаных грашох, і вялікія гандлёвыя выдаткі, у 1½ раза большыя, чым у вясковых коопэратывах. Надвышка на тавары так сама значнейшая ў мястовых коопэратывах.

---

*) Перавод залатых рублеу на маркі тут і ніжэй зроблены прыблізна па курсу у сярэдзіне лістапада 1923 г. *(Рэд.)*.

Прыраўнаваўшы да сучасных коопэратываў, трэба заўважыць, што абарот цяпер, хоць ідзе шыбчэй, але % выдаткаў на гаспадарку коопэратыву куды значнейшы. Прычына тут крыецца ў агульным законе гандлёвай гаспадаркі: чым больш капіталу, тым меней выдаткаў, і наадварот; ну, а калі коопэратывы замест 20 міліёнаў марак сяброўскага паю маюць у 40—80 разоў менш, дык зразумела, што зьбяднеўшыя ў 40—80 разоў коопэратывы нясуць і большыя гандлёвыя выдаткі, чым у мірныя часы.

Такім чынам, падсумоўваючы ўражэньні ад даваенных коопэратываў і раўнуючы іх да сучасных, мусім прызнаць, што ранейшыя коопэратывы адзначаліся невялікай лічбай сяброў, даволі значнымі паёвымі і абаротнымі капіталамі, павольным таварным абаротам і адносна невялікімі гандлёвымі выдаткамі. Агульнай іх заганай трэба лічыць вельмі пашыраную прыхільнасьць прадаваць на-павер і карыстацца пазычкай.

Паміж сабой-жа коопэратывы вясковыя і мястовыя розьніліся тым, што ў мястовых больш выяўляюцца благія адзнакі: ня гледзячы на большую лічбу іх сяброў і большае грашовае багацьце, яны ахватней карыстаюцца пазычкамі, прадаюць на-павер, робяць слабы абарот і вялікія выдаткі. Слабасьць жа вясковых коопэратываў была ў малой лічбе іх сяброў і нязначнасьці грашовай сілы, як сяброўскіх паёў, так і іншай.

### 3. Негандлевыя установы.

Кажучы аб разьвіцьці коопэрацыі ў краю, трэба адзначыць дзейнасьць коопэратыўнай установы, якая ў працягу ад 1908 году да нямецкай акупацыі вельмі прычынілася да коопэратыўнага руху; гэта —„Віленскае таварыства дапамогі коопэрацыі“, заложанае 8 лістапада 1908 году.

Праўда, як кожная інтэлігенцкая арганізацыя таго часу, яна была вельмі адарвана ад народу, дзейнасьць яе нязначна была пашырана нават сярод тэй самай польскай інтэлігенцыі, у кругох якой Таварыства было створана *) За ўвесь час існаваньня Т-ва лічба яго сяброў вагалася паміж 30 і 40.

Малая зацікаўленасьць ідэйным бокам коопэрацыі не давала магчымасьці Таварыству шырока разьвіць сваю дзейнасьць. Табліца даходаў, якія былі ў распа аджэньні Т-ва, выясьняе, чаму яно не магло выйсьці на больш шырокую дарогу.

---

*) Тут аутар дае ня зусім точныя ведамасьці: сказанае Таварыства было закладзена пры учасьці прадстаўнікоу усіх, апрача жыдоу, нацыянальнасьцей краю, у тым ліку і беларусау, якія аднак, хутка адыйшлі ад Т-ва. *(Рэд.)*.

Колькі Т-ва мела грашовых даходаў:

| За гады: | Лічба сяброў | Сяброўск. узносаў | Зыску ад прад. кніг | Ад коопэратываў | Выпадкова | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У рублях | | | | |
| 1912 | 32 | 177 | 45,— | 40,— | 1674,73*) | 262,— + 1674,73 |
| 1913 | 35 | 172 | 102,65 | 22,92 | — | 297,57 |
| 1914 | 36 | 129 | 93,85 | 57,— | — | 279,87 |

Як відаць, даходаў не хапіла бы на ўтрыманьне сталага працаўніка і, каб не дабрачыннасьць—з аднаго боку і афярнасьць фактычных працаўнікоў Т-ва з другога, — апошняе не магло-бы зьдзейсьніць усяго таго, што яно ў сваім часе зрабіла.

Дзейнасьць Т-ва была даволі align разнародная: пры Т-ве істнавала інфармацыйнае бюро, у якім коопэратывы атрымлівалі парады арганізацыйнага характару; апошнія два-тры гады працаваў інструктар, які дапамагаў коопэратывам на мяйсцох; быў склад коопэратыўнай літэратуры на ўсіх мовах, ужываных у краю, патроху йшло ўласнае выдавецтва, як рахунковых кніжак, блянкаў, так і літэратуры агітацыйнага і практычнага зьместу.

Друкаваліся кніжкі ня толькі па польску, але і па літоўску, а ў 1914 годзе быў падрыхтаваны да выданьня нармальны статут у беларускай мове.

Уласныя выданьні разыходзіліся вельмі хутка, і такім чынам некаторыя кнігі выходзілі паўторнымі выданьнямі (напр. галоўная кніга—шостым). Да інфармацыйнага бюро ў працягу 5 гадоў 1908—1913 зьвярнуліся за парадамі 1200 асоб і коопэратываў; у наступныя гады праца пайшла яшчэ болей жвава.

Ня гледзячы на гэткую дзейнасьць, унутранае жыцьцё самае арганізацыі было даволі беднае і безкалёрнае. Штогодна ў красавіку адбывалася паседжаньне ўсіх сяброў Т-ва дзеля справаздачы, але цеснага злучэньня сяброў і больш жывога абмену думак нельга заўважыць.

Вельмі цесна зьвязана з працай Т-ва яшчэ адно паважнае зьявішча коопэратыўнага жыцьця даваеннага часу: часопісь „Życie Spółdzielcze“ (Коопэратыўнае Жыцьцё). Выдавалася часопісь па прыватнай ініцыятыве і за грошы грам. А. Шкленьніка, раней, як дадатак да газэты „Kurjer Litewski“, а потым, ад 1910 году, як незалежны месячнік-

*) Сума у 1674 р 73 к. была вызначана на т-ва вядомым віленскім дабрачынцам Юзэфам Монтвілам і празначана т-вам на утрыманьне інструктара.

Тут трэба зьвярнуць увагу на асабліва трудныя варункі часопісі. Яна павінна была стацца агітацыйным органам коопэрацыі, але ні ў шырокіх масах, ні сярод інтэлігенцыі ня быў падрыхтаваны грунт для коопэратыўнага слова. Жыцьцё вельмі слаба адгукнулася на пачэсную ініцыятыву; часопісі так і не ўдалося завязаць моцную сувязь з долам чытачоў, і „Życie Spółdzielcze“ зрабілася часопісяй акадэміцкага характару, якой удалося сабраць шмат цікавага матэрыялу з краёвага коопэратыўнага жыцьця.

Адарваньне ад грунту характарызуе ўсе коопэратыўныя пачынаньні ідэйнага характару ў перадваенныя часы: гэта гарманіравала з грамадзянскай атмасфэрай расейскага пэрыаду. Нельга абыйсьці моўчкі і той факт, што адарванасьць ад шырокіх масаў была цесна зьвязана з клясавым характарам тагачаснай ідэйна-коопэратыўнай дзейнасьці, а замкнёнасьць — з нацыянальным яе афарбаваньнем.

Вось што адзначае справаздача „Т-ва дапамогі коопэрацыі“ аб дзейнасьці яго за пяць гадоў 1908—1913: „Хто працуе ў гэтых установах? (коопэратывах).—Найменей тыя, на помач якіх мы мелі найбольшае права спадзявацца, г. з. абшарніцкая інтэлігенцыя“... і далей: „І вось мы больш не спадзяемся на помач абшарніцкай інтэлігенцыі“ („Życie Spółdzielcze“, 1914 г. стр. 68, 69). Але да гэтага слушнага перакананьня Т-ва дайшло пасьля 5-ці гадоў бясплодных спробаў прыцягнуць гэту інтэлігенцыю да творчай працы, пераканаць яе, што ў коопэрацыі рука падаецца не для пацалунку, а для таварыскага сьціскаsuccessfully ньня („Życie Spółdzielcze“ 1913, № 1 артыкул А. Шкленьніка „Podawanie ręki“).

Нацыянальнае афарбаваньне коопэратыўнай працы адразу падзяліла слабыя коопэратыўныя сілы на нацыянальныя групы. Так, у статуце „Віленскага Таварыства дапамогі коопэрацыі“, які яшчэ дагэтуль ня зьменены, ёсьць артыкул, што дазваляе доступ у Т-ва выключна хрысьціянам, выразна зачыняючы дзьверы для жыдоў.

Фактычна-ж Т-ва сталася асяродкам выключна польскіх дзеячоў, і гэта выклікала адразу рэакцыю: ідэйна-коопэратыўныя сілы літвіноў пачалі групавацца каля Літоўскага Навуковага Таварыства.

Аб дзейнасьці апошняе установы мы ня можам нічога сказаць з прычыны адсутнасьці ў даны момант у нашых руках матэрыялаў. Агулам кажучы, увага Т-ва затрымлівалася выключна на разьвіцьці коопэрацыі сярод этнаграфічна-літоўскіх масаў. Анкета, арганізаваная Т-вам у 1912 годзе, дае багаты матэрыял і малюе абраз моцнага росту літоўскай коопэрацыі (пераважна ў Ковеншчыне).

Наагул, ідэйна-коопэратыўная праца йшла тады вельмі слаба. З гэтага абшару коопэратыўнай дзейнасьці можна яшчэ аднатаваць некалькі публічных лекцыяў аб коопэрацыі гр-на А. Шкленьніка, ды яшчэ ўчасьце коопэрацыі ў выстаўцы дробнага промыслу і народнага мастацтва, якая адбылася ад 1-га верасьня да 1-га кастрычніка

1913 году, і дзе першы раз у краі спажывецкая коопэрацыя Віленшчыны з іншымі відамі коопэрацыі дэманстравала свае слабыя яшчэ сілы.

## 4. Справа краевага саюзу.

Для даваеннай краёвай коопэрацыі вельмі характэрна справа стварэньня саюзу коопэратываў. Гэтая справа можа быць яркім прыкладам, як шкодзіла ў нас нацыяналістычная канкурэнцыя.

Патрэба стварэньня саюзу была пільная, і падставы для яго істнаваньня былі. У 1912 годзе ў шасьцёх даўнейшых губэрнях Беларусі і Літвы істнавала 326 спажывецкіх таварыстваў, якія рабілі разам абаротаў на міліёны рублёў. Адны Вілнешчына, Ковеншчына і Горадзеншчына налічалі каля 200 коопэратываў, і аб'яднаньне іх закупачнай сілы зрабілася канечнай патрэбай.

Пачатковая ініцыятыва выйшла з Дзьвінскага Спажывецкага Т-ва, якое 17 кастрычніка 1911 году склікала першы зьезд у Дзьвінску; з запрошаных 50 коопэратываў зьявіліся прадстаўнікі 19-ці.

Дарога, якой пакіраваўся зьезд, была выбрана адразу няправільная. Заместа таго, каб абаперціся на ўласныя сілы і проста йсьці да стварэньня краёвага саюзу, пастанавілі дамагацца, каб Маскоўскі саюз спажывецкіх таварыстваў (сучасны цэнтрасаюз) адчыніў у Дзьвінску свой аддзел. На жаль, дзеячы Маскоўскага саюзу не адразу разабраліся ў краёвых адносінах, на гэтую прапазыцыю пайшлі і згодзіліся адчыніць аддзел, паставіўшы з свайго боку варункі, каб ня меней 20 таварыстваў увайшлі ў Саюз і зложылі паі на суму ня меней 5.000 руб.

У даным выпадку здарылася тое, што заўсёды здараецца, калі краёвая культурная справа нацыянальна афарбовываецца: працянулася ніць аб'яднаньня паміж дэмакратычнымі расейскімі дзеячамі маскоўскага саюзу, якія можа і запраўды не разьбіраліся ў мясцовых адносінах, і паміж чорнай сотняй „северо-западных деятелей“, якія з зусім яснымі мэтамі прычапіліся да справы саюзу.

Другі зьезд 22—23 лютага 1913 г. ужо склікаецца заходамі гр. Панфіловіча, сябры „союза русскаго народа“. Гэты пан абіраецца і старшынёй зьезду. Цікава, што ні Віленскае Таварыства дапамогі коопэрацыі, якое мае выразна польскі характар, ні Рыжскае — на зьезд не запрашаюцца. На зьезьдзе былі прысутны 97 дэлегатаў ад 58 таварыстваў з даўнейшых губэрняў: Віленскай, Ковенскай, Горадзенскай, Вітэбскай, Курляндзкай і Ліфляндзкай. Быў, як і на першым зьезьдзе, і прадстаўнік ад Маскоўскага Саюзу.

Дзеля таго, што пастанова папярэдняга зьезду ня была выпаўнена, бо толькі некалькі таварыстваў згодзіліся прылучыцца да Маскоўскага Саюзу, зьезд пастанаўляе прыступіць да арганізацыі кра-

ёвай гуртоўні коопэратываў у м. Дзьвінску пад назовам „Злучнасьць“ (Единение), а таксама залажыць Таварыства дапамогі коопэрацыі, якое працавала бы на ўвесь район, прадстаўлены на зьездзе.

Ясна, што закладзіны Саюзу ў Дзьвінску, а не ў адпавядней-шым эканамічным цэнтры, якім для Беларусі і Літвы зьяўляецца Вільня, для Прыбалтыкі-ж—Рыга, і залажэньне новага Таварыства дапамогі коопэрацыі ў павятовым месьце, тады, як у двух цэнтрах ужо істнавалі такія т-вы,—усё гэта ня можа быць растлумачана нічым іншым, як жаданьнем манапалізаваць коопэрацыю для сфэраў бліжэй-шых да п.п. Панфіловічаў і „союза русскаго народа“. Так, з першых жа крокаў заместа аб'яднаньня краёвых сілаў пачалі з разлучэньня і захапленьня коопэрацыі праз выразна палітычна-нацыянальныя кірункі. Ясна, што так пастаўленая справа не магла разьвівацца і даць добрыя вынікі. Дзьвінскай ініцыятыве стварэньня саюзу так і ня прыйшлося, здаецца, зьдзейсьніцца.

Але жыцьцё канечна вымагала стварэньня саюзу, і ініцыятыву гэтага зноў падняло Віленскае Таварыства дапамогі коопэрацыі, якое на сваім гадавым паседжаньні 29-га красавіка 1913 году пастанавіла ўвосень таго-ж году склікаць зьезд для абгаварэньня справы саюзу. Але тут загарадзіла дарогу расейская адміністрацыя, якая ў асобе віленскага губэрнатара не дала дазваленьня на зьезд'дзеля таго, што „ня бачыць для яго досьць аснаваньняў“.

Ідэя саюзу коопэратываў зьдзейсьнілася толькі пасьля пачатку вайны, калі коопэрацыя станавілася ўсё болей і болей паважным зьявішчам народнай гаспадаркі. У сьнежні 1914 году было залегалізавана таварыства гуртовых закупак пад назовам „Наш Склад“ у Вільні. Аб дзейнасьці яго даных вельмі мала.

Тут пачынаецца новая страніца гісторыі краёвай коопэрацыі, калі Віленшчына аказалася падзеленай фронтам на дзьве часткі: для заходняй — час нямецкай акупацыі, для ўсходняй—расейскай рэвалюцыі *).

*Ігнат Канчэўскі.*

*) Гэты нарыс — першая частка шырэйшае працы, задуманае перадчасна памершым аўтарам, выдатным коопэратыўным дзеячом. Сьмерць перашкодзіла Ігнату Канчэўскаму давясьці, як плянаваў, свае нарысы да нашых дзён. *(Рэд.)*.

# МАТЭРЫЯЛЫ

## І-га зьезду пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў Заходняе Беларусі 11—14 красавіка 1923 году.

Яшчэ ў пачатку 1922 году, у якім ужо было ў Заходняй Беларусі пяць беларускіх гімназіяў, адчувалася неабходная патрэба, каб зьехаліся працаўнікі гэтых пяцёх гімназіяў, азнаёмілі-б адзін аднаго з зробленай працай і абгаварылі-б на будучыню адзіную праграму далейшае дзейнасьці.

Зрэалізаваць гэтую думку выпала на долю агульнаму сходу Таварыства Беларускае Школы, адбыўшамуся 29-га студня 1923 г., які аднагалосна прыняў пастанову аб скліканьні ў часе вялікодных канікулаў 1923 г. першага зьезду пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў Заходняй Беларусі.

На бліжэйшым паседжаньні Цантр. Беларускае Школьнае Рады была абрана арганізацыйная камісія па скліканьню зьезду у складзе дырэктара віленск. белар. гімназіі Антона Трэпкі і сэкрэтара тэй-жа гімназіі Міколы Красінскага.

Гэтыя дзьве асобы выдатна добра справіліся з узложаным на іх заданьнем, вынясшы на сваіх плячох усю працу перад зьездам і на самым зьезьдзе.

Згодне з апрацаваным арганіз. камісіяй парадкам зьезду і яго праграмай, у склад зьезду павінны былі ўвайсьці 58 асоб (гл. наказ) з правам рашаючага голасу.

Праца зьезду была падзелена такім чынам: 1) даклады з мейсц, 2) арганізацыйныя пытаньні, 3) пэдагагічныя і ўзгадаваўчыя справы, 4) прыкладныя лекцыі для пэдагогаў з правінцыі, якія далі пэдагогі віленскае гімназіі, 5) агляд беларуск. музэю і г. д.

На зьезд прыбылі прадстаўнікі ад усіх запрошаных арганізацыяў (апрача Дзьвінчукоў). Усяго з правам рашаючага голасу былі 44 чалавекі, з якога ліку 28 прыйшлося на Вільню, а 16—на правінцыю.

Зьезд адкрыўся ў 12 гадз. у дзень 11 красавіка 1923 г. ў залі Белар. Драмат. Майстроўні (Вострабрамская, 9) уступным словам сябры цантр. белар. школьн. рады пасла М. Кахановіча.

У прэзыдыум зьезду, згодна з наказам, былі абраны: Ант. Луцкевіч (старшыня), Іван Цэханоўскі (Навагрудак) і Язэп Шнаркевіч (Нясьвіж) і ўвайшлі сябры арганіз. камісіі. Сэкрэтарамі былі абраны Генадзі Багдановіч і Іван Савіцкі (Вільня).

На першым пленарным паседжаньні зьезду былі, між іншымі, прысутнымі: куратар віленск. школьн. вокруга п. Гонсёроўскі, начальнік аддзелу сярэдніх школаў п. Сьвідэрскі і візытатар п. Брона.

Даклады з мейсц далі яскравы абраз таго, у якіх цяжкіх варунках прыходзіцца працаваць беларускаму пэдагогу на правінцыі.

Між іншым, высьвятліліся такія кур'ёзы, як забарона выкладаньня геаграфіі Беларусі ў Нясьвіскай гімназіі, ці вымаганьне Вялейскага староства, каб прадстаўлялі для дазволу беларускія п'есы ў перакладзе на польскую мову.

На першым пленарным паседжаньні былі створаны тры сэкцыі: 1) *арганізацыйная* (структура гімназіяў і фінансы) з старшынёй Дырэктарам Віл. Белар. Гімназіі А. Трэпкай; 2) *гуманістычная* (гуманістыка і мовы)—старшыня Дырэктар Радашкоўскае Беларускае Гімназіі А. Вярнікоўскі; 3) *матэматычная*—старшыня вуч. Навагрудзкае Беларуск. Гімназіі А. Данілевіч.

Праца зьезду і камісіяў адбывалася ў прысутнасьці прадстаўнікоў школьнага округу і дэлегатуры ўраду. У аснову працы быў пакладзены наказ, які, таксама, як і рэзалюцыі зьезду, тутака друкуем.

Учасьнікам зьезду быў зладжаны праз Драматычную Майстроўню спэктакль, а ініцыятарамі зьезду—вячэра ў памяшканьні Белар. Грамадз. Сабраньня.

---

# НАКАЗ

## І-му зьезду пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў у Вільні 11—14 красавіка 1923 году.

§ 1. Склікаханы Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радай І-шы зьезд пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў складаецца з 58 сяброў з рашучым правам голасу, у тым ліку: ад Цэнтральнае Беларускае Школьнае Рады—12 прадстаўнікоў, ад Радашкоўскае школьнае рады —1 прад., ад Віленскае беларускае гімназіі—22 прад., ад Гарадокскай беларускай гімназіі—4 прад., ад Дзьвінскае беларускае гімназіі—2 прад., ад Навагрудзкае беларускае гімназіі—5 прад., ад Нясьвіскае бела-

рускае гімназіі—5 прад., ад Радашкоўскае беларускае гімназіі—4 прад., ад Віленск. правасл. дух. сэмінарыі—2 прад.

§ 2. З дарадчым правам голасу ў зьездзе прымаюць удзел: 1) прысутныя ў Вільні паслы ў Сойм і сэнатары, 2) Кураторыум Віленскага школьн. вокругу (4 прадстаўнікі), 3) прадстаўнік дэлегата ўраду, 4) вучыцялі Віленскіх беларуск. пачатк. школаў (6 прадст.), 5) надзорчая рада т-ва белар. школы (1 прадст.), 6) Віленская правасл. дух. консісторыя (3 прадст.), 7) Віленскі саюз коопэратываў (2 прадст.), 8) Беларускае грамадзянскае сабраньне (2 прадст.), 9) Бацькаўскі К-т пры Віленск. беларуск. гімназіі (4 прадст.) 10) гурток беларускіх кабет (2 прадст.), 11) саюз беларускіх студэнтаў (2 прадст.), 12) п. Францішак Аляхновіч, 13) прадстаўнік беларуск. газэты „Новае Жыцьце", 14) пэдагогі Віленск. правасл. духоўнае сэмінарыі.

§ 3. Права карыстацца на зьезьдзе рашучым ці дарадчым голасам сьцьвярджае арганізацыйная камісія.

УВАГА: Магчымыя непаразуменьні ў гэтай справе вырашае прэзыдыум зьезду.

§ 4. Сябры зьезду, як з рашучым, так і з дарадчым правам голасу прымаюць удзел у працах зьезду і маючых стварыцца сэкцыях на аднолькавых асновах, у галасаваньнях-жа — толькі сябры з рашучым правам голасу.

§ 5. Працамі зьезду кіруе прэзыдыум, які складаецца з 5-х асобаў: прадстаўніка цэнтральнае школьнае рады, 2-х прадстаўнікоў з мейсц і арганізацыйнае камісіі. Такім чынам зьезд абірае 3-х сяброў прэзыдыуму, аднаго з іх вызначае старшынёй зьезду.

УВАГА: 2 сэкрэтары зьезду абіраюцца з сяброў зьезду.

§ 6. Усе даклады робяцца спачатку ў пленуме, пасьля чаго, без адчыненьня спрэчак, тэзы дакладаў перадаюцца для дэтальнай апрацоўкі ў адпаведныя сэкцыі, якія павінны потым прадставіць пленуму дэтальны даклад і праект аканчальных рэзалюцыяў.

§ 7. З гэтае прычыны зьезд стварае 4 сэкцыі: а) арганізацыйную, б) гуманістычную, в) матэматычную і г) узгадаваўчую.

УВАГА: Падзел працы паміж сэкцыямі робіць прэзыдыум.

§ 8. Сябры зьезду, як з рашучым, так і з дарадчым правам голасу запісываюцца ў сэкцыі па свайму жаданьню.

§ 9. Працай сэкцыяў кіруюць абіраныя зьездам старшыні.

УВАГА: Пры патрэбе сэкцыя сама вызначае заступніка старшыні і сэкрэтара.

§ 10. Дакладчыкі карыстаюцца часам пры прамовах бяз ніякіх аграніченьняў; час для звычайных прамоўцаў зьезд можа абмежаваць тэрмінам, калі прызнае гэта патрэбным дзеля тых або іншых прычынаў.

§ 11. Кожны сябра зьезду можа браць голас па разгляданаму пытаньню ня болей двух (2) разоў.

§ 12. Апошняе слова перад галасаваньнем даецца дакладчыку.

§ 13. Па матывах галасаваньня (у прыпадках, калі ўносіцца папраўка ці прапазіцыя, маючая сувязь з тэзамі дакладу) даецца толькі два галасы: „за“ і „процiў“.

§ 14. Мэтады галасаваньня вырашаюцца пленумам ці адпаведнай сэкцыяй, але таёмнае ці паіменнае галасаваньне прымаецца пры заяве нават аднаго сябры зьезду.

§ 15. Усе прапазіцыі, якія ўносяцца для галасаваньня, апрача іх агалошаньня, павінны падавацца напісанымі ў прэзыдыум.

§ 16. Па сканчэньні працы зьезду, прэзыдыум яго мае абавязак паклапаціцца аб апрацоўцы і выданьні пастановаў і матэр'ялаў зьезду.

---

# А. Рэзалюцыі арганізацыйнага зьместу.

## I. Арганізацыя беларускае сярэдняе школы.

*Аб тыпе беларускае сярэдняе школы* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Мік. Красінскага).

Зьезд прызнае: 1) пры сучаснай ступені разьвіцьця беларускае грамадзкае сьвядомасьці і культуры, мэта беларускае школы — выхоўваць беларускага інтэлігента, шырока азнаёміўшы яго з беларускай і сусьветнай культурай і узмацаваўшы ў ім нацыянальную сьвядомасьць.

2. З істнуючых у Польшчы гімназій найбольш адпаведным для гэтае мэты зьяўляецца тып гуманістычнае гімназіі, бо хутчэй адчуваецца ў беларусаў патрэба ў такіх практычна спэцыяльных школах, як эканамічная і духоўная школа, чымся тып чыста матэматычна-прыродазнаўчы, нэогуманістычны, а тым болей чым клясычны тып.

3. Прымаючы пад увагу, што ў гімназіі з беларускай мовай выкладаньня для дзяцей беларусаў асноўныя мамэнты веды з сусьветнай культуры выкладаюцца на беларускай мове, патрэбна адпаведная зьмена у навуковым пляне гуманістычнага тыпу польскае гімназіі у сэньсе паменшаньня вымаганьня па пляну ліку лекцыяў польскае мовы, каб даць мейсца беларусазнаўству.

*Аб унутранай арганізацыі сярэдніх школаў* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Ант. Луцкевіча).

Зьезд зацьвярджае вось які парадак у справе атрыманьня канцэсіяў на гімназіі і прымае ніжэй зложаную канстытуцыю унутранага жыцьця гімназіяў:

§ 1. Таварыства беларускае школы у асобе свайго выканаўчага органу (белар. цантр. школьнае рады) клапоціцца і атрымлівае на сваё імя канцэсіі на беларускія гімназіі і падае ўладзе на зацьверджаньне кандыдатаў на дырэктароў.

УВАГА: Кандыдатуры дырэктароў перад падачай іх уладзе абгаварываюцца з мясцовай школьнай радай, а пры адсутнасьці такой—з мясцовымі беларускімі сіламі.

§ 2. Становішча сэкрэтара гімназіі замяшчаецца кандыдатам, якога выбірае з ліку пэдагогаў гімназіі Пэдагагічная Рада.

§ 3. Кандыдаты на дырэктароў і сэкрэтароў гімназіі, апрача вымаганых агульных кваліфікацыяў, павінны даволі добра ўладаць беларускай мовай і быць знаёмымі з асноўнымі элемэнтамі беларускае культуры.

§ 4. Дырэктар укладае на кожны школьны год навуковы плян і прадстаўляе на апробату мясцовае Школьнае Рады склад пэдагогаў, абраных Пэдагагічнай Радай гімназіі.

§ 5. Звальненьне пэдагогаў належыць да мясцовае Школьнае Рады. Усялякія непаразуменьні на гэтым груньце аканчальна разьвязывае Бел. Цантр. Школьн. Рада.

§ 6. Дырэктар гімназіі зьяўляецца адказным перад Т-вам Белар. Школы і ўладай за ўсю працу гімназіі і яе кірунак, асабліва-ж за выпаўненьне навуковага пляну і пэдагагічныя справы наагул, і нясе абавязкі старшыні Пэд. Рады і Прэзыд. гімназіі.

§ 7. Сэкрэтар гімназіі кіруе усей гаспадаркай гімназіі, нясе абавязкі старшыні Гаспадарчае Рады, складае праект фінансавага бюджэту, спаўняе узгадаваўчыя абавязкі, як інспэктар гімназіі, і у прыпадку адсутнасьці ці хваробы дырэктара заступае апошняга.

§ 8. Пэдагагічная Рада разглядае ўсе пытаньні пэдагагічнага і ўзгадаваўчага характару, і пастановы яе ў гэтых галінах жыцьця гімназіі зьяўляюцца аканчальнымі. Аднак, Дырэкцыі гімназіі, калі яна лічыць прынятую Пэд. Радай пастанову некарыснай для справы, прыналежыць права падаваць свае votum separatum у Школьную Раду, якая або пацьвярджае пастанову, або прапануе Пэдагагіч. Радзе пераглядзець яе.

Пытаньні фінансавага характару разглядаюцца мясцовай Школьнай Радай.

§ 9. Гаспадарчая Рада ёсьць орган, які складаецца з Дырэкцыі і прадстаўнікоў Пэд. Рады і Бацькаўскага Камітэту і які апрацовывае фінансавы і гаспадарчы плян гімназіі, а так сама выпаўняе кантрольныя функцыі адносна да гаспадаркі гімназіі.

§ 10. Прэзыдыум гімназіі складаецца з Дырэктара і Сэкрэтара і разглядае пытаньні, ня маючыя прынцыповага характару, па дакладу Дырэкцыі.

## II. Аб'яднаньне беларускіх сярэдніх школ і іх працаунікоу у межах Заходняе Беларусі.

*Аб аб'яднаньні беларускіх сярэдніх школау* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Ант. Луцкевіча).

Констатуючы: што,

тварэньне істнуючых цяпер беларускіх сярэдніх школаў адбывалася з ініцыятывы прыватных асобаў і групаў грамадзянства, не карыстаўшыхся у вачах школьнае ўлады патрэбным аўторытэтам,

што дзеля гэтае прычыны адчыняньне гэтых школаў сустракала вялізарныя перашкоды з розных бакоў,

што дзеля тэй-жа прычыны сетка бел. сяр. школ тварылася без ніякага пляну,

што у ўнутраным сваім жыцьці і арганізацыі гэтыя школы вельмі розьняцца між сабой як з боку пэдагагічна-узгадаваўчага, так і гаспадарчага, і што такая абасобленасьць вельмі шкодна адбіваецца на разьвіцьці бел. сяр. школ, становячы для іх грозную небясьпеку,—

зьезд прызнае патрэбным, каб усе бел. сяр. школы перайшлі у рукі Таварыства Беларускае Школы, якое зьявіцца гэтак гаспадаром сказаных школаў у межах Польскае Рэспублікі.

Дзеля гэтага ў першую чаргу павінны аб'яднацца ужо істнуючыя мясцовыя школьныя таварыствы, стварыўшы адзіную стройную схэму беларускага школьнага будаўніцтва на аснове захаваньня аўтаномнасьці ў унутраным жыцьці і фінансах кожнае з аб'яднаных арганізацыяў.

У мясцох, дзе канцэсіянерамі зьяўляюцца прыватныя асобы, павінны быць утвораны адпаведныя грамадзкія арганізацыі, якія бы ўзялі кіраўніцтва мясцовымі бел. сяр. школамі у свае рукі і увайшлі бы ў склад Т-ва Бел. Школы, як аўтаномныя адзінкі.

Дзеля вядзеньня ўсіх спраў беларускіх сярэдніх школ у выканаўчым органе Т-ва—Беларускай Цантральнай Школьнай Радзе—павінна быць выдзелена сэкцыя беларускае сярэдняе школы з участьцем у ёй прадстаўнікоў ад усіх аб'яднаных гімназій у роўнай лічбе ад кожнай.

Белар. Цантр. Школьная Рада павінна ўзяць на сябе заступніцтва перад школьнымі і іншымі ўладамі за ўсе аб'яднаныя беларускія сярэднія школы, атрыманьне канцэсій, зацьверджаньне ўладай дырэктароў, агульнае кіраўніцтва і кантроль над унутраным жыцьцём школаў з навукова-узгадаваўчага боку, правядзеньне поўнага зьбеларушчаньня там, дзе яно дагэтуль не закончана, і пляновае адкрываньне новых сярэдніх школаў, дзе яны патрэбны.

Кожная беларуская сярэдняя школа павінна што году даваць Беларускай Цэнтральнай Школьнай Радзе поўную справаздачу з пэдагагічнага боку.

*Аб выданьні пэрыядычнае часопісі па пытаньньнях беларускае школы і пэдагогікі* (па дакладу вуч. Навагр. Бел. гімн. Ів. Цэханоўскага).

Дзеля здаваленьня патрэб настаўніцтва белар. школы ў навуковым сэньсе і разьвіцьця пэдагагічнай думкі, зьезд лічыць неабходна патрэбным заснаваньне часопісі-квартальніка, або прынамся альманаха, выходзячага адзін-два разы на год, характару літэратурна-навуковага, з шырока-пастаўленым аддзелам пэдагагічным.

*Аб арганізацыі курсаў для пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў* (па дакладу вуч. Радашк. Белар. гімн. Яз. Гаўрыліка).

Сьцьвярджаючы тое, што вучыцялёў для істнуючых ужо беларускіх школаў далёка не хапае, а маючыяся вучыцялі ня ўсе адпавядаюць вымаганьням беларускае школы, зьезд горача зьвяртаецца да вышэйшай Школьнай Улады аб ініцыятыве адчыніць на ўрадовы кошт у летні час беларускія курсы для вучыцялёў беларускіх сярэдніх школаў.

*Аб аб'яднаньні формы дзелаводзтва беларускіх сярэдніх школаў* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Мік. Красінскага).

Заслухаўшы даклад гр. М. Красінскага аб арганізацыі унутранае працы сяр. школы і аб зьвязку школаў паміж сабой, і маючы на увазе, што ў справе апрацоўкі тэрміналёгіі дзелаводзтва найбольш эроблена у Віл. бел. гімн., як знаходзячайся ў цэнтры беларуск. культурн. руху, зьезд пастанаўляе:

1. дзеля увядзеньня у белар. гімн. аднальковае формы дзелаводзтва лічыць карысным, каб Віл. белар. гімназія пашырыла ўзоры форм дзелаводзтва паміж рэшты белар. гімназіяў.

2. Дзеля фінансавае эканоміі даручыць дырэкцыі Віл. бел. гімн. арганізаваць супольную для ўсіх істнуючых гімназіяў загатоўку, на наступны 1923—24 шк. год, неабходных блянкаў дзелаводзтва (клясовыя журналы, ведамасьці аб пасьпяваньні, легітымацыі і г. п.).

## III. Беларуская пачаткавая школа.

*Аб беларускай пачаткавай школе* (па дакладу вучыц. Віл. Бел. гімн. М. Гарэцкага і Навагр. Бел. гімн. Ів. Цэханоўскага).

Зьезд, знаходзячы, што нармальнае жыцьцё і разьвіцьцё беларускіх сярэдніх школ магчыма толькі тады, калі будзе шырока і до-

бра пастаўлена справа беларускіх пачаткавых школ,—зварачаецца да дзяржаўнае ўлады, каб яна палажыла канец усім тым ненармальным варункам, якія забіваюць беларускую пачаткавую школу ў межах Польскае Рэспублікі, і заклікае Беларускую Цантральную Школьную Раду, а такжа адпаведныя культурныя установы бяз розьніцы нацыянальнасьці, каб учынілі ўсё магчымае дзеля наладжаньня ўжо ў наступным школьным годзе правільнае сеці белар. пачаткавых школ.

*Аб сувязі паміж сярэдняй і пачаткавай школай* (па дакладу вуч. Віл. белар. пачатк. школы Сянкевіча).

Зьезд прызнае адпаведным:

1. Прымаць вучняў, скончыўшых тры аддзелы пачаткавае школы, у першую клясу гімназіі, а чатыры—у другую.
2. Праводзіць больш цесную сувязь паміж вучнямі пачаткавых і сярэдніх школ, карыстаючыся для гэтай мэты агульнымі вечарынамі.
3. У справах школьных рабіць супольныя паседжаньні вучыцялёў сярэдніх і пачаткавых школ.
4. Каб усюды, дзе істнуюць беларускія гімназіі, адкрываліся пры іх беларускія пачаткавыя школы.

### IV. Духоуныя школы.

*Аб паступовым зьбеларушчаньні духоуных сэмінарыяу* (па дакладу вуч. Віл. Прав. Дух. Сэмінарыі Макс. Гарэцкага).

Выслухаўшы даклад сябры зьезду грам. Гарэцкага аб пастаноўцы выкладаньня беларускіх прадметаў у праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Вільні і прымаючы пад увагу як склад вучняў сэмінарыі, так і ўсе рэальныя магчымасьці, зьезд заклікае кіраўнічую духоўную ўладу неадкладна прыступіць да паступовага зьбеларушчаньня сэмінарыі, пачынаючы ад малодшых клясаў, і ў першую чаргу з прадметаў агульнага узгадаваньня.

Зьезд спадзяецца, што прав. дух. сэмінарыя прыме чыннае учасьце ў беларускай культурна-прасьветнай працы.

Зьезд лічыць патрэбным зьвярнуцца так сама і да каталіцкага духавенства аб увядзеньні беларусазнаўства ў кат. дух. сэмінарыі у Вільні.

## Б. Рэзалюцыі пэдагагічнага зьместу.

### I. Агульныя пытаньні.

*Аб узгадаваньні вучняу* (па дакладу дыр. Віл. Белар. гімн. Ант. Трэпкі).

Зьезд прымае па дакладу гр. Ант. Трэпкі: „аб узгадаваньні вучняў“ вось якія тэзы:

I. Павядзеньне вучняў:

1) Праступкам вучня лічыцца неспаўненьне ім абавязкаў адносна да гімназіі: пропуск бяз уважнай прычыны лекцыяў, спазьненьні, уцёкі з лекцыяў, мана вучцялём і г. п., а галоўным чынам учынкі вучняў, якія зьмяшчаюць злую волю, незалежна ад таго, да каго учынкі адносяцца.

2) Як узгадаваўчы мэтад, фізычныя кары ў гімназіі істнаваць ня могуць. Выдаленьне у зусім выключным прыпадку з лекцыяў, калі вучыцель ня можа супакоіць вучня, павінна быць матывавана спакойна тым, што ён перашкаджае клясе. Аб факце выключеньня трэба дакладаць Пэдагагіч. Радзе.

3) Чарга спосабаў уплыву на дрэнна вядучага сябе вучня складаецпа вось як: выяўленьне неадпаведнасьці яго паступку праз а) вучыцеля, б) класовага кіраўніка, в) інспэктара, г) дырэтара, д) прэзыдыум з магчымым паменшаньнем балу, е) праз Пэдагагічную Раду ж) папярэджаньне аб звальненьні і з) звальненьне ў выключным выпадку, калі запраўды нельга паправіць вучня, і ён мае дрэнны ўплыў на клясу і гімназію.

II. Увага вучняў залежыць галоўным чынам ад самога вучыцеля, ад таго, ў якой меры ён умее заінтэрэсаваць усю клясу і прымусіць яе адносіцца уважна да працы. Яго абавязкам ёсьць зьвяртаць увагу на менш уважных вучняў.

III. Адносіны вучыцеля да вучняў:

1) Вучыцель ёсьць у першай чарзе узгадавальнік, дзеля чаго ён ня мае права прайсьці міма неадпаведнага паступку вучня, не зарэагаваўшы на яго.

2) Вычыцель павінен трымаць сябе роўна, непаддаючыся гневу. Абурэньне яго, часам патрэбнае, павінна быць у меру, не захопліваючы яго. Ен павінен быць у найвышэйшай ступені справядлівым, прыхільным, дабражадаючым адносна да ўсіх вучняў бяз вынятку. Выключыць насьмешкі над вучнямі. Вучыцель павінен быць у меру вясёлым, каб вучні ня чулі прыбітасьці у яго прысутнасьці. Ен не павінен быць бязьмерна вялікім, каб вучні чулі у ім свайго прыяцеля, а ня мэнтара. Вучыцель павінен асьцерагацца сьмешнасьці, бо няма нічога больш небясьпечнага для яго аўторытэту. Аўторытэт павінен быць вынікам яго павядзеньня, а не чымсьці штучным.

3. Зьвяртацца у малодшых клясах пажадана на „ты“, у старшых—залежна ад адносін на „ты“ або „вы“.

4) Вучыцель ня можа быць залежным ад вучня, асабліва у матэрыяльных адносінах. Таму, калі-б здарылася, што вучыцель падгатаўляў вучня да экзамену, ён ня можа адзін экзаменаваць яго, а яшчэ лепш, каб экзаменаваў яго іншы вучыцель.

*Аб агульных мэтадах выкладаньня у сярэдняй школе *)* (па дакладу вуч. Віл. Бел. гімн. Ант. Луцкевіча).

Зьезд прымае па дакладу гр. Ант. Луцкевіча аб агульных мэтадах выкладаньня вось якія тэзы:

Задача школьнага навучаньня: ня толькі даць вядомую колькасьць веды, але і агульнае разьвіцьцё. Школа павінна навучыць вучняў самастойна думаць і сьвядома карыстацца здабытай ведай.

Вучыцель павінен ня толькі выкладаць свой прадмет, але і навучыць вучняў.

Цэнтр цяжару навучаньня павінен быць у клясе на лекцыях. Нельга задаваць да хаты новага матэрыялу, не перарабіўшы яго з вучнямі у клясе.

Выкладаючы новы матэрыял, трэба яго зьвязываць як з пройдзеным ужо па гэтаму прадмету, тат і па магчымасьці з другімі блізкімі прадметамі.

Ацэнку веды і разьвіцьця вучняў трэба рабіць не на аснове экзаменацыйнае сыстэмы, а часта пытаючыся адказу на паадзінокія пытаньні.

Каб у часе выклікаеньня вучняў працавала ўся кляса, а не адзін пытаны, трэба перш ставіць пытаньне, а пасьля выклікаць вучня.

Ацэніваецца ня тое, чаго вучань ня ведае, а тое, што ён ведае Трэба цьвёрда вымагаць веданьня істоты рэчы, а не драбніц і няважных дэталяў.

Віна за непасьпяваньне вучня ляжыць ня толькі на ім, але і на вучыцелю. Самакрытыка вучыцеля — асноўны варунак правільнае ацэнкі працы вучняў.

## II. Паасобныя навукі.

*Аб выкладаньні гуманістыкі і аб мейсцу у ей беларусазнаўства* (па дакладу вучыц. Віл. Белар. гімн. Ант. Луцкевіча і Макс. Гарэцкага)

Тэзы дакладу аб выкладаньні гуманістыкі і аб месцы у ёй беларусазнаўства:

Задача гуманістыкі—далучэньне вучняў да сусьветнае культуры.

Знаёмства з агульна-людзкай культурай павінна адбывацца праз знаёмства з культурнай творчасьцяй і гісторыяй свайго народу, якая становіць цэнтр шырокага концэнтру.

З творамі сусьветнае літэратуры трэба знаёміцца па магчымасьці у арыгіналах. Калі гэта немагчыма—дык у беларускіх перакладах, якія павінны быць чым хутчэй надрукаваны.

*) Падробна разьвіты гэтыя тэзы у кніжцы Ант. Луцкевіча: Як вучыць у новай школе. Вільня, 1923 г.

Тэзы гуманістычнае сэкцыі:

1) У гімназіях пераходнага тыпу належыць зараз жа пачаць выкладаньне у ва ўсіх клясах беларускае мовы, геаграфіі і гісторыі Беларусі, рэлігіі па беларуску і вядзеньне пяяньня і рысаваньня ў беларускім духу.

2. Пры выкладаньні другіх прадметаў, больш зьвязаных з жыцьцём нашага народу, устанаўляць самую цесную сувязь з роднай культурай і народнай тэрміналёгіяй.

3. Пры пачатку праходжаньня гісторыі беларускае літэратуры на творы, якія могуць больш зацікавіць вучняў, належа зьвярнуць асаблівую увагу, разглядаючы іх у першую чаргу, хацяб і не на карысьць сыстэматычнасьці.

4. Пры сыстэматычным праходжаньні гісторыі беларускае літэратуры асабліва ўважна разглядаць народную славесную творчасьць, прапануючы вучням зьбіраць, запісваць творы народнае славесьнасьці.

5. У школах пераходнага тыпу, выкладаючы расейскую літэратуру, затрымліванца толькі на характэрнейшых расейскіх творах і выкарыстаць гэты прадмет дзеля азнаямленьня з сусьветнаю літэратурай і ростам агульначалавечае культуры.

6. Зьвярнуцца да мясцовых беларускіх літэратурна-культурных сілаў з просьбай каб:

а) выдавалася часопіс для дзяцей,

б) была створана беларуская дзіцячая літэратура,

с) быў уложаны сыстэматычны сьпіс кнігаў роднай і чужых літэратураў, якія павінен прачытаць кожны сярэдня адукаваны грамадзянін.

*Аб выкладаньні моваў* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Мік. Красінскага).

Зьезд прызнае найбольш адпаведным ужываць пры выкладаньні моваў такія мэтады:

1. Пры выкладаньні лацінскае мовы—сыстэму перакладаў арыгінальных твораў, а пры выкладаньні новае замежнае мовы—мяшаны мэтад (у малодшых клясах — натуральны, а ў старэйшых — сыстэма перакладаў).

2. Мэта выкладаньня лацінскае мовы — падгатаваць вучняў настолькі, каб яны маглі весьці самастойную працу з творамі сярэднявечнае лаціны.

3. Вучыцель новае замежнае мовы павінен мець на мэці тое, каб вучні маглі па скончэньні гімназіі карыстацца без перашкод навуковымі дапамогамі ў гэтай мове.

*Аб выкладаньні геаграфіі* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Ген. Багдановіча),

Зьезд, заслухаўшы даклад аб выкладаньні геаграфіі, пастанаўляе:

1. Асобная увага ў сярэдніх беларускіх школах павінна быць зьвернена на выкладаньне геаграфіі бацькаўшчыны з асаблівай увагай на аканамічны бок жыцьця.

2. Геаграфія Беларусі павінна істнаваць, як асобны сыстэматычны курс.

3. Пры выкладаньні геаграфіі павінны ўжывацца мэтады нагляднымя з дадаткам экскурсіяў з мэтай бліжэйшага дэтальнага знаёмства з мейсцам, дзе знаходзіцца школа.

4. На выкладаньне геаграфіі ў сярэдняй школе павінна быць адведзена ня менш, як 12 гадзін у тыдзень.

*Аб выкладаньні прыродазнаўства* (па дакладу вуч. Віл. Бел. гімн. Ів. Катовіча).

У I, II і III клясе прырода выкладаецца ў цэлым, без падзелаў яе на асобныя дысцыпліны. Фізыалёгія расьлін і параўнаньне.

IV кл.: Курс ніжэйшых расьлін і фізыалёгія.

V кл.: Сыстэматычны і параўнаўчы курс аб жывёлах, анатомія, фізыалёгія чалавека і пачаткі біалёгіі.

Пры выкладаньні прыродазнаўства галоўным чынам зьвяртаецца увага на краёвыя расьліны і жывёлы з спасьцярогамі і дасьледамі, і дапаўняецца экскурсіямі ў сад, гарод, на сажалку, сенажаць і г. д.

Прапануецца цантральнай школьнай радзе прыняцьце рашучых крокаў дзеля утварэньня ў Вільні майстроўні прыладаў па прыродазнаўству і фізыцы.

*Аб выкладаньні матэматыкі* (па дакладу вуч. Віл. Белар. гімн. Ант. Трэпкі).

Выкладаньне матэматыкі вядзецца концэнтрамі; 1-шы концэнтр— 3 першыя клясы, абымае практычны бок матэматыкі, г. зн. ужытак матэматыкі ў жыцьці; 2-гі концэнтр вядзе праз аналіз матэматычных навукаў да сынтэзу ўсей матэматыкі. 1-шы концэнтр па арытмэтыцы дае свабоднае ўладаньне рацыянальнай лічбай і карыстаньне рэзультатамі памераў: аблічэньне плошчы і абыйма ўсіх целаў да кулі ўключна. У I концэнтры усе матэматычныя навукі выкладаюцца, як адзіны прадмет. У II концэнтры павінна быць праведзена точная сувязь паміж графічнымі і альгэбрычнымі мэтадамі.

Ад IV клясы пачынаецца знаёмства з вэктарам, праэкцыяй, координатамі і галоўным чынам з функцыяй, што разьвіваецца ўсё шырэй, і ў VI клясе праходзіцца блізка сыстэматычны курс простакутняй праэкцыі, а ў VII клясе косакутняй праэкцыі

У VIII клясе аналіз раўнаваньняў пастаўлены у ва ўсю шыр і апрача таго аналітычная геамэтрыя. Трыгономэтрыя пачынаецца ў VI клясе знаёмствам з залежнасьцю паміж элемэнтамі простакутняга трыкутніка. Знаёмства з кругавымі функцыямі і закончаньне трыгономэтрыі даецца ў VII кл. Усе тэорэтычныя разважаньні павінны быць замацаваны рашэньнем адпаведнае лічбы заданьняў.

*Аб выкладаньні фізыкі* (па дакладу вучыц. Віл. Белар. гімн. Ант. Трэпкі).

У II і III кл. навука аб рэчах абымае апісацельную фізыку ў найгалаўнейшых яе зьявішчах і законах.

Ад VI клясы пачынаецца сыстэматычны курс фізыкі, які будуецца на пачатках мэханікі.

Усе законы гэтага курсу абавязкова вызначаюцца матэматычнымі формуламі.

Выкладаньне фізыкі павінна даць агульны і суцэльны пагляд на будову матэрыі; яно не павінна вясьціся без фізычных прыладаў і практычных работ вучняў.

## III. Мастацтва і фізычнае разьвіцьце.

*Аб выкладаньні мастацкіх навукау (пяяньня і рысаваньня)* (па дакладу мастацкае сэкцыі — грам. Ант. Грыневіча, Стэповіча і Южыка.

Зьезд, заслухаўшы даклад мастацкай сэкцыі, пастанаўляе:

1. Пажадана не зьмяншаць ліку лекцыяў па мастацкім навукам, скромна вызначаных у сярэдніх школах праграмамі.

2. Назначаць лектароў да выкладаньня мастацкіх прадметаў са спэцыяльнай падгатоўкай, зварочываючы іх увагу на асабліва выключна вялікае значэньне добрага выкладаньня гэтых навукаў.

3. Не зьмяншаць значэньня мастацкіх навук (сьпеву, рысаваньня і інш.) у вачох вучняў, а, наадварот, зьвялічываць.

4. Лічыць пажаданым, каб лектары сьпеву стараліся падгатаваць у старшых клясах тэорэтычна і практычна вучняў у знаньні музыкі, каб яны маглі ня толькі чытаць ноты голасам, але і запісываць ноты знаёмых песьняў разам з тэкстамі.

5. Засновываць пры школе музыкальныя гурткі і абавязкова ладзіць школьныя канцэрты ў ліку магчыма большым.

6. Лічыць сярэдн. школу цэнтрам, дзе як настаўнікі, так і вучні зьбіралі-б рэчы народнай творчасьці, каб лепшыя вучнёўскія работы і творы былі перахаваны, а ў некаторых выпадках нават зданы ў нацыянальны музэй.

7. Пажадана мець у патрэбным ліку адпаведныя падручнікі і навуковыя прылады па мастацтву.

8. Дзе магчыма, выкладаць навуку ручной працы.

*Аб фізычным узгадаваньні вучняу* (па дакладу вуч. Віл. Бел. гімн. Вацл. Зянкевіча).

Зьезд, заслухаўшы даклад гр. Зянкевіча аб фізычным узгадаваньні, лічучы гэтую справу дужа важнай у справе ўзгадаваньня нагул і констатуючы, што гэтая галіна яшчэ мала разьвіта ў беларускіх гімназіях, пастаняўляе:

прасіць Ц. Б. Шк. Раду і Пэдаг. Рады гімназіяў зьвярнуць увагу на фізычнае ўзгадаваньне і палепшыць яго, зрабіўшы дзеля гэтага ўсе магчымыя высілкі.

## Зауважаныя абмылкі у друку:

| Стр.: | Радок: | Надрукована: | Павінна быць: |
|---|---|---|---|
| 4 | 11 зьнізу | врычын | прычын |
| 5 | 9 зьнізу | з налі | з намі |
| 13 | 9 зьверху | церква | царква |
| 15 | 22 зьнізу | прыныпам | прынцыпам |
| 17 | 10 зьнізу | ад сабе | ад сябе |
| 19 | 16 зьнізу | тоькі | толькі |
| 24 | 6 зьверху | жалежнасьці | залежнасьці |
| 30 | 17 зьнізу | ў дадзены | ў дадзеным |
| „ | 16 „ | штодзенным | штодзенны |
| 32 | 20 зьнізу | сябе | сабе |
| 38 | 9 зьнізу | правадыр | прадстаўнік |
| 39 | 21 зьверху | ўзробіўшыся | ўзброіўшыся |
| 41 | 14 зьверху | акражаючым | акружаючым |
| 44 | 8 зьнізу | раб можа | раб тады можа |
| 54 | 10 зьнізу | усе слоўнікі | усе „талковыя“ слоўнікі |
| 59 | 18 зьверху | адняючая | яднаючая |
| 62 | 21 зьверху | назые | называе |
| 82 | 7 зьверху | сябе, | сябе |
| 85 | 19 зьнізу | ў яго | ў яе |
| 98 | 11 зьнізу | пасьлядаваньняў | насьлядаваньняў |